29 чэрвеня 2017 | № 25 (539)

# Новы час

Шэдэўр беларускай архітэктуры на мяжы знікнення
стар. 23

novychas.by

ISSN 2218-2144




• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

5 ДЗЯРЖАВА ЗРАБІЛА ПАМЫЛКУ, КАЛІ ПАСАДЗІЛА ПАТРЫЁТАЎ

Фігурант «Справы патрыётаў» Сяржук Стрыбульскі, вызвалены 27 чэрвеня, падзяліўся сваімі ўражаннямі ад зняволення ды распавёў пра перспектывы разгортвання працэсу

6 СОНЕЧНЫЯ МАТУЛІ ХВОРЫХ НА РАК ДЗЯЦЕЙ

Матулі пакутуюць больш за ўсіх, калі іх дзеці хварэюць. Асабліва, калі хвароба — рак

7–18 Літаратурная Беларусь

22 ЗАГАДКА ДАВІДА КЕЙМАХА

7 верасня 1943 года Кеймах яшчэ прысутнічаў на сходзе камандзіраў. Праз тыдзень яго не стала сярод жывых. Далей савецкія ідэолагі, нібы змовіўшыся, паводзілі сябе так, быццам яго не існавала ўвогуле



# Танкі і людзі

## Фігуранты «справы патрыётаў» выходзяць на волю


Алесь КІРКЕВІЧ

Патрыётаў вызваляюць... Не ўсіх адразу, па адным, па два, па тры на дзень. Зноў усё паўтараецца, як пяць і сем, і дзесяць гадоў таму. Спачатку людзей садзяць, заганяючы грамадства ў роспач, пасля — выпускаюць. Усе шчаслівыя. «Лібералізацыя».

Зараз хлопцаў выпускаюць пад грукат гусеніц танкаў і бранятэхнікі, якая ганяе па праспекце туды-сюды, напярэдадні 3 ліпеня. З аднаго боку — шматтоныя махіны з боезапасам, гатовыя знішчаць не толькі вулічныя слупы, але і варожыя арміі. З іншага — сціплыя ўсмешлівыя хлопцы ў чорных майках, абутыя ў красоўкі без шнуркоў.

Людзі і танкі. Людзі, мацнейшыя за танкі. Сапраўды, «патрыёты» яскрава розняцца ад тыпажоў палітвязняў, да якіх усе мы звыкліся за доўгія гады «беларускай зімы». Няма тут скаргаў на ўмовы ўтрымання ў камерах, няма гучных палітычных заяваў пра гатоўнасць «далейшага супрацьстаяння з рэжымам», яны і фатаграфуюцца, і каментары журналістам даюць з неахвотай.

Чаму? Бо гэта людзі іншага гатунку. «Іншая якасць чалавечага матэрыялу», як кажуць. «Патрыёты» ніколі нікому нічога не абяцалі: ані светлай будучыні, ані хуткіх рэформаў, ані зменаў у краіне за адзін дзень... Кожны з іх рабіў сваю справу на сваім месцы: служыў у вайсковай частцы, выкладаў асновы дамедычнай дапамогі ў «Чырвоным крыжы», распаўсюджваў беларускія кнігі. Звычайная метадычная праца для тых, хто любіць сваю краіну.

Яны не «прафесійныя рэвалюцыянеры» і не «прафесійныя сядзельцы», здатныя любое затрыманнеператварыць у шоў, зарабіўшы такім чынам медыйны і палітычны капітал. А навошта? Дні і ночы ў зняволенні — гэта ўсяго толькі згублены час, за які можна было столькі ўсяго зрабіць! Бо арыентацыя была на вынік. Замест словаў — праца.

З іншага боку, для кожнага з іх дні «там» — неацэнны досвед. Нехта зразумеў, што патрэбна стварыць сям'ю, нехта ўразіўся колькасцю маладых хлопцаў, арыштаваных «за наркотыкі», якім у жыцці нічога не цікава, якія блытаюць геаграфічныя поўдзень і поўнач, не могуць назваць сталіцы нашых краін-суседзяў. Кожны зрабіў свае высновы: пра грамадства, пра блізкіх, пра сябе самога.

Для ўладаў, падобна, гэта чарговая гульня: пасадзілі — патрымалі — выпусцілі — зноў пасадзілі — зноў выпусцілі... Бясконцае гойданне на арэлях, якое аналітыкі будуць называць ці то «пахаладаннем», ці то «адлігай». Ёсць, маўляў, просты рэцэпт, як зрабіць чалавека шчаслівым: спачатку зацісні яму пальцы ў абцугі, пасля — адпусці. І ўсе зноў шчаслівыя. Так і ў нас: у чарговы раз «жыть стало лучше, жить стало веселей...»

А каб было яшчэ весялей, вызваленні прымеркавалі да параду 3 ліпеня. Атрымаліся вызваленні пад танкавы грукат. Сімвалічна, што людзей, якіх дзяржпрапаганда абвінавачвала ва ўсіх грахах ды параўнала з «фашыстамі», вызваляюць бліжэй дня вызвалення Мінску ад фашыстаў. Такія вось добрыя дзяржаўныя мужы: збіўшы спачатку з ног, пасля ласкава падаюць руку, каб падняцца.

Але ці ўсё так прыгожа насамрэч? Відаць, не. Наўпрост, структура, якая сфабрыкавала і вяла «справу патрыётаў», мякка кажучы, не справілася. Ані доказаў, ані сведчанняў — нічога няма. Таму і артыкул перакваліфікавалі, таму і перакінулі іншай структуры — маўляў, разбірайцеся, у нас усё!


Фота: Арцём Лява

А ў чым разбірацца, калі няма складу злачынства, рэальнай зброі, сведчанняў падрыхтоўкі ці тое перавароту, ці тое абстрактнага «атраду баевікоў» з невядомымі мэтамі? З чаго справу ляпіць? Зэро, няма матэрыялаў. Значыць — адпускаць...

І тут, зноў жа, цікавы момант. Хто папросіць прабачэння ў хлопцаў за разбітыя галовы, выламаныя дзверы, нервы, слёзы і бяссонныя ночы іх родных? Хто прызнае, што дзяржава дапусціла памылку, пасадзіўшы патрыётаў, гатовых бараніць яе ад любой знешняй пагрозы без прымусу і фінансавай матывацыі? Ніхто. Разабраліся — адпусцілі — «акт гуманізму» здзейснілі.

Кажуць, што вайна, яе гістарычныя акалічнасці і культурныя коды пакінулі незагойную рану ў нашай свядомасці. Усё ў нас круціцца вакол вайны, Брэсцкай крэпасці і купальскіх вянкоў, якія пускаюць па Бугу 22 чэрвеня, пафасных парадаў і калонаў тэхнікі 3 ліпеня, хвілінаў маўчання і гучных кананадаў. Гэтыя міфы жывуць у нашай свядомасці, як дамавікі і лазнікі жылі ў галовах беларускіх сялянаў 100 гадоў таму.

Міфалагічнае разуменне гісторыі заўжды схіляе да паўтораў, бо міфы — гэта закальцаваная гісторыя, без пачатку і канца, яна круціцца да бясконцасці, як выдуманыя і цалкам праўдзівыя аповеды ветэранаў, якія пераказваюцца штогод на 9 мая. Так і тут: улада, мабыць, малпуючы Сталіна, спачатку садзіць патрыятычныя вайсковыя кадры, пасля адпускае. Добра, хоць не падчас вайсковай катастрофы, а толькі ва ўмовах яе пагрозы.

Наіўна чакаць, што нехта будзе перад кімсьці выбачацца. Сталінская сістэма не выбачалася ні перад кім, нават калі чалавек цудам вяртаўся дадому. Але нават тая людажэрная сістэма мела разуменне, што карысныя кадры маюць быць на сваіх месцах. Бог з імі, выбачэннямі, але хлопцаў па вызваленні маюць аднавіць на іх месцах працы, вярнуць пасады і пагоны. Чаму? Бо людзі важнейшыя за танкі. А гэтыя хлопцы — яшчэ і мацнейшыя за танкі.

# Суд не задаволіў пазоў да Шуневіча

**Суд Цэнтральнага раёна Мінска адхіліў пазоў былога супрацоўніка Крычаўскага РАУС да Міністэрства ўнутраных спраў аб аднаўленні на працы і кампенсацыі маральнай шкоды.**

Ігар Вусік назваў рашэнне суддзі Аляксандра Длужнеўскага несправядлівым і заявіў, што будзе абскарджваць яго ў Мінскім абласным судзе.

27 чэрвеня ў Цэнтральным судзе Мінска пачаўся разгляд пазову звольненага з крычаўскай міліцыі падпалкоўніка Ігара Вусіка да міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча. Цяпер ужо падпалкоўнік у запасе Ігар Вусік падаў пазоў з патрабаваннем аднавіць яго на працы, адмяніць спагнанне, выплаціць заробак, які ён страціў з прычыны вымушаных прагулаў, і кампенсаваць маральную шкоду.

Акрамя міністра Шуневіча, сярод пазваных начальнік Крычаўскага РАУС Станіслаў Чупрын. Ён прысутнічаў на судовым разборы, а вось міністр Ігар Шуневіч у суд сам не з'явіўся, а накіраваў замест сябе двух прадстаўнікоў: намесніка начальніка Магілёўскага ўпраўлення міліцыі па кадрах і ідэалогіі Руслана Цясленку і намесніка начальніка ўпраўлення ўласнай бяспекі МУС па Магілёўскай вобласці Віталя Сазонава.

**Паводле «Радыё Свабода»**

# Маёмасць Севярынца арыштуюць

**Судовыя выканаўцы папярэдзілі сустаршыню Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Паўла Севярынца, што днямі пачнуць «апісваць і арыштоўваць яго маёмасць».**

Адбудзецца гэта, калі палітык не сплаціць штрафы, прызначаныя за ўдзел у мірных акцыях 17 лютага і 31 сакавіка.

— Помсцяць за вясновыя акцыі, — упэўнены Севярынец. — Насамрэч, у мяне асабіста няма магчымасці выплочваць гэтыя абсурдныя штрафы, як няма ў нашай сям'і асаблівай маёмасці — хіба пральная машына і лядоўня ў здымнай аднапакаёўцы, ды і ўсё. Напэўна, адключаць тэлефон ці зробяць невыязным. Магчымасці салідарнасці не бязмежныя — за апошні год такіх штрафаў было паўтара дзясяткі. Калі выканаўцы пагодзяцца на растэрміноўку — з дапамогай сяброў адаб'емся. Калі не — значыць, загад душыць «жэстачайша».

— Але паказальна, — кажа сустаршыня БХД, — што робяць гэта напярэдадні 3 ліпеня і сесіі ПА АБСЕ ў Мінску.

**Паводле bchd.info**

# Матолька супраць Макарава

Алесь КІРКЕВІЧ

**Пасля таго, як прадстаўнік Міністэрства абароны параўнаў праціўнікаў парадаў у цэнтры Мінска з нашчадкамі Вільгельма Кубэ, блогер Антон Матолька рыхтуецца да верагоднага калектыўнага іску ў суд.**

Антон Матолька стварыў адразу дзве грамадскія петыцыі: за парады ў цэнтры Мінска і супраць іх. Першая пакуль набрала каля 40 галасоў, другая — блізу 4000. Такую тактыку блогер абраў, каб аб'ектыўна праверыць колькасць прыхільнікаў і апанентаў прысутнасці вялізнай колькасці вайсковай тэхнікі ў цэнтры сталіцы, якая часам прыводзіць да нечаканых эксцэсаў.

У адказ прэс-сакратар Мінабароны палкоўнік Уладзімір Макараў заявіў, што вайсковыя парады на 3 ліпеня праводзіліся і будуць праводзіцца надалей, каб свята «не стала святам беларускіх радыкалаў, ідэйных нашчадкаў Вільгельма Кубэ».

У каментары «Новаму Часу» Антон Матолька паведаміў, што не збіраецца пакідаць справу без увагі і, магчыма, звернецца ў суд:

— Я хачу, каб гэты чалавек больш не працаваў на сваёй пасадзе і не атрымліваў вайсковай пенсіі. Міністэрства абароны не мае права заплюшчваць вочы на такія выказванні. Магчыма, гэта будзе калектыўны іск ад падпісантаў петыцыі супраць парадаў, бо ён абразіў не толькі мяне, але ўсіх падпісантаў. Нават калі такі іск падасць 10% падпісантаў — гэта будзе амаль 400 чалавек.

Грамадскасць даўно абураецца вайсковымі парадамі ў цэнтры сталіцы. Людзі наракаюць, што грукат тэхнікі перашкаджае працы і адпачынку, рэпэтыцыі і парады перашкаджаюць дарожнаму руху і ствараюць транспартны калапс, цяжкая вайсковая тэхніка псуе дарожнае пакрыццё і разметку, і гэтак далей.

Грамадства не супраць парадаў. Але прапануе праводзіць іх не ў цэнтры горада, а на прызначаных для гэтага палігонах.

# Што найбольш уразіла Данілава за кратамі?

Алесь КІРКЕВІЧ

**Фігурант «Справы патрыётаў» у лісце да сябра распавёў пра «адно з самых вялікіх сваіх экзістэнцыйных патрасенняў». Звязана яно не з ціскам адміністрацыі, умовамі ўтрымання альбо аспектамі крымінальнай справы...**

Найбольшым патрасеннем аказалася колькасць моладзі, якая сядзіць па 328-м артыкуле, то бок за «абарот наркатычных сродкаў», а таксама асаблівасці гэтай публікі. «Збольшага гэта маладыя наркаманы, так званыя «спайсы». Гэта хлопцы ад 14 гадоў, а то і раней», — піша Данілаў.

У Беларусі дзейнічае даволі жорсткае заканадаўства адносна парушальнікаў дадзенага артыкула: ужыванне караецца тэрмінам ад 2 да 5 гадоў зняволення, распаўсюд — ад 8 да 15 гадоў, распаўсюд, які стаў прычынай смерці, — да 20 гадоў за кратамі. Згодна адпаведнаму дэкрэту, умоўна-датэрміновае вызваленне асуджаных па арт. 328 КК РБ не практыкуецца.

«Самае цікава, — працягвае Данілаў, — што тыя, каго за гэты артыкул трымаюць, зусім не разумеюць стан, у які яны трапілі! Хлопцу 20 гадоў ад нараджэння, яму далі 15, а ён сядзіць і смяецца. Ён проста не ўсведамляе свайго стану. Я заўважыў, што мазгі ім «выключае» цалкам».

Далей Данілаў прыводзіць прыклад хлопца, з якім давялося перасякацца ў СІЗА: «Мой 19-гадовы сукамернік здолеў назваць пяць еўрапейскіх краінаў. Са сталіц ведае толькі Мінск і Маскву. Пра такія краіны, як Славакія ці Бельгія, ён не чуў ніколі! Я ўжо не кажу, каб ён назваў іх сталіцы, бо ён нават сталіцу Украіны не здолеў назваць. Проста не ведае. Ён нічога не ведае… Не разумее значэння словаў «манархія», «грыжа», самых простых побытавых рэчаў. Пры гэтым — вельмі абаяльны чалавек. Проста ад 14 гадоў ужываў «легальныя» (як ён кажа) наркотыкі. І такіх тут тысячы.

Нагадаем, што Віктар Данілаў перад затрыманнем працаваў у школе, вёў курс медыцыны ў «Чырвоным Крыжы» ды прымаў удзел у летніках для моладзі бабруйскага спартова-патрыятычнага клубу «Патрыёт». Імаверна праз тое, што Данілаў увесь час працаваў з моладдзю ў якасці выхавацеля, доля моладзі, якая трапіла пад уплыў наркотыкаў, яму баліць асабліва.

# «Нават у самым жахлівым сне не маглі ўявіць»

**Улады хочуць увесці ў сельскагаспадарчы абарот некаторыя плошчы зоны адчужэння.**

Няўжо радыяцыя сышла з забруджаных тэрыторый раней усіх магчымых фізічных тэрмінаў?

Вядомы на Гомельшчыне фізік-ядзершчык Юрый Варонежцаў у апошнія гады існавання Савецкага Саюза быў дэпутатам Вярхоўнага Савета. Ён увaходзіў у склад камісіі па экалогіі. Менавіта гэтая камісія займалася распрацоўкай канцэпцыі бяспечнага пражывання на тэрыторыях, якія падверглiся забруджванню радыенуклідамі ў выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

«Да распрацоўкі гэтай канцэпцыі былі прыцягнуты навукоўцы з сусветнымі імёнамі, якія даследавалі паводзіны радыяцыі пасля бамбардзіровак Хірасімы і Нагасакі, працавалі ў зонах выпрабаванняў атамнай зброі, — узгадвае Юрый Варонежцаў.— Нават у жахлівым сне мы не маглі ўявіць сабе тое, што зараз адбываецца ў Беларусі. Некаторых навукоўцаў, якія тады праводзілі даследаванні ў 30-кіламетровай зоне і рабілі разлікі перспектыў яе выкарыстання, сёння ўжо няма на гэтым свеце, бо тады яны атрымалі надта вялікія дозы апрамянення. Але ніхто нават і думкі не дапускаў, што праз нейкія тры дзясяткі гадоў кіраўніцтва Беларусі пажадае пачаць вырабляць у гэтай зоне сельгаспрадукцыю, і ўвогуле дазволіць там камусьці жыць і працаваць».

Паўраспад — імавернасная характарыстыка, і ў залежнасці ад каэфіцыенту пераходу тэрыторыя, на якую выпаў той ці іншы элемент, можа і ачысціцца, а можа, у залежнасці ад пэўных умоў, напросту перайсці зусім у іншы стан альбо міграваць у іншае месца.

«Калі мы распрацоўвалі канцэпцыю пражывання на забруджаных тэрыторыях, мы ў якасці мінімальнага тэрміну, праз які ў 30-кіламетровую зону можна будзе вярнуцца з гаспадараннем, разглядалі час працягласцю ад 5 да 10 перыядаў паўраспаду цэзію і стронцыю. А гэта — ад 100 да 300 гадоў. Цэзій у нас найбольш кантралюецца, бо выпаў на значна большай тэрыторыі, і яго кантроль менш стратны нават за кантроль забруджвання стронцыем.

У той жа час, калі цэзій выводзіцца з арганізму чалавека альбо жывёлы, то стронцый накопліваецца, і ніякім чынам яго нельга вывесці, нават калі перад забоем карміць жывёлу чыстымі кармамі.

А перыяд паўраспаду плутонію-239 — увогуле 24 000 гадоў! Плутоній-241 пры паўраспадзе пераходзіць у амерыцый-241, і гэты працэс у сусветнай навуцы ўвогуле вельмі слаба даследаваны. Пра тое, як амерыцый праходзіць па харчовым ланцугу, сёння немагчыма з пэўнасцю сказаць.

А ў прадукцыі, якая атрымліваецца на забруджаных тэрыторыях, ні плутоній, ні амерыцый не нармуюцца і не кантралююцца», — гаворыць навуковец.

На думку Юрыя Варонежцава, адзіным накірункам выкарыстання тэрыторый, якія сёння ўваходзяць у склад Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка (ПДРЭЗ), можа стаць будаўніцтва там сонечных электрастанцый. Некаторыя пункты ў гэтай зоне лічацца кропкамі з найбольшай у Беларусі колькасцю сонечных дзён на год, і там магчыма было б атрымліваць даволі шмат таннай экалагічна чыстай электраэнергіі без вываду для гэтых мэтаў земляў, якія сёння выкарыстоўваюцца ў сельскай гаспадарцы ды іншых галінах.

Тым не менш навуковец роспачна кажа, што сёння ў краіне ёсць шэраг навуковых супрацоўнікаў пры пасадах, якія паводле ўказу абгрунтуюць усё, што заўгодна. У тым ліку і тое, што радыяцыя сышла з забруджаных тэрыторый раней усіх магчымых фізічных тэрмінаў.

Сёлетняя спроба вываду некаторых участкаў Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка і перадача іх пад гаспадаранне ўжо не першая. У 2011 годзе такое жаданне выказваў Гомельскі аблвыканкам, якому ўсё не хапае пасяўных плошчаў. І тады амаль усе кампетэнтныя дзяржаўныя органы далі цалкам адназначныя адмоўныя заключэнні на гэтую ініцыятыву.

У выніку шматлікіх нарад, пасяджэнняў, заключэнняў, якія адбываліся напрыканцы 2011 года, усе дзяржорганы сышліся ў меркаванні, што ў агляднай перспектыве выкарыстанне якіх-небудзь участкаў Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка немагчымае.

Праўда, тады аб перадачы некаторых участкаў з-за калючага дроту, якім абкутаная зона адчужэння, хадайнічаў Гомельскі аблвыканкам. Цяпер жа гаручэнне аб тым, што нейкія часткі «зоны» можна аддаць пад гаспадаранне, прагучала з вуснаў самога кіраўніка дзяржавы. І ёсць вельмі вялікая імавернасць, што зараз нас чакае «абгрунтаванне» магчымасці выкарыстання тэрыторыі ПДРЭЗ для гаспадарання.

Якія меркаванні будуць цяпер у афіцыйных органаў, як яны пачнуць абгрунтоўваць патрэбу выканання даручэнняў Лукашэнкі і куды падзенуць свае лісты і заключэнні шасцігадовай даўніны — пакажа час.

**Паводле greenbelarus.info**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Ачомаліся? Не да канца…

Сяргей САЛАЎЁЎ

**У кансерватыўным сцэнары бюджэту Беларусі на наступны год улічваюцца «памылкі залішняга аптымізму», якія «ўжо вядомыя ўраду».**


Фота www.ugaga.net

Пра гэта на сумесным пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі 26 чэрвеня распавёў першы віцэ-прэм'ер Беларусі Васіль Мацюшэўскі. І гэта, бадай, лепшая навіна тыдня — калі гэта праўда.

Па словах віцэ-прэм'ера, урад распрацоўвае два сцэнары развіцця эканомікі ў 2018 годзе. Разглядаюцца два сцэнары — кансерватыўны і мэтавы. У 2018 годзе прагназуецца рост ВУП у на 1,1%. Але пры гэтым, як сказаў Мацюшэўскі, эканамічны прагноз складаецца зыходзячы з курса ў 70 расійскіх рублёў за долар і кошту на нафту маркі Urals — $40 за барэль. Таксама ў прагнозах «улічаны эфект нізкай базы і «калійны прастой».

Няўжо мы дачакаліся таго, што ўрад нарэшце вылез са свайго «паралельнага сусвету» і зірнуў на беларускую сітуацыю рэальна? І нават пачаў «сціскаць» эканамічныя паказчыкі, сыходзячы з самага негатыўнага сцэнару развіцця сітуацыі? Нагадаем, што зараз урад нашага асноўнага гандлёвага партнёра — Расіі — толькі задумваецца пра тое, каб «апусціць» свой рубель да RUB65/$1, а Urals — 46 долараў за барэль.

Зразумела, што калі мы выпрацоўваем жорсткі сцэнар, у выпадку яго «мяккасці» нам будзе значна прасцей.

Паводле словаў Мацюшэўскага, другі сцэнар — мэтавы — распрацоўваецца ў перспектыве пяцігадовага плана развіцця эканомікі і прадугледжвае правядзенне цэлага шэрагу структурных пераўтварэнняў. Праўда, ён не ўдакладніў, якія гэта «структурныя пераўтварэнні». Але пачатак абнадзейвае.

Галоўнае, каб у гэтым плане таксама былі закладзеныя экспромты кіраўніка дзяржавы кшталту «заробак у 1000 рублёў — кроў з носу» і «ніякіх рэформаў, пакуль я жывы».

Але бачна, што сваю пазіцыю змяняе і Аляксандр Рыгоравіч. Днямі ён у чарговы раз анансаваў рэвалюцыйныя палёгкі для IT-сферы краіны, а 23 чэрвеня падпісаў новую рэдакцыю ўказа «Аб парадку правядзення і кантролю знешнегандлёвых аперацый».

Памятаеце, некалі той самы Лукашэнка грукаў па стале і патрабаваў вяртання грошай, якія «завіслі ў Расіі» і тэрміновую аплату паслуг? Забудзьцеся, усё вяртаецца на звыклыя колы. Дакумент павялічвае тэрміны завяршэння знешнегандлёвых аперацый: пры экспарце — з 90 да 180 дзён з даты адгрузкі тавараў (аказання паслуг), пры імпарце — з 60 да 90 дзён з даты правядзення плацяжу, а пры выкананні (аказанні) будаўнічых работ (паслуг) за мяжой — не пазней за дату завяршэння нарматыўнага тэрміну будаўніцтва аб'екта.

Таксама ўказ здымае некаторыя неактуальныя ўжо бар'еры, якія стрымліваюць рост знешняга гандлю. Напрыклад, не прызначаюцца тэрміны для разлікаў паміж аператарамі сотавай сувязі пры аказанні паслуг роўмінгу, а таксама пры правядзенні разлікаў ГА «Беларуская чыгунка» з чыгуначнымі адміністрацыямі іншых краін. І цяпер ёсць магчымасць завяршыць знешнегандлёвую аперацыю, калі запазычанасць прызнаная безнадзейнай да спагнання. Але не раней чым праз тры гады з даты яе ўтварэння.

Нашы крокі па «лібералізацыі і аптымізацыі» ацэньваюць замежныя эксперты. Напрыклад, Беларусь заняла 65-е месца (сярод 127 удзельнікаў) у рэйтынгу сацыяльна-прагрэсіўных краін. Рэйтынг складаюць амерыканскія эксперты, якія вывучаюць стан медыцыны, умовы жыцця, адукацыю, доступ да тэхналогій, абарону правоў чалавека, талерантнасць. Лідарам спісу з'яўляецца Данія, далей — Фінляндыя, Ісландыя, Нарвегія, Швейцарыя. На апошніх месцах — Афганістан, Емен, Гвінея, Нігер, Ангола, Чад.

Новы рэйтынг падаў і сайт globalfirepower.com. Яго даследаванне прысвячаецца вайсковай магутнасці дзяржаў, зыходзячы з больш чым паўсотні фактараў, у тым ліку геаграфіі, узроўню развіцця вытворчасці, разнастайнасці ўзбраення ў войску. Агулам у 2017 годзе былі даследаваныя 132 краіны, і Беларусь заняла ў гэтым спісе неблагое 50-е месца.

У лідарах, зразумела, ЗША, Расія і Кітай. Сярод нашых суседзяў высокае 18-е месца займае Польшча. Украіна — на 30-м радку, што цалкам тлумачальна: краіна, якая вядзе вайну, не можа нядбайна ставіцца да свайго войска. Літва ў спісе 97-я, Латвія — на 103-м месцы.

Праўда, невядома, як паўплывае на гэты рэйтынг інцыдэнт падчас трэніроўкі вайсковага парада, калі наш хуткі танк паслізнуўся на лужыне і знёс слуп проста ў цэнтры Мінска. Падаецца, пару балаў наконт вайсковай вывучкі жаўнераў нам зняць проста павінны.

Дый з рэйтынгам «сацыяльнай прагрэсіўнасці» не ўсё так файна. Відавочна, што нашу сістэму адукацыі ацанілі асобна. А трэба было — у комплексе, з постэфектамі. Адзначыўся на тыдні іншы намеснік прэм'ера, Васіль Жарко, які распарадзіўся аб стопрацэнтным прымусовым размеркаванні на працу студэнтаў ВНУ і каледжаў, якія прайшлі бюджэтную форму навучання. То бок, беларускім ВНУ і каледжам раптам забаранілі выдаваць «свабодны дыплом».

Жарко і на пасадзе міністра аховы здароўя дзівачыў. Памятаеце, быў «свіны грып», калі з паліц аптэк зніклі лекі? А міністр за дзень да афіцыйнага абвяшчэння эпідэміі сцвярджаў у парламенце, што дастаткова абмежавальных захадаў? А як ён атрымаў кватэру за 500 тысяч долараў і пабудаваў катэдж за 1 мільён долараў, калі заробак доктара быў каля 300 усё тых жа долараў? А карупцыйны скандал 2009 года з тым самым размеркаваннем студэнтаў? Закінуць былому міністру ёсць шмат чаго.

А цяпер ён адным распараджэннем зруйнаваў будучыню Балонскага працэсу ў Беларусі, якая і так не вельмі ўстойліва на нагах стаяла. Бо Балонскі працэс прымусовага размеркавання, тым больш «задняй датай», не дапускае. А за выкананне «дарожнай мапы» гэтага працэсу нам даваць справаздачу ўжо вельмі хутка.

Ну і пра прыемнае. Сквер імя Эдуарда Вайніловіча ў Мінску ўсё ж з'явіўся. 27 чэрвеня дэпутаты Мінскага гарсавета падтрымалі рашэнне Мінгарвыканкаму і надалі яго імя зялёнай зоне ў межах вуліц Савецкай і Свярдлова.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### Святлана Алексіевіч

**Беларуская пісьменніца, лаўрэатка Нобелеўскай прэміі ў літаратуры выступіла ў Еўрапарламенце.**

Алексіевіч расказвала, што камунізм не мёртвы, а канец «чырвонага чалавека» быў толькі марай і рамантычнай ідэяй 1990-х. Жаданне развітацца з камунізмам, кажа яна, было ў элітаў, у прастага люду ж была настальгія. Высілкі апазіцыі і дэмакратычна настроеных творцаў працавалі толькі ў іх асяроддзі.

Пісьменніца распавяла, што ездзіла па вёсках і чула, як людзі пакрыўджаныя на Лукашэнку за тое, што іх мары не спраўдзіліся, за несправядлівасць у грамадстве. У Беларусі, заўважае яна, пераходнае пакаленне, выхаванае савецкай культурай, бо людзям распавядаюць не гісторыю Беларусі, а міфы, якія «пакінуў той час».

Паводле пісьменніцы, у Беларусі апазіцыя мае 25–30% уплыву ў грамадстве, таму лепей мець адзінага кандыдата, але не «месію». Апазіцыі, кажа яна, трэба тлумачыць, што такое Еўропа і што яна дае, акрамя крэдытаў Лукашэнку.

Пісьменніца мяркуе, што сёння «час маленькіх крокаў» — трэба ісці на выбары і спрабаваць перамагчы, спрабаваць прасоўваць «сваіх людзей».

Савецкі чалавек карысны Пуціну, разважае Алексіевіч, бо мае «вечнае рускае цярпенне» і не пратэстуе, калі ежу спальваюць, хоць сам галодны.

У той жа дзень у Еўрапарламенце выступалі праваабаронца Алесь Бяляцкі, дэпутаткі Ганна Канапацкая і Алена Анісім, а таксама палітыкі Віталь Рымашэўскі і Анатоль Лябедзька.



### Ігар Кізім

**Пасла Украіны ў Беларусі выклікалі ў МЗС, дзе выказалі незадаволенасць стасункамі з нашымі журналістамі.**

Ігар Кізім у адказ выказаў здзіўленне.

«Учора ці пазаўчора прайшлі вучэнні «Славянскае братэрства–2017» Беларусі, Расіі і Сербіі. Мой ваенны аташэ паехаў туды, для іх зладзілі паказальны фарс. Ім паказалі тэатралізаванае шоў па захопе тэрарыстычнай групы на дамбе. Вельмі класна зроблена. А самі вучэнні прайшлі ў іншым месцы, куды не запрасілі ніводнага назіральніка, ваеннага аташэ. Трэба дэманстраваць большую адкрытасць», — казаў Кізім, выступаючы з рэплікай на канферэнцыі Ostrogorski Forum у Мінску.

Пасля выкліку ў МЗС Кізім адзначыў: «Мне шкада, што журналіст партала tut.by выхапіў з майго выступу не тое, што было там галоўным». «Можа быць, мая памылка, што я быў занадта адкрытым, — прызнаў пасол Украіны. — Ідэя мая галоўная была — што трэба больш празрыстасці. Беларусь, калі хоча быць пачутая, павінна дзейнічаць з большай адкрытасцю. Калі на вучэнні «Захад–2017» столькі ўвагі, трэба праяўляць асаблівую адкрытасць», — адзначыў пасол, размаўляючы з журналістамі ў ходзе прыёму ў амбасадзе Украіны ў Мінску з нагоды Дня канстытуцыі Украіны.

Адзначым, што Кізім не зважыўся ад прэсы пасля гэтага інцыдэнту, і шчыра распавядае і пра свой выклік, і пра сваю пазіцыю. І нас, і Украіну можна толькі павіншаваць з такім дыпламатам.



### Вікторыя Азаранка

**Зорка беларускага тэнісу вярнулася на корт, і, адпаведна, у рэйтынг Жаночай тэніснай асацыяцыі.**

Што да корта, то ў турніры на Мальёрцы яна выйграла ў напружаным матчы з японкай Рысай Адзакі і прайграла 19-гадовай харватцы Ане Конюх. Прычым, для Азаранкі гэты турнір быў «разміначны» — яна разглядала яго як першую спробу сілаў перад стартам Уімблдону 3 ліпеня.

Такім чынам, правёўшы першыя матчы, Вікторыя вярнулася ў рэйтынг WTA на 678 месца. Дзякуючы выхаду ў другі круг турніру на Мальёрцы, Азаранка набрала 30 балаў.

Першай ракеткай свету па-ранейшаму застаецца немка Ангеліка Кербер. Следам за ёй ідзе румынка Сімона Халеп, замыкае тройку лідараў чэшка Караліна Плішкава.

Сярод беларусак найлепшыя вынікі мае Аляксандра Сасновіч — у яе 87-е месца.

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Беларускі парадокс: сіла дзяржавы — прычына яе слабасці

**Ужо 23 гады мы жывём ва ўмовах пераходнага перыяду. Незразумела толькі, адкуль і куды пераходзім.**

Ніводзін даклад адзінага палітыка (АП) на Усебеларускіх народных сходах не абышоўся без разваг пра моцную ўладу і моцную дзяржаву. Нагадаю, першае веча адбылося ў кастрычніку 1996 года, пятае — у чэрвені 2016-га.

Згодна з папулярным у часы маёй маладосці анекдотам, сіла савецкіх сталявараў — у плаўках. А ў чым сіла беларускай улады і дзяржавы?

Сваю версію ўладальнік дыплома гісторыка і пентачэмпіён прэзідэнцкіх выбарчых кампаній выклаў яшчэ 23 лістапада 1996 года ў інтэрв'ю нямецкай газеце «Handelsblatt». Прывяду яе скарочаны варыянт: «Гісторыя Германіі — гэта злепак у нейкай ступені гісторыі Беларусі на пэўных этапах. <…> Гітлер сфармаваў магутную Германію дзякуючы моцнай прэзідэнцкай уладзе. <…> Германія ўзнялася дзякуючы моцнай уладзе, дзякуючы таму, што ўся нацыя здолела кансалідавацца і аб'яднацца вакол моцнага лідара. <…> Кіраўнік дзяржавы — прэзідэнт, яго аўтарытэт, яго вядучая роля выходзяць на гэтым этапе на першае месца. <…> Гэтаму вучыць нас нямецкая гісторыя».

Безумоўна, у якасці прыкладу можна было абраць не такую адыёзную фігуру, якой для беларусаў з'яўляецца нямецкі фюрэр. Напрыклад, першага прэм'ер-міністра Сінгапура Лі Куан Ю. Але так ужо атрымалася, а з песні слоў не выкінеш, хоць пэўныя спробы ў гэтым кірунку рабіліся.

Між тым складана не пагадзіцца, што ва ўмовах сістэмных крызісаў роля асобы ў гісторыі павышаецца. Дастаткова прыгадаць Уінстана Чэрчыля і Дэн Сяапіна. Без першага немагчыма сабе ўявіць Вялікабрытанію ў гады Другой сусветнай вайны, без другога — старт кітайскіх рэформаў.

Масавая кансалідацыя і аб'яднанне вакол моцнага лідара на мове паліталогіі азначае пераход грамадства з рэжыму штодзённасці (палітычнай апатыі) у рэжым мабілізацыі. У якасці пачатковай умовы мабілізацыі выступае занепакоенасць людзей наконт уласнага становішча і сітуацыі ў грамадстве. Адначасова адбываецца максімальнае спрашчэнне «структуры сацыяльнай прасторы» па схеме «свае — ворагі», якое «аказваецца асобасна пазначаным» (Юрый Лявада). Апошняе якраз і азначае патрэбу ў моцным лідары.

Пераход насельніцтва Вялікабрытаніі, нягледзячы на яго дэмакратычны бэкграўнд, у мабілізацыйны стан ва ўмовах масіраваных авіяналётаў люфтвафэ быў непазбежным. Пры гэтым у масавай свядомасці не ўзнікла сумненняў, каго лічыць сваім, а каго ворагам. Нацыя згуртавалася і прад'явіла попыт на моцную ўладу на чале з аўтарытэтным лідарам. І такі лідар знайшоўся.




**На працягу 23 гадоў пад сілай дзяржавы АП разумеў яе здольнасць не дапускаць узнікнення самастойных цэнтраў прыняцця рашэнняў. Сваёй мэты ён дасягнуў. Вынік — прыпыненне развіцця**

У пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя бомбы на галовы беларусаў не падалі. Але гарбачоўская Перабудова абудзіла, а наступны за ёй сістэмны крызіс з яго поўным наборам складнікаў (эканамічным, палітычным і сацыяльным) канчаткова перавёў грамадства са звыклага стану апатыі ў стан палітычнага ўзбуджэння. Большасць успрыняла тое, што адбываецца, як распад звыклай карціны свету, што было раўназначна страце ідэнтычнасці.

### Замест кансалідацыі — раскол

Базавай ідэнтычнасцю большасці беларусаў у год «найвялікшай геапалітычнай катастрофы XX стагоддзя» была ідэнтычнасць чалавека савецкага. Сярод яе галоўных характарыстык Юрый Лявада вылучаў прымусовую самаізаляцыю, дзяржаўны патэрналізм, эгалітарысцкую (ад французскага «égalité» — «роўнасць») іерархію і імперскі сіндром.

Аднак на момант здабыцця дзяржаўнай незалежнасці ідэнтычнасць савецкага чалавека не была ў Беларусі адзінай. Ёй супрацьстаяла ідэнтычнасць мадэрнізаванай часткі беларускага грамадства, аснову якой складалі маладыя і адукаваныя жыхары буйных гарадоў. Апытанні НІСЭПД дазваляюць ацаніць суадносіны носьбітаў двух тыпаў ідэнтычнасці прыкладна як 7 да 3.

Апынуўшыся ў несавецкіх умовах, чалавек савецкі паспрабаваў вярнуцца ў звыклае яму мінулае, а яго апаненты пачалі прарывацца ў светлую капіталістычную будучыню — дакладней, у сваё міфалагізіраванае ўяўленне пра яе. У выніку замест кансалідацыі грамадства адбыўся яго раскол. Такім чынам, свае і чужыя аказаліся «ў адным флаконе».

На першых і апошніх дэмакратычных прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, натуральна, перамог кандыдат большасці, кандыдат носьбітаў савецкай ідэнтычнасці. Прывяду афіцыйную інфармацыю, запазычаную на сайце Цэнтрвыбаркаму (rec.gov.by). Яна з часоў да Ярмошынай — таму цалкам можна давяраць. У першым туры пры яўцы 79,1% за будучага АП прагаласавалі 44,82%, у другім туры адпаведныя паказчыкі склалі 70,6% і 80,34%.

З дапамогай калькулятара лёгка падлічыць, што трыумфатару тытул «усенароднаабраны» забяспечыла падтрымка 56,7% ад спісачнай колькасці выбаршчыкаў, г.зн. крыху больш за палову.

АП сваіх выбаршчыкаў не падвёў. Закасаўшы рукавы, ён пачаў шырокімі мазкамі аднаўляць звыклую для большасці карціну свету, галоўным элементам якой стала ўладная «вертыкаль». Працэс заняў два гады. Яе афіцыйны прыём у эксплуатацыю быў аформлены на другім канстытуцыйным рэферэндуме ў лістападзе 1996 года.

Мабілізацыя на барацьбу з ворагам звонку кансалідуе і аб'ядноўвае грамадства вакол моцнага лідара. Аднак дамагчыся такога эфекту пры адсутнасці знешняга ворага — задача прынцыпова іншага парадку. Як правіла, назіраецца адваротная карціна: перамога на выбарах моцнага лідара раскалвае грамадства, і мяжа паміж сваімі і чужымі фарміруецца ўнутры краіны.

### Аналагі пленума ЦК

«У нас вельмі моцная прэзідэнцкая ўлада, сапраўды, з элементамі аўтарытарызму, у гэтым я заўсёды сумленна прызнаваўся. Такая ў нас Канстытуцыя і законы ў гэты пераходны перыяд», — заявіў АП 23 верасня 2004 года. Аднак няма нічога больш пастаяннага, чым часовае, як сцвярджае прыказка.

У 1945 годзе Японія ляжала ў руінах пасля паразы ў вайне, а праз 19 гадоў у краіне прайшлі летнія Алімпійскія гульні. Але пераходнаму перыяду ў Беларусі не відаць канца. Адна з прычын, чаму пераход зацягнуўся, — няздольнасць моцнай дзяржавы вызначыць кірунак руху. Рэкамендую чытачам НЧ задаць бліжэйшым знаёмым адпаведнае пытанне. Не ўпэўнены, што хаця б 1 з 5 зможа адказаць што-небудзь зразумелае.

14 сакавіка АП заявіў аб падрыхтоўцы пашыранага мерапрыемства па абмеркаванні сітуацыі ў эканоміцы пасля атрымання дадзеных за I квартал. 21 красавіка, выступаючы са штогадовым пасланнем, ён удакладніў: справаздача ўрада адбудзецца бліжэйшым часам «з удзелам нашых дэпутатаў і сенатараў, Нацыянальнага банка, усёй вертыкалі ўлады і кіраўнікоў найважнейшых арганізацый».

Белстат сваю працу выконвае спраўна. Рэальныя даходы беларусаў у I квартале працягнулі зніжэнне. Трэці год запар, між іншым. Не хаваю, мне б вельмі хацелася паглядзець у вочы носьбіту моцнай прэзідэнцкай улады і нагадаць яму, што ў Пасланні–2017 ён абяцаў узмацніць ціск на выканаўчую «вертыкаль».

Здавалася б, праводзіць нарады — гэта не дабівацца выканання прынятых рашэнняў. Аднак сёння можна смела канстатаваць фармаванне своеасаблівай традыцыі, пачатак якой быў пакладзены ў 2013 годзе. Нагадаю чытачам, што ў той год 10 снежня адбылася рэспубліканская нарада па пытаннях будаўнічай галіны. АП назваў яе знакавай падзеяй і прызнаўся, што мерапрыемства бачыцца аналагам пленума ЦК у савецкія часы.

Далей цытата: «…неабходна часцей, як мінімум раз на паўгода, збірацца ў такім складзе, каб на сістэмнай аснове даваць сігналы ўсяму грамадству пра праблемы, якія ўзнікаюць, і пра шляхі іх вырашэння». Адначасова АП заявіў, што такія нарады стануць нормай і будуць праводзіцца раз на паўгода. Былі анансаваны і тэмы бліжэйшых пленумаў: праблемы ЖКГ і развіццё аграпрамысловага комплексу.

Як і абяцаў АП, сігналы аб праблемах беларусы сталі атрымліваць на рэгулярнай аснове, прычым не зверху, а знізу (ад жыцця). Вось толькі з інфармацыяй аб шляхах іх вырашэння перыядычна ўзнікаюць затрымкі, і гэта мякка сказана.

Тое, што іншы назіральнік можа прыняць за фармальна-бюракратычнае мерапрыемства, на справе з'яўляецца вяршыняй айсберга кіраўніцкай дзейнасці. Дзяржава не ў стане падтрымліваць стабільнасць без узгаднення інтарэсаў груповак унутры кіруючага класа і асноўных сацыяльных груп. Але адна справа — узгадняць інтарэсы ва ўмовах эканамічнага росту, і зусім іншае — ва ўмовах крызісу, што зацягнуўся.

На працягу 23 гадоў пад сілай дзяржавы АП разумеў яе здольнасць не дапускаць узнікнення самастойных цэнтраў прыняцця рашэнняў не толькі ў палітыцы, але і ў эканоміцы. Трэба аддаць яму належнае: сваёй мэты ён дасягнуў. Вынік — прыпыненне развіцця. Таму сёння нават на ўзроўні абмеркавання незразумела, як можна дамагчыся нават лакальных паляпшэнняў унутры беларускай мадэлі.

Алесь КІРКЕВІЧ

**Фігурант «Справы патрыётаў» Сяржук Стрыбульскі, нечакана вызвалены 27 чэрвеня, падзяліўся з чытачамі «Новага Часу» сваімі ўражаннямі ад зняволення, распавёў пра тых, каго сустрэў за кратамі, ды пра перспектывы разгортвання працэсу над фігурантамі справы.**




# Стрыбульскі: Улада зрабіла памылку, калі пасадзіла патрыётаў

Сяржук адразу па выхадзе сустрэў сяброў ды журналістаў у прыватным доме на Грушаўцы. Туды ж брат прывёз яму сабаку Айву, за якую «легіянер» хваляваўся ці не найбольш. Толькі абняўшы Айву, Стрыбульскі, мабыць, упершыню за некалькі гадзін усміхнуўся. Паразмаўляць з Сяргеем мы вырашылі ўжо праз дзень па вызваленні.

## На вобшуку папракнулі «натаўскай» аптэчкай

***— Сяржук, давай з самага пачатку: як праходзіла тваё затрыманне? Ці было яно чаканым?***

— Тэарэтычна, канешне, рыхтаваўся і да такога варыянту. Шмат хто папярэджваў, што напярэдадні 25 сакавіка могуць быць прэвентыўныя затрыманні. Таму, калі па вяртанні з крамы з курыцай у руках я ўбачыў, што на мяне з розных бакоў бягуць людзі ў масках, а адзін з іх здымае гэта на тэлефон, я не быў моцна здзіўлены. Таму і супраціву ніякага не аказваў, спакойна здаўся: мяне паклалі тварам на асфальт, апранулі кайданкі, закінулі ў машыну.

І павезлі дадому рабіць вобшук, які трываў прыкладна чатыры-пяць гадзін. Я ніколі дагэтуль не быў на такім мерапрыемстве, тым больш, вобшук не праводзілі ў мяне дома. Я не хаваў, што некалі ездзіў у Кіеў вучыцца на інструктара на курсах дамедычнай дапамогі. Таму забралі жгуты, турнікеты, аптэчку… Мяне нават папракнулі, што аптэчка «натаўская». Тое ж было з камуфляжам, на якім на цэтліку было напісана: «NATO Army». «О-о-о, натаўскі камуфляж!» Але нават ахова СІЗА на Валадарцы зараз выкарыстоўвае камуфляж па прыкладзе амерыканскага мульцікама, гэта смешна.

Пазабіралі нават магніцікі з лядоўні з лагатыпамі «Правага сектару» і выявамі Пагоні. Прычым, усім вядома, што ва Украіне і магніты «Правага Сектару», і «візіткі Яраша» прадаюцца свабодна як турыстычная прадукцыя. Ніякага крыміналу тут няма.

***— Калі сказалі, за што затрымліваюць і што шукаюць падчас вобшуку?***

— Адразу ж, як зайшлі ў кватэру, мне далі пастанову на вобшук і назвалі мой артыкул. Імаверна, яны шукалі зброю. Але зброі ў мяне няма, таму забралі ўсё камуфляванае адзенне, нават заплечнік. Забралі таксама спальнік, рыдлёўку, нейкія нажы, хоць нічога з пералічанага не з'яўляецца забароненым у нашай краіне. Па-мойму, нават нажы, прызнаныя халоднай зброяй, нельга пераносіць, але па захоўванні няма абмежаванняў.

## Сукамернік чакаў суда ў СІЗА 2,5 гады

***— Пасля цябе павезлі ў СІЗА КДБ, сумнавядомую «Амерыканку»?***

— Так, і гэта акурат было нечакана. Я быў упэўнены, што затрыманне звязанае з Днём Волі і мяне павязуць у ІЧУ на Акрэсціна, які знаходзіцца праз дарогу ад майго жытла. Думаў, ну адляжуся там нейкія содні, пасля пайду дадому. Атрымалася ж па-іншаму: на кальцы машына, якая мяне везла, завярнула ў іншы бок, я адчуў нядобрае… Калі завезлі ў комплекс КДБ на Незалежнасці, дзе і месціцца «Амерыканка», зразумеў, што справа сур'ёзная.

***— Да цябе ўжывалі гвалт?***

— Пры затрыманні выкарыстоўвалі электрашокер, але нічога падобнага да заяваў Кунцэвіча (Сяргей Кунцэвіч заявіў, што яго катавалі электрашокерам, каб дазнацца, дзе Статкевіч. — НЧ.) сказаць не магу.

***— Чым цябе ўразіла «Амерыканка»?***

— Па-першае, уразілі тэрміны людзей, якія там знаходзяцца. Адзін мужчына адбыў у СІЗА два з паловай гады ў чаканні суда. Часам яго перавозілі то на Жодзіна, то на «Валадарку»… Увесь гэты час ён сачыў за сваёй фізічнай формай, і нават выглядаў даволі добра. Яго падазравалі ў нейкім фінансавым злачынстве — там, у асноўным, за такое і сядзяць.

***— А што наконт умоваў утрымання?***

— Я ўпершыню трапіў у такое становішча, таму для мяне ўсё было незвычайным. Па сутнасці, за тры дні я там ужо асвоіўся. Сукамернікі нават сказалі, што выглядаю добра, бо бачылі папярэдне дарослых мужыкоў, якія ў стане шоку і роспачы плачуць у першыя ж дні зняволення. Спаў на дошцы, бо месца на шконках не было — нас сядзела пяцёра ў камеры. Матрац у мяне быў даволі прыстойны, нават лепшы, чым у іншых.

## Паводзіш сябе неадэкватна — чакай «катаванняў»

***— Пазней цябе перавялі на «Валадарку». Новы СІЗА, у параўнанні з «Амерыканкай», падаўся «іншым светам»?***

— Атмасфера цалкам іншая, менш увагі да вязняў, больш свабоды, магчыма. Да людзей там адміністрацыя ставіцца нейтральна і, адпаведна, чакае да сябе такога ж стаўлення. Прынамсі, мне так падалося. Увесь час нас было двое ў камеры, але сукамерніка мне ўвесь час змянялі: нехта ехаў на этап, пасля яго засяляўся іншы. То бок перанасялення ў камеры не было. Так, прыкладна, і іншыя хлопцы сядзелі.

***— То бок і цябе, і іншых фігурантаў справы не кідалі ў камеры, дзе сядзіць па пару дзясяткаў чалавек?***

— Не, магчыма, не хацелі розгаласу сярод зняволеных пра палітвязняў і канкрэтна «Справу патрыётаў». Магчыма, адміністрацыя лічыла, што пасля выхаду мы раскажам аб праблемах СІЗА і катаваннях, і таму не кідалі ў вялікія перанаселеныя камеры.

Наогул, калі хочаш, каб цябе «катавалі», варта наўпрост не выконваць загады адміністрацыі. Калі не ўстаеш на абходзе камераў, крычыш, паводзіш сябе неадэкватна, тады будуць санкцыі адміністрацыі. Па сутнасці, не супрацоўнікі СІЗА ж нас там утрымліваюць па сваёй волі, але Следчы камітэт ці КДБ. Таму наглядчыкам няма розніцы, палітычны ты ці не.

**У той сітуацыі, якую маем, усім трэба захаваць твар: як уладам, так і грамадству. Таму паступова хлопцаў пачнуць адпускаць. Па маім меркаванні, не факт, што справа нават да суда дойдзе**

## Збіраўся ў лагер, пакаваў цыгарэты…

***— Інфармацыя з волі даходзіла да цябе? Ці ведаў пра лёсы іншых хлопцаў?***

— Поўны спіс абвінавачаных я ўбачыў у «Нашай Ніве» 5 красавіка, якая прыйшла да мяне, разам з фота, і нават днямі нараджэння. Мяне здзівіла, што газету прапусцілі. Атрымліваў «Народную Волю», «Белгазету», «Краязнаўчую газету». Мяне падпісалі таксама на «ARCHE», але часопіс так і не дайшоў. Навучыўся нават чакаць па днях тыдня, ведаючы, калі якая газета прыйдзе.

***— Чым у асноўным займаў свой час?***

— Найбольш я нешта пісаў ці чытаў. Некаторыя зняволеныя банальна спяць, нехта стварае побыт, нехта яшчэ чым займаецца… Гэта збольшага ляжачы і сядзячы лад жыцця. Я адціскаўся ад падлогі, падчас шпацыраў займаўся кардыяпрактыкаваннямі.

***— Ты быў гатовы, што справа дойдзе да суда і атрымаеш вялікі тэрмін?***

— Так, я рыхтаваў сябе маральна. Я не меў нейкіх ілюзіяў, бо быў сур'ёзны артыкул, і я ўжо праседзеў нейкі час. Смешна зараз, але я ўжо збіраўся ў лагер, рыхтаваў і пакаваў цыгарэты.

## Калі выйшлі на волю, то абмацалі траву і дрэвы

***— Ці адчуваў падтрымку з волі?***

— Скажу болей, калі б не падтрымка, я не ведаю, у якім псіхалагічным стане я б апынуўся. Бо калі людзі табе пішуць нават нейкія побытавыя рэчы, якія яны зрабілі за дзень, гэта вельмі натхняе. Нехта пісаў, што пасадзіў бульбу, бачыў буслоў альбо апісваў, як квітнее яблыня. Не трэба гучных словаў, кшталту: «Трымайся!» — гэта пафас. Я і так там трымаюся, а вось расповеды пра жыццё — гэта вельмі прыемна.

***— Як ты даведаўся пра вызваленне? Ці стала гэта шокам?***

— Пра вызваленне даведаўся ў сам дзень вызвалення. Мяне выклікалі, я паставіў подпіс у падпісцы аб нявыездзе — усё вельмі хутка. Праз гадзінку-паўтары мяне вызвалілі разам з яшчэ адным фігурантам справы — Алесем Зімніцкім, там мы і пазнаёміліся. Гэта быў шок, але прыемны шок. Калі мы выйшлі, мы дакрануліся да травы, дрэваў — трэба было ўзгадаць тактыльныя адчуванні.

## Планы: знайсці працу і стварыць сям'ю

***— Як ты лічыш зараз, чаму паўстала гэтая справа і навошта?***

— Я ўжо жартаваў, што, магчыма, хлопцаў такім чынам адбіраюць для тэрытарыяльнай абароны — гэта было б няблага. Я ўпэўнены, што шмат хто з нашых хлопцаў, якія сур'ёзна займаліся тым жа страйкболам, былі б гатовыя браць удзел у тэрытарыяльнай абароне. Бо людзі самі на гэта настроеныя, іх не трэба прымушаць бараніць Радзіму.

Я перакананы, што дзяржава зрабіла вялікую памылку, пасадзіўшы патрыётаў, гатовых бараніць свой край. Але ў той сітуацыі, якую маем, усім трэба захаваць твар: як уладам, так і грамадству. Таму паступова хлопцаў пачнуць адпускаць. Па маім меркаванні, не факт, што справа нават да суда дойдзе.

***— Чым зараз збіраешся займацца?***

— Першасныя планы простыя: знайсці працу, займацца бытам, стварыць сям'ю. Там я перагледзеў пэўныя жыццёвыя каштоўнасці, усвядоміўшы, што не маю нават сям'і… Для бацькоў гэта было вельмі цяжка, тым больш што бацька інвалід першай групы, фактычна, не бачыць. Таму збіраюся вырашаць пакуль простыя жыццёвыя задачы. Па сутнасці, на мяне тэрмін паўплываў нават станоўча, я па-іншаму пачаў ставіцца да людзей, зразумеў, колькі ў нас годных беларусаў навокал.

Фота Алеся Кіркевіча

# Сонечныя матулі хворых на рак дзяцей

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Матулі пакутуюць больш за ўсіх, калі іх дзеці хварэюць. Асабліва, калі хвароба — рак. Пакутуюць, бо не могуць памяняцца месцамі з дзецьмі, не могуць нічога змяніць, не могуць зрабіць так, каб іх дзеткі зноў сталі здаровымі.**

Матулі хворых дзяцей, якія жывуць у Буда-Кашалёўскім раёне, пакутуюць удвая. Яны гадуюць дзяцей, якія ў любы момант могуць памерці, а нават калі і выжывуць, застануцца інвалідам. І, жывучы ў забруджаных вёсках, жанчыны самі штодня рызыкуюць смяротна захварэць.

Маці часам лепш адчувае, як варта лячыць дзіця, нават калі ў яго выявілі рак. Так здарылася з матуляй Уладзіміра. Зараз яму 33 гады. Калі ў яго выявілі рак шчытападобнай залозы, яму было ўсяго 6 гадоў. Дактары казалі, што дзіцё трэба было адразу аперыраваць, але маці Уладзіміра на аперацыю не пагадзілася. Яна ўбіла сабе ў галаву, што ў яе Валодзі — нібыта такі рак, які пасля аперацыі будзе прагрэсаваць.

Яна здавалася вар'яткай. Педыятры настойвалі на аперацыі, пагражалі, што сыну не дадуць групу інваліднасці. Але маці Валодзі была непахісная і не аддала сына пад нож.

Прайшоў час. Маці Уладзіміра даўно памерла. Яму аперацыю так і не зрабілі, але ад гэтага яго стан не пагоршыўся. Ён працуе ў калгасе, штогод наглядаецца ў паліклініцы. «Ці турбуе вас нешта?» — пытаюся я. Валодзя стаіць, рукі — у кішэнях, усміхаецца і кажа: «Я — здаровы».

Былы педыятр Буда-Кашалёўскага раёна Валянціна Смольнікава, якая курыравала маленькага Валодзю ў 1990 годзе, не можа даць адназначную ацэнку гэтаму выпадку: «Такі выпадак у нас толькі адзін, прынамсі, за маю практыку. У свой час я білася ад бяссілля, ад таго, што не магу перакanаць маці рабіць аперацыю. Але зараз ён ужо даўно дарослы. І здаровы. Магчыма, яе інтуіцыя мела рацыю».



Фота: Арцём Лява

Сястра Вікі шаснаццацігадовая Яначка з ДЦП. Сама Віка захварэла на рак у 2008 годзе, але пасля аперацыі змагла нарадзіць здаровае дзіця



Людміла, маці Дзмітыя, справа

### Іх ахоўвае любоў

Дзмітрыю — 34 гады. Лімфалейкоз у яго выявілі, калі хлопцу было чатырнаццаць. Пасля гэтага распачаўся бясконцы працэс лекавання. У Беларусі лімфалейкоз лечаць добра, паводле міжнародных пратаколаў. Добра — гэта азначае яшчэ і доўга для хворых.

Пекла матулі Дзімы, Людмілы, пэўна, мае нашмат больш колаў, чым апісваў Дантэ. Яе сыну рабілі перасадку коснага мозгу, прамянёвую тэрапію… Ён перастаў хадзіць, а пасля — вучыўся хадзіць наноў. «Як вы перанеслі той час?» — пытаюся я ў Людмілы.

«Ну як… З Дзімачкам заўсёды ездзіла па лякарнях — узгадвае Людміла. — Памятаю, доўга яго трымалі ў Мінску… А калі я прывезла дадому, то на нервовай глебе ў мяне завяліся вошы. Мне ж тады сказалі, што Дзіму засталося жыць пяць гадоў. Не больш».

З таго часу прайшло ужо шаснаццаць гадоў. Сёння Дзіма з матуляй жывуць разам у вёсцы Рагінь. Дзмітрый атрымлівае пенсію па інваліднасці, нідзе не працуе і з дому амаль не выходзіць. На некалькі пытанняў, якія мы паспелі яму задаць, адказаў бегла і сцісла.

«Яны пасля хваробы ў асноўным усе жывуць з вялікімі комплексамі і разладамі», — тлумачыць мне доктарка.

Калі Людміла распавядае пра Дзіму, то не можа стрымаць слёз. А мне хочацца плакаць, калі я гляджу на яе. Непрычасаная, з напаўбяззубым ротам. Хадзіць без апірышча яна не можа, бо ў яе выявілі артроз 4 стадыі. На мыліцы грошай няма, і яна ходзіць са звычайным кійком.

Людміле цяжка нават перастаўляць ногі. Таму па гаспадарцы ёй дапамагае Дзмітрый. Яны нібыта памяняліся ролямі — зараз прыйшла чарга сына даглядаць хворую маці.



Валянціна Фёдараўна Смольнікава

Муж у Людмілы памёр: «Таксама хварэў?» — чамусьці такі адказ мне падаўся лагічным, бо смяротныя хваробы ў гэтым рэгіёне з'яўляюцца нязменнымі спадарожнікамі жыцця.

Аднак Людміла з секунду памаўчала, а пасля з сумнай і вінаватай усмешкай адказала: «Ад п'янкі».

«Як вы трымаецеся?» — запытваюся я.

«Проста Дзімачка мяне шкадуе», — кажа Людміла і зноў плача. Але гэта ўжо слёзы ўдзячнасці, а не болю.

### «Гэта я вінаватая, што дзіцё такое…»

Таццяна з сям'ёй жывуць у вёсцы Уза. Гэта вёска перасяленцаў, куды перавозілі жыхароў з забруджаных тэрыторый.

Таццяна сустрэла нас ля прыгожай і дагледжанай хаты, што ў гэтым рэгіёне — вялікая рэдкасць. У асноўным людзі жывуць так бедна, што не маюць грошай, нават каб хоць касметычна адрамантаваць старыя хаты.

«Гэта я вінаватая, што дзіцё такое, — жанчына пачынае плакаць. — Проста раней я працавала ў вёсцы, у якой зашкальвала радыяцыя».

Усе 16 гадоў маці жыве з гэтай віной, яна штохвіліну, гледзячы на сваю дачушку, вінаваціць сябе ў яе пакутах.

Але ў гэтым рэгіёне няма вінаватых: яны ўсе вымушаны былі працаваць і жыць у забруджаных вёсках.

Доктарка Валянціна Смольнікава кажа: няма доказаў таго, што ДЦП у дзяцяці — наступствы Чарнобылю.

Калі Яна была яшчэ маленькая, у Таццяны захварэла старэйшая дачка — Віка. У яе выявілі рак шчытападобнай залозы, які якраз звязваюць з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы.

«Канешне, я спужалася, шмат плакала, намагалася зразумець, чаму так адбываецца, — прызнаецца Таццяна. — Але рак — часты госць у нашых родных і знаёмых. Таму мы проста пачалі праходзіць лекаванне па ўжо распрацаванай схеме».

**На руках Вікі сядзіць гадавалае малое. Віка ўсміхаецца і кажа: «Дзякуй Богу, зараз у мяне ўсё добра!» Даўно заўважыла, што шмат тых, хто перажыў рак, намагаюцца не згадваць пра яго. Нібыта і не было таго пекла. А можа, проста памяць імкнецца не захоўваць тыя моманты жыцця**

Таццяна шырока ўсміхаецца і запрашае ў хату.

У пакоі нас сустракае дзяўчынка, Яна. Ёй 16 гадоў, і ў яе ДЦП. Яна не можа нармальна размаўляць, перабірае ножкамі па падлозе і рукамі ўсё намагаецца схапіць мышку ад камп'ютара. А яшчэ — яна шырока ўсміхаецца мне. Так шырока і светла, што хочацца яе назваць «сонечнай дзяўчынкай», бо валасы ў яе залацістага колеру — нібыта сапраўды падарунак ад сонейка.

Яну ведаюць амаль усе жыхары Буда-Кашалёўскага раёна. Да яе часта прыходзяць у госці валанцёры, бавяць з ёй час. Пра Яну часта пішуць у мясцовай газеце. «Як атрымалася, што дзяўчынка нарадзілася з ДЦП? Ці звязана гэта з наступствамі Чарнобылю?» — пытаю я ў Таццяны.

Віку прааперавалі, зрабілі «хімію». Ужо два з паловай гады дзяўчына жыве без хваробы, але на цыраксіне. Праўда, яна, як і шмат хто іншы пасля аперацыі, скардзіцца, што беларускі цыраксін не дапамагае. А нямецкі — не так проста дастаць.

На руках Вікі сядзіць гадавалае малое. Віка ўсміхаецца і кажа: «Дзякуй Богу, зараз у мяне ўсё добра!» Даўно заўважыла, што шмат тых, хто перажыў рак, намагаюцца не згадваць пра яго. Нібыта і не было таго пекла.

А можа, гэта проста чалавечая памяць імкнецца не захоўваць пякельныя моманты жыцця.

Дзяўчынка Яна глядзіць на дзіця сястры і намагаецца нешта сказаць. У яе не атрымліваецца, але яна працягвае сонечна ўсміхацца.

Таццяна выцірае слёзы і дае нам у дарогу самаробную булку. З усмешкай запрашае да сябе ў госці яшчэ раз. А пасля зноў плача…

«Якія ўсё ж такі моцныя гэтыя матулі», — думаецца мне на зваротным шляху. Менавіта дзякуючы ім сям'я, у якой пануе гора, пераўтвараецца ў сям'ю, у якой жыве надзея і пачынае панаваць радасць. А вядома, што калі сонца свеціць знутры, то яно грэе і тых, хто знаходзіцца звонку.

Прынамсі, мне ад гэтых сем'яў стала вельмі цёпла.



У яе сына Арцёма выявілі рак падчас абследвання перад войскам

# Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (130)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by



## Змест

**НАВІНЫ:** асноўныя падзеі грамадска-літаратурнага жыцця Беларусі...с. 2
**ЮБІЛЕЙ:** 80 гадоў Сяргею ПЯТРОВУ...с. 3
**УСПАМІНЫ:** з будучай кнігі Сяргея ЗАКОННІКАВА «Рабскі дзень, вольная ноч»...с. 4
**ПАЭЗІЯ:** новыя вершы Валерыя ДУБОЎСКАГА і Вадзіма ЖЫЛКО...с. 5
**ЧЫТАЛЬНЯ:** урыўкі з рамана Леаніда ЛЕВАНОВІЧА «Міленіум»...с. 6–7
**ПАЭЗІЯ:** вершы ўкраінкі Вікторыі Дзікабраз у перастварэнні Алеся ЕМЯЛЬЯНАВА-ШЫЛОВІЧА...с. 8
**ПЕРАКЛАД:** «Гісторыя Альмансора» Вільгельма ГАЎФА ў прачытанні Ігара КРЭБСА...с. 9–10
**КРЫТЫКА:** Валеры ГАПЕЕЎ пра кнігу Людмілы ШЧЭРБА «Урб@н.М»...с. 11
**СВЕТ:** навіны і цікавосткі літаратурнага замежжа...с. 12

# Валеры Гапееў: «Мова павінна быць самастойным героем»

**Якіх кніг не хапае асабіста мне? Пра сучаснасць. Вялікай формы. Пэўна ж, мы насыціліся малой формай, якую нарадзіў яшчэ Жывы Часопіс, дадаў жыцця Фэйсбук. Але ж і раманаў хочацца ад вядомых аўтараў**

***— Спадар Валеры, віншуем з атрыманнем літаратурнай прэміі «Залаты апостраф»-2016 у галіне прозы. Узнагарода была нечаканай? Чым гэтая прэмія каштоўная для Вас?***

— Дык з гадамі перастаеш чакаць менавіта нейкіх узнагарод, асаблівага прызнання, дый увогуле, хочацца жыць без нечаканасцяў! Шчыра — мне было вельмі прыемна. Хвалююча. Чым каштоўная гэта прэмія? Тут трэба маленькую прадмову. Гадоў 15 таму быў я на курсах павышэння кваліфікацыі і ў выпускной працы аб ролі раёнак я акцэнтаваў увагу на тым, што раённая газета застаецца на сёння адным з астраўкоў жывой беларускасці. І вось... І вось знікла беларускае праваднае радыё. Гады тры таму мяне запрасілі ў школу ў мой Рагачоў (сам я родам з Рагачоўскага раёна). Дзіўнае было адчуванне, калі зайшоў у рэдакцыю раёнкі. Некалі я пісаў туды свае вершы і першыя замалёўкі. «Камунар» прыходзіў ці не ў кожную хату вёсачкі. Вядома ж, беларускамоўны, іначай, мабыць, і быць не магло. А цяпер я гартаў былую раёнку і не пазнаваў яе. У «Свабодным слове» (такая цяпер назва ў яе) не знайшоў і адзінага слоўца на беларускай мове... На сустрэчы з вучнямі школы бачыў і пустыя вочы — многія дзеці не разумелі маёй беларускай гаворкі. І ўпершыню за ўсе гады пра гэту сустрэчу напісалі ў газеце на рускай мове. Сказаць, што мяне перапоўніў адчай? Гэтага, мабыць, мала... Ведаю, што на сёння палова раённых газет цалкам рускамоўныя, яшчэ палова — добра, калі 50 на 50. Карацей, змыліся тыя «астраўкі беларускасці», пра якія я пісаў...

Што засталося? Ды адзіная выспа — Саюз беларускіх пісьменнікаў. Адзіная і сапраўдная. І вось я атрымліваю ўзнагароду за свой твор. Разам з прызнаннем ягонай якасці, гэта для мяне — нібыта афіцыйнае пасвячэнне ў лік абаронцаў гэтай выспы. Магчыма, і раней недзе падсвядома лічыў сябе такім, адстойваючы беларускую мову ў сваёй раёнцы, ствараючы тэксты на беларускай мове. Ды быццам быў вольны адмовіцца ад усяго. А сёння перастаць пісаць на роднай мове будзе дэзерцірствам. Здрадай. Прычым, яўнай. Карацей, тая ўзнагарода — як прынясце прысягі ў арміі, калі назад — ніяк.





**Валеры Гапееў: «Што засталося? Ды адзіная выспа — Саюз беларускіх пісьменнікаў. Адзіная і сапраўдная»**

***— Вы плённа працуеце яшчэ і як літаратурны крытык. Якіх твораў Вам як чытачу не хапае ў беларускай літаратуры?***

— Ну, ніяк не крытык, ніяк. Тое, што іншы раз пішу водгукі — гэта пачуццё хутчэй абавязку перад сабой. Насамрэч жа, часам выходзіць кніга, добрая, патрэбная, а пра яе — ні слоўца пасля выхаду. Ведаю, як гэта бывае крыўдна аўтару. Таму — пішу. Прызнаюся — далёка не на ўсё, што прачытаю. Ляжа на сэрца, як кажуць, будзе водгук. Не спадабаецца — прамаўчу. Гэта на часопісную публікацыю варта глядзець як на матэрыял, які можна палепшыць. А вось кніга, калі выйшла, — ужо не паправіць. І паказваць аўтару на яе недахопы няма сэнсу. Будзе магчымасць — выкажуся ў прыватнай размове. Вядома, гэта вельмі няпроста для творчага чалавека: шчыра парадавацца за поспех іншага. Але можна навучыцца, далібог.

Якіх кніг не хапае асабіста мне? Пра сучаснасць. Вялікай формы. Пэўна ж, мы насыціліся малой формай, якую нарадзіў яшчэ Жывы Часопіс, дадаў жыцця Фэйсбук. Не адмаўляю такой форме ў праве на існаванне, але ж і раманаў хочацца ад вядомых аўтараў. Паўтаруся: пра сучасніка і сучаснасць. Мы жывём на такім зломе... Быў у нас свой свет, вялікі і моцны, ды насамрэч гэта была вяршыня айсберга. І раптам гэты айсберг перавярнуўся — і мы сталі жыць на іншым яго баку, пра які толькі чулі нешта крыху... Такая вось думка. Калі ўжо спыталі, дык скажу і пра тыя кнігі, якіх бы не хацеў бачыць. На жаль, пачасціліся выпадкі выдання кніг без належнай рэдактуры. Чытаеш, спатыкаешся на русізмы, элементарную непісьменнасць, груваcткасць сказаў, няўцямную мову. Так крыўдна... Мова павінна альбо зусім не заўважацца ў кнізе, альбо быць самастойным героем. У любым выпадку, так прыкра з-за некаторых кніг і аўтараў. А яшчэ пасля і піярыцца такая кніга як адмысловая, арыгінальная ці яшчэ там нейкая... Выдавецтвам трэба быць больш патрабавальнымі, і хай бы самі выдавецтвы пабойваліся выдаваць непісьменныя рэчы... Дзіўна, калі няма адказнасці ні ў аўтара, ні ў рэдактара, ні ў выдаўца...

***— Вы напісалі шмат твораў для дзяцей і падлеткаў. На сваёй старонцы ў інтэрнэце (http://gapeev.brest.by) Вы адказваеце на пытанні чытачоў, даяце ім парады, а таксама на сайце можна прачытаць і Вашыя творы. Якія пытанні найчасцей хвалююць сучасную моладзь?***

— Тыя ж, што і заўсёды, што хвалявалі нашых бацькоў, нас саміх, — адносіны. Адносіны паміж сябрамі, паміж падлеткамі і настаўнікамі, паміж падлеткамі і бацькамі. Пачуцці. Адчуванне сябе асобай, сваё асабістае станаўленне. Разуменне сябе асаблівым чалавекам, адчужэнне ад натоўпу, набыццё выключнага «я». Нічога новага, расчарую дарэшты. Але ў гэтым «старым» — самыя складаныя пытанні росту і развіцця асобы, да таго ж цяперашнія дзеці не ўваходзяць у жорсткі дарослы свет пакрысе, як мы, а скачуць туды са сваім першым смартфонам. Ім адкрываецца ўсё і адразу: увесь бруд, усе жахі, усе здрады і ўсе заганы чалавечай душы. Паспрабуйце захаваць у гэтым усім самога сябе...

***— Якую кнігу з тых, што прачыталі нядаўна, параілі б пашукаць у кнігарнях і бібліятэках чытачам? І ўвогуле — як зацікавіць сучасную моладзь чытаць кніжкі?***

— Вось з самага нядаўняга, спецыяльна для мужчын: «Урб@н.М» Людмілы Шчэрбаы. (Рэцэнзію на яе можна прачытаць у гэтым нумары. — Рэд.) Але каб толькі прачыталі да канца, набраліся цярпення, смеласці, пазбавіліся пачуцця неабходнасці ўсё зразумець сваёй мужчынскай логікай — і прачыталі. Гэта кніга пра тое, як думае жанчына, як адчувае... Раней нічога падобнага не сустракаў. Таксама з самага свежага — «Плошча Калумба» Сяргея Лапцэвіча. Добрая рэч, незвычайная ідэя і думка аўтара.

Наконт сучаснай моладзі... Трэба пісаць і для іх! Недзе і мэтанакіравана. Увогуле, прывіваць любоў да чытання найлепш з дзяцінства, вядома. Патрэбныя кнігі для падлеткавага ўзросту... І вельмі важна вось што яшчэ: рэклама. Але толькі праўдзівая рэклама, ад аўтарытэтных людзей. Рэклама-парада. Сёння ж назіраецца зусім іншае: агрэсіўны піяр далёкай ад дасканаласці літаратуры, ўсялякія топы продажаў, за якімі — сем тайнаў, але яны ж гэтаксама нараджаюць попыт, і ў поўнай прастрацыі іншы раз ад тых кніг, якія ў тыя топы трапляюць. Значыць, самім пісьменнікам трэба пісаць пра кнігі сваіх сяброў, расказваць пра іх. Менавіта пра добрыя кнігі.

**Алесь Сачанка**




# Мінскі Кангрэс Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады

**Праз год у Мінску пройдзе Кангрэс Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады. Такое рашэнне было прынята 12 чэрвеня ўдзельнікамі сёлетняга Кангрэсу на пасяджэнні ў Барселоне.**

Саюз беларускіх пісьменнікаў на форуме прастаўлялі старшыня СБП Барыс Пятровіч, юрыстка Вольга Сямашка і перакладчыца Надзея Кандрусевіч-Шыдлоўская.

Еўрапейская Пісьменніцкая Рада (European Writers' Council; EWC) прадстаўляе больш за 150 тысячаў літаратараў з амаль пяцідзесяці пісьменніцкіх саюзаў краін Еўропы. Федэрацыя была заснаваная ў 1977 годзе ў Берліне пад назвай Еўрапейскі Пісьменніцкі Кангрэс. З 2010 года існуе пад цяперашняй назвай са штаб-кватэрай у Брусэлі.

Прэзідэнтам арганізацыі сёлета абраны старшыня Шведскага саюза пісьменнікаў Гунар Ардэліус. Саюз беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца праваздейным сябрам EWC з 2010 года.

**Прэс-служба СБП**




# Першы беларускі графічны раман

**Саюз беларускіх пісьменнікаў да Дня народзінаў Васіля Быкава выпусціў апавяданне Васіля Быкава «Сваякі», зробленае ў жанры графічнага рамана маладым мастаком Янам Жвірблем. Кніга пабачыла свет у выдавецтве «Кнігазбор».**

Жанр графічнага рамана даўно стаў папулярным у Еўропе і ЗША. Гэтая разнавіднасць вядомых коміксаў прэтэндуе на адмысловае становішча ў свеце мастацтва. Графічныя раманы ілюструюць сур'ёзныя літаратурныя творы і ў адрозненне ад коміксаў маюць павялічаны аб'ём і найчасцей выдаюцца ў палепшаным афармленні. Выходзяць і аўтарскія графічныя раманы, якія разглядаюцца як паўнавартасныя літаратурныя творы. Так, у 1992 годзе графічны раман Арта Шпігельмана «Маўс» пра халакост атрымаў найпрэстыжнейшую Пулітцараўскую прэмію.

У Беларусі коміксы так і не займелі трывалай нішы, хаця на пачатку 1990-х, калі выдаваліся памятныя "Дзікае паляванне караля Стаха" і "Дзе жывуць бурсонікі", на гэтыя кніжкі быў аграмадны попыт.

Апавяданне «Сваякі» ў аздабленні Яна Жвірблі робіць фанатам коміксаў і аматарам авангарднай кніжнай графікі сапраўдны падарунак. Жорсткі твор Васіля Быкава пра тое, як маці, паспадзяваўшыся на сваяцтва з вясковым паліцаем, неўпрыцям адпраўляе дваіх сыноў на смерць, праілюстраваны гэтак жа бязлітасна востра. Экспрэсіўныя, натуралістычныя і поўныя трагізму малюнкі мастака нагадваюць, што гэта зусім не просценькі комікс для дашкольнікаў, а паўнавартасны графічны раман.

Зусім нядорага кнігу можна купіць у наступных кнігарнях Мінска: «Акадэмкніга», «Цэнтральная», «Светач», «Веды», «Кнігарня пісьменніка», «Логвінаў», «Кнігі і кніжачкі». Дарэчы, усе выданні «Кнігазбора» можна замовіць у самім выдавецтве без гандлёвай надбаўкі.

# У Купрэева ў гасцях

**Ужо даўно не даводзілася быць (і ўдзельнічаць) на літаратурных мерапрыемствах (прабачаюся за казённае слова) у правінцыі, на якіх пачуваешся не назойлівым госцем, а чаканым чалавекам...**


Магіла М. Купрэева

Шчыра скажу, што едучы на юбілейныя ўгодкі вядомага паэта і пісьменніка Міколы Купрэева ў Івацэвічы з яго дачкой Святланай, мы нават не маглі ўявіць, наколькі годна паставяцца там да памяці «выклятага» паэта. З'явіўшыся ў райцэнтры раней часу, мы паехалі адразу на могілкі вёскі Міхнавічы, якая ўжо паглынулася Івацэвічамі. Якраз поруч са старымі кладамі стаіць былая вясковая школа, дзе жыў і настаўнічаў з жонкай (мачыхай Міколы Сымонавіча) бацька паэта. Ды і сам Мікола з пачатку 1950-х гадоў таксама гадаваўся тут, пакуль вучыўся ў Івацэвіцкай сярэдняй школе.

Пры ўваходзе на нас абрынулася гала прасвету, ад чаго адразу стала сіратліва і вусцішна. Нехта дадумаўся спілаваць старыя дрэвы, што пад сваімі жывымі шатамі як бы паўторна хавалі ад рознай зямной непагадзі пахаваных пад імі людзей. Асабліва шкада было маладога дубка, што рос проста каля грудка Міколы Сымонавіча і выконваў своеасаблівую ролю вартаўніка яго чуйнага спакою...

У бібліятэцы нас сустрэлі прыязна і цёпла. А тое, што пачалося далей, проста здзівіла: супрацоўніцы (дырэктар Галіна Міхнюк, адзел маркетынга, бібліятэкаркі Ганна Ашкала, Антаніна Саявец, Людміла Монцік, Вольга Вазнішчык, Людміла Леановіч) падрыхтавалі драматычна-дэкламацыйную кампазіцыю паводле пакручастай біяграфіі Міколы Купрэева, сюжэтна звязаўшы яе з найбольш выбітнымі творамі паэта і пісьменніка... Затым да жывой і зацікаўленай гаворкі пра лёс юбіляра падключыліі нас, гасцей імпрэзы: пісьменніка Валерыя Гапеева, паэта Міколу Папеку, Леаніда Галубовіча, мясцовага сатырыка Віктара Рэчыца і дачку паэта Святлану Купрэеву... Усе выступы былі кранальна-даверлівымі, паважлівыя і з цікаўнасцю выслуханыя, а падчас і дарэчна дапоўненыя людзьмі з залы... Не было падзелу на вядучых і прысутных — усе гаварылі і чулі адно аднаго, нярэдка сентыментальна, да слёз у вачах успамінаючы вядомага паэта і земляка. Быў у чытальнай зале з густам аформлены насценны стэнд з кнігамі М. Купрэева з яго дарчымі надпісамі, а таксама шматлікія, у тым ліку рэдкія і малавядомыя, яго публікацыі ў перыядычных выданнях з аўтографамі аўтара. Івацэвіцкая раённая газета прыўрочыла да юбілею вядомага земляка старонку памяці. А ў самім горадзе і яго ваколіцах быў праведзены велапрабег «Па сцежках Купрэева».

Агулам — калі б так здарылася, і Мікола Купрэеў прыадкрыў вочы ды пачуў-пабачыў, што тут у яго гонар дзеілася — то, пэўна, другім разам паміраць ужо заўпарціўся б... Ды й ці памёр ён па сутнасці, — бо духам і словам сваім ён жывы дагэтуль і, мяркуючы па тым, як пашанотна ставяцца да яго памяці і творчай спадчыны, яшчэ доўга жыцьме.

**ЛеГал**

# Аўтару пра аўтарскае права

**У выдавецтве «Кнігазбор» пабачыла свет незвычайнае выданне Саюза беларускіх пісьменнікаў — кніжка «Я, аўтар... альбо ўсё, што трэба ведаць аўтару пра аўтарскае права ў Беларусі».**




Кніга складаецца з дзевяці раздзелаў, дзе ў займальнай форме разгледжаны сістэмы маральных і маёмасных правоў аўтараў, распавядаецца, якія творы падлягаюць ахове ў галіне аўтарскага права, а якія не. Кожны ахвотны можа даведацца, як адбываецца перадача аўтарскіх правоў, на які час яны дзейнічаюць і, урэшце, — як абараніць свой твор ад неправамернага выкарыстання іншым чалавекам. У дадатках да кнігі змешчаны адрасы і тэлефоны ўстаноў, якія займаюцца абаронай аўтараў, а таксама пералік кніг і заканадаўчых актаў, дзе можна здабыць больш поўную і падрабязную інфармацыю па тэме.

«Абарону правоў аўтараў сёння мы лічым адным з важнейшых накірункаў дзейнасці Саюза, — адзначыў старшыня СБП Барыс Пятровіч, — Прайшлі часы, калі гэтым займалася дзяржава, праз агульныя для ўсіх пісьменнікаў агенцыі. За апошнія дзесяцігоддзі на іх месцы не ўзніклі новыя структуры, не з'явіліся агенты, якія б абараняллі правы аўтараў, дапамагалі ім. Творцы пакінутыя сам-насам са сваімі праблемамі і вымушаныя самі адстойваць свае правы. Але дзеля гэтага яны найперш павінны ведаць іх. Наш даведнік дапаможа зразумець галоўныя праблемы, з якімі даводзіцца сутыкацца аўтарам, з'арыентавацца ў складаных юрыдычных пытаннях. Спадзяюся, гэта стане першым крокам да вяртання ўзаемаадносінаў між аўтарамі і выдаўцамі, між аўтарамі і дзяржавай у зразумелую ўсім прававую прастору. Сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў нагадаю, што больш поўную інфармацыю яны могуць атрымаць у нашага юрыста».

«Дзеля таго, каб ведаць закон і, як вынік, каб закон «працаваў» — неабходна быць знаёмым з яго тэкстам, разумець тэрміны і свае правы. — прызнаецца Вольга Сямашка, юрысткансультантка СБП і ўкладальніца выдання. — Спадзяюся, нашае выданне дапаможа літаратарам адчуваць сябе ўпэўнена ў сучасных варунках кнігавыдання і кнігакарыстання, быць гатовымі да абароны ўласных аўтарскіх правоў. Наша брашура напісана паводле ўзору «Азбукі аўтарскага права» — афіцыйна-папулярнага выдання ЮНЭСКА, арганізацыі, якая стаяла ля вытокаў міжнароднай сістэмы аўтарскага права і валодае логікай правільнага тлумачэння законаў у дадзенай сферы».

Кнігу «Я, аўтар... альбо ўсё, што трэба ведаць аўтару пра аўтарскае права ў Беларусі», кожны літаратар можа атрымаць бясплатна ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў (Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906), папярэдне патэлефанаваўшы на гарадскі нумар: 8(017)200-80-91.

**Ц. Ч.**

# Не бяднее на таленты край

**Тое, што Случчына багатая на таленты, напэўна, ведаюць вельмі многія чытачы. Гэты слаўны край падараваў беларускай літаратуры і нацыянальнай культуры шэраг знакамітых творцаў.**

З маладзейшых тут народжаны Алесь Пашкевіч, які ў верасні адзначыць свае 45. А ў снежні споўніцца 95 гадоў Алене Васілевіч, ураджэнцы вёскі Ліпнікі. Яна ўганараваная ў свой час Дзяржаўнай прэміяй Беларусі за кнігу аповесцяў «Пачакай, затрымайся...» Абое з названых, як і многія з неназваных, падаўна жывуць у Мінску. А ў малалюднай і выміраючай слуцкай вёсачцы Краснае Сяло жыве літаратар, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Сяргей Пятроў. Піша вершы і прозу, а з нядаўняга часу — драматургію і кінасцэнары.

Сёлетні год для Сяргея Пятровіча — юбілейны: 30 красавіка яму споўнілася 80 гадоў. І яшчэ адна ў яго сёлета круглая дата — дзесяцігоддзе з выхаду першае кнігі. Не ведаю, калі быў апублікаваны першы верш Сяргея Пятрова, а першы паэтычны зборнік «Свет воспоминаний» з'явіўся ў 2007 годзе.

Узнікае пытанне: што паспеў здзейсніць творца за такі непрацяглы час? На здзіўленне, зроблена нямала. За адзін толькі 2016 год выйшла пяць кніжак: два зборнікі вершаў, дзве аповесці і зборнік апавяданняў. Увогуле прыкметнае ажыўленне ў творчасці С. Пятрова, разгарненне яго творчага патэнцыялу адбылося пасля ягонага ўступлення ў Саюз беларускіх пісьменнікаў у 2011 годзе. Дарэчы, ён, рускамоўны аўтар, быў прыняты адзінагалосна (пры тайным, вядома, галасаванні) як прыёмнай камісіяй, так і Радай СБП, дзе ўсе выключна беларускамоўныя пісьменнікі.

***

Першыя дзве кнігі — «Свет воспоминаний» і «Подснежник» — С. Пятрова мне ўручыла кампазітарка Алена Атрашкевіч: ён прасіў Алену Віктараўну пазнаёміць такім чынам яго з беларускім паэтам...

У адным з вершаў «Подснежника» мяне прыемна ўразілі словы:

*Войду в обитель добрых снов,*
*Войду, как в стены рая,*
*Меня всегда здесь ждёт любовь,*
*Дверей не запирая.*

Пазней даволі часта чуў і чую дагэтуль, як пранікнёна гучаць словы верша ў выкананні выдатнага эстраднага артыста Алега Сямёнава, ім жа ўдала пакладзеныя на музыку.

Цяпер інтымная лірыка С. Пятрова — у стадыі росквіту. Нельга не звярнуць увагу на тое, з якім захапленнем і цеплынёю ды якой філігранна-вобразнаю моваю піша паэт пра жанчыну:

*Стоишь ты, словно вишенка, нарядная во всём,*
*И блики, словно вышивка, на платьице твоём.*



Гэта — памяць сэрца, здольнага саграваць людзей, дапамагаць ім асільваць беды і памнажаць радасць у шчаслівыя дні

Фота www.kurjer.info




Далей жаночы вобраз абмалёўваецца яшчэ з большаю пяшчотаю і замілаваннем, бо гаворка тут ідзе пра самую жаданую...

Суровы лёс Сяргея Пятровіча, нечакана забраўшы ў яго жонку, аднойчы праявіў да яго неверагодную спагаду і літасць: адарыў яго новым высокім пачуццём у адносінах да жанчыны, якая таксама перажыла драму расстання з любімым: смерць забрала мужа...

Сяргей і Людміла сустрэліся як быццам выпадкова, але, як паказаў час, іхняе спатканне зусім невыпадковае.

Яны спаткаліся на беларускай зямлі, на Берасцейшчыне. І неўзабаве раз'ехаліся: яна — у свой Санкт-Пецярбург, ён — на Случчыну.

Цуд кахання і гранічнага ўзаемапаразумення трывала ўвайшоў у іх жыццё. Вясной і летам — яны ў амаль курортнай вясковай стыхіі, а зімою — у чароўным Піцеры...

***

Паэзія Сяргея Пятрова моцная праўдаю жыцця:

*Деревенька моя — одна улица,*
*Вдоль неё — лишь десяток дворов,*
*Где берёзы порою сутулятся*
*От объятий залётных ветров.*

*Возле дома искрит многоцветие,*
*Где душистой травы аромат,*
*Здесь дорога глядит сквозь столетия,*
*А глаза стариков — на закат...*

Як бачым, у гэтым апісальным вершы адсутнічае лірычнае «я». Аднак прысутнасць лірычнага героя і тут адчуваецца, бо аўтар неабыякавы да таго, што адбываецца побач з ім і ў свеце.

Добрае ўражанне і ад іншых апісальных вершаў паэта. Яны, як і папярэдні твор, уяўляюць сабою не чорна-белыя фотаздымкі, а жывыя вобразамі і колерамі карціны.

Мне асабліва імпануе тое, што аўтар у сітуацыі, далёкай ад аптымізму, знаходзіць для сваіх твораў аптымістычныя ноткі:

*Тихонько ветер напевает.*
*Собачка трётся возле ног,*
*Своею лаской утверждает:*
*«Хозяин! Ты не одинок!»*

***

Сяргей Пятроў — асоба ўнікальная. Па-першае, ён, тэхнар па адукацыі, інжынер па прафесіі (працаваў на розных прадпрыемствах Слуцка), стаўся пісьменнікам. Па-другое, пасля позняга старту ў літаратуры, паспеў ужо сказаць сваё адметнае слова, стварыўшы за 10 гадоў трынаццаць кніжак. Па-трэцяе, у яго — залатыя рукі: ён — і цясляр, і муляр, і бетоншчык, і тынкоўшчык, а яшчэ й пчаляр, што дапамагае здабыць нялішнюю капейчыну для выдання кніг у прыватных выдавецтвах.

Хочацца задаць пытанне самым дапытлівым чытачам. Як вы думаеце, да каго звяртаецца паэт наступнымі пранікліва-пяшчотнымі словамі: «Как яблыневый цвет, чиста душа твоя»? Увязце сабе, гэтыя словы — пра нашую Беларусь, яе С. Пятроў называе любімаю краінай, Айчынай. Гэта натуральна, бо тут праходзіць усё яго свядомае жыццё, сюды дзесяцігадовым хлопчыкам ён, ураджэнец Пецяргофа, прыехаў з аўдавелаю з ваеннага ліхалецця матуляй і з айчымам-афіцэрам у 1947 годзе. Так што сёлета ў Сяргея Пятровіча — сямідзясятыя ўгодкі парадпення з Беларуссю.

А вось як хораша гучаць чатыры заключныя радкі верша «О стране, в которой я вырос»:

*Печаль и скорбь не замутят твой лик,*
*По всем векам сложна твоя дорога,*
*Но путь твой будет светел и велик*
*С благословения людей и Бога.*

***

Я коратка распавёў пра Пятрова-паэта. А ў творчую суполку — Саюз беларускіх пісьменнікаў — яго прымалі як празаіка. На той час на ягоным рахунку была адзіная выдадзеная кніга прозы «Мейлах в октябре» — пра поўнае нечаканасцяў і прыгодаў жыццё савецкага габрэя Мейлаха Каца. Тады аўтар, магчыма, яшчэ не ўяўляў, у якія нетры і лабірынты чалавечых адносінаў пранікне яго вынаходлівы розум у наступных кнігах гумарыстычнай аповесці. Уступленне ў суполку пісьменнікаў-прафесіяналаў так натхніла ўражлівую асобу, што неўзабаве з'явіліся другая і трэцяя кнігі маштабнага палатна, а праз год — і фінальная чацвёртая кніга.

Як бы па інерцыі следам ішла яшчэ адна гумарыстычная кніга «С улыбкой между делом». А пасля, у 2013 годзе ў выдавецтве «Ковчег» выйшаў раман «Безотцовщина наша». Гэты твор выклікаў у мяне самае добрае ўражанне. Найперш — гранічнаю жыццёвай праўдаю. Надта па-мастацку яскрава і псіхалагічна пераканаўча паказаны людзі сумленныя і людзі-драпежнікі — як увасабленне дабра і зла. Ды гаворка тут не пра фашыстаў (іхняе зло агульнавядомае). Вайна абвастрае пачуцці людзей, агаляе душы, паскарае ўчынкі, бо памнажае страты, ламаючы лёсы, прыносячы пакуты і сеючы журбу ды адчай. Кантрастны паказ і падзеяў, і герояў, і людскіх настрояў дадае жывасці маштабнай прозе і нязмушанасці ўспрыняцця яе.

Жыццёвая праўда ў рамане натуральная, як узыход сонца, што прыносіць на зямлю гаючае святло і цяпло. Яна поўная, як вясновая рака, і глыбокая, як мора. Ад праўды С. Пятрова не схаваецца ніякае зло. Па-майстэрску, нешматлікімі, але яркімі фактамі, а часам штрыхамі, добра зразумелымі, адлюстраваны суровы час вядомай сталінскай дыктатуры. Рэпрэсіўная машына не спынялася нават тады, калі народ быў змардаваны пакутамі і стратамі. Ды найпаўней пісьменнікам паказана зло вайны. Нават у далёкім тыле вельмі адчувальнае гарачае дыханне фронту. Вайна забрала многіх герояў рамана, многіх пакалечыла. Прапаў без весткі Сярожаў бацька. З пяці юных нававбранцаў, якіх сагрэла сваімі клопатамі і любоўю сардэчная дваццаціпяцігадовая ўдава Надзя, застаўся жывы адзін толькі Ціма, але вярнуўся інвалідам. Калі ўлічыць, што памёр Сярожкаў брат і нешчаслівы выпадак забраў жыццё неразлучнага Сярожавага сябра, то, натуральна, мінорных настрояў у рамане больш, чым мажорных. Але аўтар валодае яшчэ адным цудоўным дарам: уменнем чаргаваць сумнае з вясёлым і нават трагічнае з камічным, дапамагаючы чытачу перавесці дыханне і ўсміхнуцца, а то і ўдосталь пасмяяцца пасля якіх-небудзь цяжкіх эпізодаў. Кнігу «Безотцовщина наша» я лічу пакуль што галоўнай у творчасці Сяргея Пятрова; яна — мужная і пяшчотная, балючая і гаючая, чалавечная і дасціпная, а яшчэ — у пэўнай меры спавядальная, гэта — памяць сэрца, здольнага саграваць людзей, дапамагаць ім асільваць беды і памнажаць радасць у шчаслівыя дні.

***

Поспех кожнага творцы пачынаецца з нейкага спрыяльнага моманту, з чыёйсьці падтрымкі. Некалі Сяргей Пятроў паказваў свае творы пісьменніку Паўлу Місько, ураджэнцу Случчыны, які з беларускай сталіцы вярнуўся пенсіянерам у родную вёску. Дарэчы, у Мінску Павел Андрэевіч шмат гадоў працаваў галоўным рэдактарам выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе займеў неверагодна багаты досвед ацэнкі твораў і сталых аўтараў, і навічкоў. Паколькі наш юбіляр цікавы суразмоўца, хачу перадаць ягоны ўспамін пра сустрэчу з вопытным празаікам і рэдактарам пасля таго, як з вуснаў аўтара прагучала апавяданне «Баня»:

«Ён мяне ўважліва, не перабіваючы, слухаў, а потым спытаў:

— Колькі дзён ты пісаў гэты твор?

— Гадзіны з дзве.

— Ды над ім тыдзень трэба сядзець, ды і то ці адолееш, а ён — за дзве гадзіны! Ладна, прыходзь да мяне часцей, прынось новыя творы. Вельмі цікава ты пішаш, і вобразы ў цябе жывыя, і гумар выразны. Трэба друкавацца, трэба друкавацца.

Праз тры тыдні я прынёс рукапіс першай кнігі «Мейлах в октябре», уставіўшы туды апавяданне «Баня». Місько прачытаў некалькі старонак, усміхнуўся і сказаў:

— За табой трэба хадзіць з алоўкам ды з паперай і запісваць усё, што ты гаворыш... Што ні слова, то ў дзясятку! Ты неардынарны чалавек... Я ўражаны! Ты не ведаеш, які ты таленавіты чалавек. Колькі табе гадоў? Семдзесят! Калі слухаеш, не гледзячы на цябе, то трыццаць трэба скінуць. Дзе ты быў раней? Дзе ты быў?

— Будаваў светлую будучыню, якая не прыйшла не з маёй віны.

Ён устаў і абняў мяне.

Я знаў, што Павел Андрэевіч быў адораны выключным пачуццём гумару і працаглы час працаваў у сатырычным часопісе «Вожык», таму і адказаў:

— Знаю я вас, гумарыстаў...

А ў адказ пачуў:

— Я табе казаў са шчырым сэрцам. Баламут ты гэтакі! Кінь усё і займайся толькі творамі, пішы, пішы больш, пра цябе яшчэ пачуюць!»

Сяргей Пятроў застаўся на ўсё жыццё ўдзячны Паўлу Місько за тое, што той прыкмеціў ягоны талент і блаславіў на творчыя пошукі. Што ж да працавітасці і веры ў поспех, то такіх якасцяў Пятрову не пазычаць!

...Аднаго разу я прачытаў у яго такі кароткі абзац: «Слишком много у нас забот и огорчений в повседневности. Но жизнь прекрасна в любом отрезке времени. Как сказал великий Альберт Энштейн, есть два способа жить: вы можете жить так, как будто чудес не бывает, и можете жить так, как будто всё в этом мире является чудом».

Чытачоў газеты, пэўна, цікавіць сённяшні дзень пісьменніка. Яго творчыя інтарэсы — разнастайныя, планы — багатыя. У адзін з тэатраў краіны надаўна Сяргей Пятроў аддаў цікавую п'есу. У стадыі завяршэння — сцэнар фільма. Вядома, хацелася б, каб у яго з'явілася штосьці, заснаванае на падзеях Случчыны, з якою столькі гадоў ён неразлучны! Пісьменнік і сам пра гэта думае. Пажадаем жа Сяргею Пятровічу плёну ў яго разнастайнай творчай дзейнасці!

**Васіль Жуковіч**

# Ноч. Вакзальныя мроі

## З будучай кнігі «Рабскі дзень, вольная ноч»



Сяргей ЗАКОННІКАЎ

**На вакзалах мне давялося бавіць час і начаваць без сну, у чужынай дрымоце, даволі часта.**

Відаць, адпаведна мітуслівыму, ройнаму настрою і асаблівай атмасферы, якая навечна набрыняла радаснымі і горкімі слязьмі — заўсёднай соллю сустрэч і расстанняў, тут прыходзяць абрывістыя, рваныя, але выразныя, кінематаграфічныя мроі.

У памяці назаўжды засталася экзатычная вандроўка за акіян, якую давялося «агораць», у літаральным сэнсе гэтага слова, аднаму, без ведання англійскай мовы. Запрашэнне ў чэрвені 1997 года ў Вашынгтон на Сусветную канферэнцыю па праблемах культуры і духоўнасці, у якой удзельнічала 348 пісьменнікаў, філосафаў, гісторыкаў, рэлігійных дзеячаў са 110 краін, было нечаканым падарункам. Я ўдзячны лёсу за пяць дзён гутарак з выдатным кінарэжысёрам, акцёрам, бліскучым знаўцам чалавечай душы Раланам Антонавічам Быкавым, хоць у расійскай дэлегацыі мелася і яшчэ шмат таленавітых, цікавых творцаў. На форуме ніякіх праблем не ўзнікла, ўсе выступленні ўдзельнікаў параўнаўча няблага перакладаліся на рускую мову.

Але перад тым былі нязручнасці. З Мінска да Франкфурта-на-Майне, а пасля да Нью-Ёрка даляцеў камфортна, хапіла маіх вельмі сціплых ведаў нямецкай мовы. Затое ў амерыканскім аэрапорце пачаліся пакуты: як жа запоўніць мытную дэкларацыю? Я стаяў ля стойкі, паныланазіраючы, як аднарэйснікі без затрымкі праходзяць кантроль. Выручылі тры вясёлыя сцюардэсы з люфтганзаўскага «Боінга», якія праходзілі міма. Я ўхапіўся за немак, як за апошнюю ратавальную саломінку, сказаў, што іхні пасажыр з Беларусі трапіў у стрэсавую сітуацыю. Старэйшая засмяялася, паляпала па плячы, сказала «Gut!» і хуценька афарміла дакумент на ўваход у Амерыку. Мілыя дзяўчаты пажадалі мне шчаслівага падарожжа і грацыёзна зніклі ў бязмежжы аэрапорта. А я зноў быў практычна нямым, бездапаможным, і з гэтай прычыны мяне чакаў новы стрэс.

Амерыканскія службы насцярожыла тое, што я прыляцеў без багажу, з адным «дыпламатам». Праўда, памеры ён меў нестандартныя, што дазволіла запакаваць бялізну і некалькі чыстых кашуль, сувеніры, кнігі і лісты для земляроў-эмігрантаў. Мая непадобнасць да звыклых пасажыраў якраз і выклікала павышаную цікавасць. У выніку гаспадарам давялося шукаць у сваіх шэрагах службоўца з веданнем нямецкай мовы, толькі з яго дапамогай фармальнасці былі нарэшце вырашаны. Пехатою я дайшоў да тэрмінала мясцовых авіяліній, дзе трэба было даволі доўга чакаць рэйса на Вашынгтон.

Тут сеў на лаву, з палёгкаю ўздыхнуў і пачаў чытаць кнігу па гісторыі старажытнай Беларусі, якую набыў перад ад'ездам. Непадалёку на суседняй лаўцы сядзела маладзіца, з твару мексіканка. Яна раптам усміхнулася і звярнулася з нейкім пытаннем, але я мог збянтэжана прамовіць толькі: «Sorry». Было бачна, што гэта яе здзівіла.

Заглыбіўшыся ў чытанне, абсалютна не чакаў таго, што адбылося праз паўгадзіны. Зморный пералётам, знерваваны, я задрамаў з кнігай на каленях. У бязладным сне сыходзіліся лавы вершнікаў, луналі бел-чырвона-белыя сцягі, іржалі, хрыпелі коні, пена ляцела з храпаў, моцнелі ўдары шабляў, разгаралася сеча... Я здрыгануўся ўсім целам, калі знянацку на мае вочы леглі ласкавыя, лёгкія далоні. Каму гэта ў Нью-Ёрку захацелася са мною пафаміл'ярнічаць?! За спіною пачуўся жаночы і мужчынскі смех: «Ну хто? Угадаў?» Я азірнуўся і сам зарагатаў. Побач стаялі ўкраінская паэтка Ганна Чубач, з якой нядаўна ўдзельнічаў у Міжнародным Шаўчэнкаўскім свяце ў Херсоне, плыў на цеплаходзе па Дняпры, і дэкан філалагічнага факультэта Кіеўскага ўніверсітэта, вядомы літаратуразнаўца Міхайла Наенка. Яны кіравалія на той жа форум. Мы абняліся, Ганнуся не магла супакоіцца: «Ну мы і настрашылі цябе! Ты аж з твару змяніўся!» Яна, карпулентная, мажная, але спрытная і рухавая, была ў шыкоўнай, вышытай украінскай сукенцы, а таму незвычайнымі паводзінамі і экзатычным адзеннем канчаткова шакіравала мексіканку. Той нават захацелася ўдакладніць: што ж гэта за дзіўныя людзі паляцяць разам з ёю ў Вашынгтон? Дэкан, які няблага валодаў англійскай, задаволіў яе цікаўнасць...

Блытаныя, неверагодныя мроі, больш падобныя на кашмары, даймалі мяне на ўсходнім чыгуначным вакзале Берліна. Было гэта адразу пасля падзення Берлінскай сцяны, якая праходзіла праз вуліцы і нават дамы, якая доўгі час не так фізічна, як маральна рассякала горад і ўвесь нямецкі народ на дзве часткі. Напэўна, у галаве тады сышлося і пераплялося ўсё, што звязана з Германіяй, з другой сусветнай вайной.

Цяпер, у 1990 годзе, на вакзале, дзе мне даводзілася неаднойчы чакаць цягнікоў на Усход і Захад, у акуратных, дысцыплінаваных немцаў я яшчэ ніколі не бачыў такой татальнай засмечанасці і бруду, не чуў неверагодна дзікунскіх крыкаў і лаянкі. Сапраўды, пераходны перыяд у любой, нават самай культурнай краіне, вызначаецца анархіяй і антысанітарыяй. Уразіла масавая бойка немцаў з туркамі, якія



спачатку задзіраліся ў вестыбюлі, а затым з галёканнем выкаціліся на плошчу. А ў будынку скрозь сядзелі гаманкія, неахайныя табары румынаў, турак, тунісцаў, прадстаўнікоў шматнацыянальнай Югаславіі. Асобна чакалі ад'езду да новага месца жыхарства немцы-перасяленцы з СССР, знясіленыя доўгай вандроўкай.

Дрымота на чамаданах, якая прыйшла, нягледзячы на вакзальны вэрхал, прынесла маміны ваенныя ўспаміны...

Росны жнівеньскі луг. Мужчыны з вёскі Хоціна вядуць з папасу коней. Трэба везці сабранае збожжа ў далёкае Багародзіцкае партызанам, якія засталіся без хлеба. Мама бяжыць насустрач: «Мужчынкі, уцякайце да лесу, не ідзіце ў вёску. Гэта не нашы. Нешта тут не тое». А тыя смяюцца: «У страху вочы вялікія. Ды свае гэта, свае! Не панікуй, Валя!»

А вёска ачэплена фашысцкімі карнікамі, якія ўкаціліся ціха, непрыкметна, прытым былі ў звыклай партызанскай вопратцы. Яшчэ ніхто нічога не зразумеў. Жанчыны скардзяцца карнікам, што немцы забралі амаль усіх каровак, клянуць іх. Нясуць жбаны з малаком, частуюць фальшывых партызан. А тыя сабралі мужчын і пагналі нібыта ў Сокарава. Па дарозе ў кар'еры забілі. Забівалі не кулямі, а палкамі... Коні яшчэ доўга сіратліва, паныла стаялі на вясковай вуліцы, здавалася, што разумелі бяду...

Без ніякага пераходу следам за вайной у дрымоту ўрываюцца адразу адна за другой стрэсавыя сітуацыі, у якіх быў: аўтобусная катастрофа ля Барысава і небяспечны пералёт на «Дугласе» па маршруце Катанія–Рым над Тырэнскім морам. Фрагменты перажытага ўспыхваюць і згасаюць, працінае фантомны боль у левым плячы, нібы на яве адчуваю ў роце пясок і раструшчанае шкло, бачу, як апантана моляцца манашкі ў салоне самалёта, які імкліва падае, як вольна лятаюць па ім шалікі, парасоны, кнігі...

Але ўсё гэта не дзеля лірыкі. Толькі эпічная паэма можа ўвабраць у сябе такое і зацікнуць тугім вузлом...

Драўляныя лавы старога мінскага чыгуначнага вакзала помняцца лепш, усёй істотаю — ад макушкі да пят. Гэта таму, што тут у чуйныя сны прыходзілі першыя вершы.

Вось я сяджу на мулкай лаўцы, ды мне ўтульна, добра. Толькі што ўдала выслізнуў з аблавы на «зайцоў», якую праводзіў у інтэрнаце на Паркавай, 9 сам дэкан філфака Булацкі з прадстаўнікамі прафкама. Цяпер расслабіўся, назіраю і думаю.

Калі прыходзяць цягнікі, выходжу на перон. Цікава назіраць за людскім вірам, за эмоцыямі. Увечары сюды з усяго горада сцякаюцца закаханыя парачкі. Яны карыстаюцца ад'ездамі і прыездамі, каб пад маркай пасажыраў, хоць і похапкам, але нашаптацца, намілавацца, нацалавацца. Позняй ноччу закаханых няма, разбрыдаюцца па сваіх прытулках спаць.

...Метадычна тупаюць па праходах і ўспорваюць соладка спячых міліцыянеры, не дадуць мне рыхтавацца да практычных заняткаў, адпачыць таксама замінаюць. Рабіць няма чаго. Застаецца толькі драмаць, думаць, а калі нешта прыйдзе ў галаву — запісваць у блакнот...

Многае ў зямным жыцці сыходзіць на нішто. Але асабліва шкада коней, якіх вельмі люблю. Тады я не ведаў, што адзін з дарагіх мне рускіх пісьменнікаў, ён жа акцёр і рэжысёр В. Шукшын, некалі скажа: «Калі памрэ апошні конь — свет рухне, таму што самыя лепшыя людзі — гэта коні».

Я неаднойчы мусіў вяртацца да вобраза каня як сімвала волі:

*«Дзе ты, косю мой верны, блукаў,*
*Што любіў апантана, найболей,*
*Што ў агромністым свеце шукаў?»*
*— Толькі волю, адзіную волю!*

Мае першыя каструбаватыя радкі пра каня неўзабаве з лёгкай рукі Алега Антонавіча Лойкі, шаноўнага выкладчыка і рэдактара, трапяць у калектыўны ўніверсітэцкі зборнік «Натхненне». Быў шчаслівы, што знаходжуся ў паэтычнай сябрыне з Жэняй Янішчыц, Алесем Разанавым, Мар'янам Дуксам, Юркам Голубам, Леанідам Дайнекам. Ды ўсё гэта будзе пазней...

У гэту ноч не да вершаў. Рэдакцыя «Чырвонай змены» перадала ліст з Гомеля, які парваў душу на дробныя часткі і развеяў яе на ветры. Вось ён, парны аркуш са сшытка ў лінейку: «Мілы Сярожа! Доўга думала, перш чым напісаць гэты ліст. Але я так узрадавалася, калі прачытала твае вершы ў газеце, што ты жывы і нарэшце знайшоўся, з таго, з такой радаснай прычыны і не магу не напісаць. Пішу, а сэрца калоціцца, рукі дрыжаць. Цябе так доўга не было. Ты вярнуўся, ты вярнуўся. Божачка, якое шчасце! Я не забылася, як мы гаварылі і не маглі нагаварыцца з табой на беразе Сажа. Якая я тады была шчаслівая, я не адчувала сябе, лунала, як аблачынка, над Гомелем. Нашы сустрэчы для мяне, як цудоўны сон. Нават не магу паверыць, што ўсё гэта было.

Я не забылася, як ты казаў, што паэту трэба бачыць і чуць тое, што знаходзіцца за межамі вока і вуха. А таму ўпэўнена, што цяпер нават на адлегласці ты ўбачыш і пачуеш мяне, зразумееш пачуцці, якія перапаўняюць маю істоту.

Разумею, што з тых нашых маладых спатканняў прайшло шмат часу. І ты не той, і я не тая. Табе давялося прайсці праз страшэнныя пакуты. У цябе была жонка, сын. Я ведаю пра гэта, бо сачыла за тваім лёсам. Можа, яны знайшліся, і вы жывяце разам? Жадаю табе сямейнага ладу і згоды, бо пасля няволі чалавеку яшчэ больш хочацца жыць, атрымаць ад свайго існавання хоць нейкую радасць, асалоду.

Я ж няўдала выйшла замуж, засталася адна, без дзетак. Працую настаўніцай у школе. Жыццё практычна пражыта. Гляджу цяпер на чужое шчасце, але не зайздрошчу. Проста часам шкадую сябе. Вось і ўсё.

Мой любы Сярожа, нешта пяшчотнае пісаць не буду, ці мала што ты можаш падумаць. Наогул, усё гэта падобна на запіскі вар'яткі, таму «не бяры да галавы». Я сама не ведаю, што ўва мне гаворыць, гэта і я і не я. Не судзі мяне строга. Я ж нічога не хачу, нічога не прашу, мне ад цябе нічога-нічога не трэба.

Калі не адкажаш, зразумею цябе, не пакрыўджуся. Я шчаслівая, што ты вярнуўся, што ты ёсць у гэтым свеце. Цалую. Бывай! Твая N.»

З якімі трымценнем і ўсхваляванасцю пісаў адказ незнаёмай жанчыне, дзядзькавай каханай, — ведаю толькі сам. Гэта заняло больш тыдня. Некалькі разоў рваў напісанае. Нарэшце расказаў, што я пляменнік Сяргея Ракіты (Законнікава), што вершы ў газеце мае, што наша сям'я таксама спадзявалася на лепшае, але ён загінуў у сталінскім канцлагеры.

...Прайшоў месяц. Зваротнай сувязі няма. Калі за гэты час не адказала, то, відаць, ніколі ўжо не напіша. Пра дзядзьку расказваў бацька, успаміналі пісьменнікі, якія яго ведалі. Няблага быў зляплены матухнай-прыродай гэты родны мне чалавек: стройны, плячысты, рысы абліччa буйныя, выразныя, запамінальныя, характарам камунікабельны, прыязны, меў схільнасць да гумару. А якая яна, калі шчымліва памятае юначае пачуццё? Смяшлівая або засяроджаная, рамантычная або практычная? А з выгляду якая — чарнявая... русявая... бялявая? З яе радкоў такое не можа высвеціцца. Так назаўсёды і застанецца яна загадкай?..

З лістом у руках засынаю на вакзальнай лаве да чарговай міліцэйскай пабудкі...

# На ўскрайку лета



Валеры ДУБОЎСКІ

### Адчыняю

*Нешта даўно не спяваў...*
*Чакаю —*
*У дзверы нехта пазвоніць.*
*Я — жорстка скошаная трава*
*На гарадскім газоне.*

*Мажліва, і праўда —*
*Расла загуста*
*Трава...*
*І занадта высока...*
*Ды наўпрост цалаваў*
*Аблокі вуснамі,*
*І жамяра ўва мне*
*Высока падскоквала.*

*Рукамі песцілі мяне каханкі.*
*Гарэзіла басаногж*
*Неслухмяная дзятва,*
*Спатыкаліся*
*Белыя дажджы і ранкі*
*І дзядоў прыпаміны:*
*«Ты — паганец, літва».*

*Хто коды мне знітаваў?*
*Чакаю —*
*У дзверы нехта пазвоніць...*
*Сам адчыняю —*
*Праяснена галава:*
*Казурка рупіцца*
*На гарадскім газоне.*

***

*І я ў туман пайду.*

*Нібы вуголле, тлее*
*Зляцеўшай зоркі*
*Невяртання след...*

*Ці шчасце, ці бяду,*
*Цень распачатых дум*
*І невяртання след,*
*Нібы туман, тапчу...*
*І я ў туман крычу...*

*І невяртання след...*

*І я ў туман пайду...*

### У бацькавым садзе

*У пройсце*
*З сённяшняга дня*
*Іду.*
*У радасці? У нудзьбе?*
*Сад перарос сябе,*
*З зямнога праросшы*
*Радства.*

*Згрызота — ужо як работа.*
*І курыва не ўзацяг...*
*Раздумлівы, неахвотны*
*Дымок,*
*Як апалы сцяг —*
*Дымок*
*З прамінулага лісця.*
*Не я яго запаліў...*
*У садзе, дзе рос калісьці,*
*Няўрод яблык і сліў.*

*Якое дзівоснае прадзіва*
*Квету*
*Буяла вясной!*
*З вакна — беларускае радыё.*
*З душы — мелодыя слоў.*

*...У бацькавым садзе — раса.*
*Кветам сад аслабеў...*
*Сад перарос сябе.*
*Беларусь сябе*
*Перарасла.*

### З чаго?

*Блішчынкі сонечнай лускі*
*На Свіцязь-возеры.*
*Усмешачка твая наўскід.*
*Ядзім марозіва.*

*Глыбеча чуццяў*
*Пад чаўном*
*Куды падзелася...*
*Ты мне ўсміхалася з чаго,*
*Жанчына ў смеласці?*



***

*На ўскрайку лета,*
*Пасярод жыцця,*
*У сераду,*
*Да вечнага нечага,*
*З кветкі на кветку*
*Твайго пачуцця*
*Шчамель і я*
*Ляцім ад сланечніка.*

*Наўсперач нас*
*На пальчык мезенны*
*Зайчык сонечны*
*Прыпаў лацвей...*

*...Ад сланечніка — сонцавей.*
*Ад усмешкі тваёй — паэзія.*

***

*Наступнасць*
*трымае лёсы магчымасцю.*

*Пройсце*
*агортвае спраўджанасцю*
*і немагчымасцю*
*паўтарыць.*

*Тутсамасць*
*спрабуе затрымаць пройсце*
*і затрымацца ў наступнасці.*

### Бесхацінка

*З бацькоўскага дому,*
*З матчынай люлькі душа*
*У свет невядомы*
*Краем вядомым пайшла.*

*Па дарогах, палянах,*
*Сукеўцях салодкіх і горкіх,*
*Ад дзядоў расстраляных,*
*Ад любай Максімавай Зоркі.*

*Ад гудкоў паравозных*
*Да эсэмэсак андроідных,*
*Аскетная і нецвярозая,*
*Душа, што шукала провіду.*

*Лёс суворасцю падперазаў.*
*Усё ж і ў жалеза знайшлася мякаць.*
*Была з вачэй не тваіх сляза,*
*Ды — праз жыццё — навучыўся плакаць.*

*Праз снягі і дажджы,*
*Прыспехам, подбегам, безупынку*
*Да сябе ці дабяжыць*
*Здарожаная душа — бесхацінка?*

***

*Душой душу ускалыхні.*
*Душэўная спадзе знямога.*
*Грахі і ксты*
*Нясем да Бога.*
*І не адмольваем грахі.*

*І застаемся*
*Як мы ёсць.*
*Як абразок у люстры Бога.*
*Найвышняя Яго мілосць.*
*Найвышняя*
*Яго*
*Трывога.*

# Прыйдзе час...



Вадзім ЖЫЛКО

***

*Ужо не з даверам — з дакорам*
*У вочы каханай зірні.*
*Кастрычнік нябачным затворам*
*З абоймы вышчоўквае дні.*
*Хвіліны, як вострыя кулі,*
*Намацаўшы позіркам скронь,*
*Чакаюць у восеньскім гуле*
*Драпежнай каманды: «Агонь!»*
*...Зімовыя блізка віхуры —*
*І што тут паробіш: жыццё!*
*А восень спраўляе хаўтуры*
*Па тым, што сышло ў небыццё.*

***

*Звісаюць з дахаў ледзяшы*
*Нямой пагрозай.*
*Ляжаць пытанні на душы*
*Вялікім стосам.*
*Кавярня кліча да сябе*
*Каля тэатра.*
*Застылы месяц у журбе*
*Апошняй квадрай.*
*А на сурвэтках на стале —*
*Маяк, ці Фара...*
*З дзяўчынай шэпчацца юнак*
*Да твару тварам.*
*Зноў крокі мераюць квартал:*
*О, недарэка!*
*Аптэка, вуліца, ліхтар...*
*Цень чалавека...*

***

*«Ну і нашто табе яно?»*
*З усмешкай позірк запытальны.*
*Наліта ў келіхі віно.*
*«Як, ты не п’еш? Недаравальна!*
*І што ты думаеш цяпер?*
*Былое зноў шукаць гатовы?»*
*Ў крэдыт, авансам, напавер*
*Ён шчодра рассыпае словы.*
*Ён так спяшаецца прабіць*
*Да падсвядомасці дарогу,*
*Што слоў сваіх губляе ніць*
*І замаўкае, дзякуй Богу.*
*Ды хоча першым быць паўсюль,*
*Прывык заўсёды ставіць кропку,*
*І тут жа залпам новых куль*
*Шпурляе да мяне чародку.*
*Ён намагаецца, дзівак,*




*Мяне па-свойму перайначыць,*
*І цэлы вечар аніяк*
*Свой не збаўляе тэмп гарачы.*
*Ён пераконвае ізноў*
*Ўсё з той жа жарсцю ды імпэтам...*
*Здаецца, і не хопіць слоў,*
*Не хопіць доказаў, ды дзе там!*
*А я маўчу: няхай сабе*
*Ён хоць да раніцы баўбоча.*
*Ў люстэрку бачацца ў журбе*
*Яго засмучаныя вочы...*

***

*Што праўда ў кожнага свая,*
*Спрачацца нам не варта, людзі.*
*Ды аднаму — валяцца ў брудзе,*
*Другому — мкнуцца да святла.*
*Постмадэрнісцкі каляндар*
*Свае дыктуе нам законы:*
*Камусьці — зноўку біць паклоны,*
*Другім — атрымліваць удар.*
*Інфармацыйны акіян*
*Нас паглынуць заўжды гатовы:*
*Як цені, пралятаюць словы,*
*На трон высокі ўзлез падман.*
*Ў вялікай модзе слова «фэйк»,*
*Прывабны самы колер — шэры.*
*Без разумення і без веры*
*Жыве, як зомбі, чалавек.*
*Ды праўда ў кожнага свая —*
*Ці хто там пра яе спрачаўся?*
*Сусвет змяніўся: там застаўся*
*Не Бог, не д’ябал — толькі Я...*

***

*Стануць незлічонымі*
*Ланцугамі чорнымі*
*Перад нескаронымі:*
*Трэба ж іх скарыць!*
*Хто раве раз’юшана,*
*Хто сіпіць прыдушана,*
*Кодлай развярушанай*
*Пачынаюць выць.*
*Нібы беснаватая,*
*Рушыць цэмры гвардыя,*
*І невінаватая,*
*Бо «загад у нас».*
*Можа, ёсць сумленныя,*
*Хоць бы патаемныя?*
*Пошукі дарэмныя,*
*Але прыйдзе час...*

# Міленіум

## Урыўкі з рамана



Леанід ЛЕВАНОВІЧ

Пятро паехаў трамваем, каб на плошчы Якуба Коласа сесці на метро і даехаць да Нямігі.

У падземным пераходзе станцыі метро было змрочна, ад шэрых бетонных сцен дыхала холадам, і, мусіць, таму, што Пятро ведаў аб трагедыі, якая тут адбылася, яму здавалася, што на сценах застыў немы, здушаны крык ахвяраў натоўпу. Прыкмет асаблівых ужо не было: усё прыбралі, вымылі. Каля выхаду з метро стаяў згорблены сівы мужчына. Зрэдзьчас падымаў галаву і пазіраў на шкляныя дзверы; чакаў: вось яны адчыняцца і выйдзе... Каго чакаў? Жонку, дачку, сына...

На самай ніжняй прыступцы Пятро ўбачыў цёмныя сляды крыві. Вышэй на падасланай газеце сядзеў русявы хлопец, бязгучна плакаў, ашчаперыўшы галаву. Каго ён страціў? Каханую, з якой быў разам. Смеючыся, навыперадкі імчалі ў падземны пераход, яна пакаўзнулася, а ён не змог утрымаць яе, натоўп, нібы лавіна, панёс яго далей.

Ярка свяціла сонца, разгараўся прыгожы маёвы дзень. Апошні дзень вясны. І раптам ён узгадаў, хто той сумнатвары сівы чалавек — кінааператар з тэлестудыі, з якім некалі здымалі перадачу на Палессі, здаецца, пра Івана Мележа, потым на Прыпяці была юшка. Пасля чаркі Пятро спытаўся ў яго: «Як вы адчуваеце, здымкі атрымаліся? Будзе што манціраваць?» «Вскрытие покажет», — весела адказаў кіношнік. «Вскрытие» — гэта значыць: праяўка плёнкі

Пятро зірнуў на гадзіннік. Было без дзесяці дзевяць, трэба спяшацца на працу, але ногі самі павярнулі назад. У пераходзе паболела людзей, сумнатварых, заплаканых. Пятро ціха наблізіўся да сівагаловага чалавека, ветліва спытаўся:

— Прабачце, вы не працавалі на тэлестудыі?

— Працаваў. А вы, здаецца, Махавікоў?

— Так, гэта я. Яшчэ раз прабачце. Чакаеце каго?

— О, мілы чалавеча! Чакаю, ды не ведаю, ці дачакаюся. Унучка, Аленка, студэнтка, вяселле намячалася... І хлопец людскі... — чалавек дастаў хусцінку, выцер чырвоныя вочы. — Пайшла з сяброўкай на гэтае свята. Хлопец ейны вадзіцель тралейбуса, быў на працы. Яны дамовіліся тут сустрэцца а палове дзясятай, патанцаваць, выпіць піва. Разам ехаць дамоў... І вось яе няма. Сяброўка вярнулася. Яе адціснулі да сцяны. Таму яна не ўпала... Мой сын, ну, бацька Алёнкі, з нявесткай паехалі па бальніцах. Можа, яшчэ жывая? Такое дзіцятка... разумніца, прыгажуня...

— Ну, мацуйцеся. Дай Бог, каб яна знайшлася.

Пятро паціснуў руку знаёмцу і заспяшаўся на працу. Па абедзе ён зноў прыйшоў на станцыю «Няміга». Ужо было вядома, што загінула 53 чалавекі, дзясяткі параненых — у розных бальніцах горада. 31 мая і 1 чэрвеня аб'яўлены днём жалобы.

Цяпер у падземным пераходзе было людна. На прыступках ляжалі кветкі, гарэлі свечкі. На сцяне бялеліся сіратлівыя аркушы паперы, на іх былі прозвішчы. Людзі прасілі прабачэння, што не змаглі падтрымаць, дапамагчы. Адзін надпіс на Сцяне Плачу (так назваў Пятро халодную мармуровую сцяну) моцна ўразіў: «Мілая, дарагая, даруй, што мяне не было побач. Божа, чаму ты забіраеш да сябе лепшых? Каго мне цяпер вінаваціць? Як несправядліва! Заместа вяселля ціхія могілкі...»

«Няўжо гэта пра ўнучку кінаапаратара», — падумаў Пятро. Гэта напісаў ейны сябар, вадзіцель тралейбуса, гэта крык ягонай душы...

Назаўтра Пятро накупляў газет, каб параўнаць, як яны асвятляюць жахлівую трагедыю. Журналісты пісалі па-рознаму, некаторыя цытавалі вядомыя радкі з летапісу пра бітву на Нямізе. Паведамлялі газеты, што мэр Мінска Ярмошын падаў у адстаўку. Сумленны чалавек. Канечне, больш вінаваты начальнік міліцыі, бо ягоныя падначаленыя не змаглі стрымаць натоўп, яшчэ болей вінаватыя арганізатары піўнога шоу. Але ж і яны на вялікае рэлігійнае свята — Тройцу — нікому ў рот піва не ліпі, навальніцу з градам не заказвалі...

У тую вясну Пятро даволі рэдка раскрываў свой дзённік — тоўсты нататнік у цёмных вокладках. Было шмат клопатаў у выдавецтве, на лецішчы, таму часу бракавала, дый імпэт ужо быў не той: што ні кажы, размяняў сёмы дзясятак. Але сёння карцела зрабіць запіс. Дастаў з шуфляды нататнік, які выдаў беларускі банк, але ніводнага беларускага слова ў ім не было. Усё па-руску і па-ангельску.

Працоўны дзень заканчваўся. Дырэктар выдавецтва па абедзе паехаў у Дом літаратара. Сакратарка адпрасілася дамоў. Маўчаў і тэлефон. Пятро зірнуў за вакно на праспект Машэрава. Адсюль быў добра відзён мост над вуліцай Няміга, там, злева ад яго — падземны пераход...

**1 чэрвеня 1999. Аўторак.**

Першы дзень лета. Перадапошняе лета тысячагоддзя. Усё вакол красуе, буяе. А ў Беларусі другі дзень жалобы. Што ж у нас адбылося?

Першага красавіка як знарок, у дзень гумару, віцэ-прэзідэнт фірмы «Клас-Клуб Джас Крафт» даслаў у Мінскі гарвыканкам заяву з просьбай дазволіць 30 мая 1999 года з 12 да 23 гадзін на адкрытай пляцоўцы каля Палаца спорту правядзенне масавага свята. Дазвол быў атрыманы. 26 мая начальнік гарадскога ўпраўлення унутраных спраў наклаў рэзалюцыю: для падтрымання парадку задзейнічаць 195 міліцыянераў і вайсковых унутраных войскаў.

Апоўдні свята пачалося. Магутна грымела музыка, ракою лілося халяўскае піва. Дзень быў сонечны, гарачы. Моладзь з усяго горада кіравалася да Палаца спорту. Хлопцы жлукцілі піва, стараліся не адстаць ад іх і дзяўчаты. У паветры лунаў водар імпартовых цыгарэтаў. Моладзь таўклася на вялізнай пляцоўцы, нібы камарэча цёплым маёвым адвячоркам. Ніхто з іх не думаў, што амаль на гэтым месцы ў 1067 годзе адбылася жорсткая бітва. Князь Ізяслаў Яраслававіч з братамі Святаславам і Усеваладам захапілі Менск. Усіх яго жыхароў выразалі — помста Полацкаму князю Усяславу за набегі на Пскоў і Ноўгарад. Пра тую бітву невядомы летапісец напісаў: «На Нямизе снопы стелют из голов, молотят цэпами булатными, на току жизнь кладут. Немиги кровавые берега не добрым посевом засеяны».

...Напрыканцы дня на захадзе зацямнелася невялікая хмара. Яна памалу расла, налівалася густа-чорнаю сінечаю, успаўзала на неба над высозным Домам кнігі. А 8:15 пачаўся дождж, ён увачавідкі мацнеў. Музыка не сціхала, разгарачаная моладзь па-ранейшаму таўклася ў скоках. Тым часам дождж перайшоў у град. А 8:30 асляпляльна бліснула маланка, аглушальна ляснуў пярун. Музыка сціхла, усе кінуліся ратавацца ў бліжэйшым укрыцці. Агромністы натоўп рынуўся ў падземны пераход станцыі метро «Няміга».

Гэта было жудаснае відовішча. Натоўп імчаў навыперадкі. Самыя дужыя, цыбатыя абганялі слабейшых. Хлопцы ў імпартовых красоўках і джынсах пераганялі дзяўчат...

Першымі ўпалі і пакаціліся ўніз дзяўчаткі на абцасіках, на іх падалі іншыя, якія чапляліся за твары, галовы, ногі ляжачых. Тры міліцыянеры, узяўшыся за рукі, спрабавалі спыніць натоўп, але сілы былі няроўныя. Трох міліцыянераў натоўп панёс уніз, кінуў сабе пад ногі. Немы крык, стогн, плач запоўнілі падземны пераход, у якім у адно імгненне зрабілася душна, горача, запахла смярдзючым адрыгнутым півам, запахла мачою і крывёй. Гэтае вар'яцтва працягвалася пяць-сем хвілінаў. Гара трупаў услала гранітныя прыступкі...

**Журналісты пісалі па-рознаму, некаторыя цытавалі вядомыя радкі з летапісу пра бітву на Нямізе. Паведамлялі газеты, што мэр Мінска Ярмошын падаў у адстаўку. Сумленны чалавек.**

У цішыні пачуліся трывожныя сірэны першых брыгад хуткай дапамогі.

Па вуліцы Максіма Багдановіча ў Зялёны Луг кацію тралейбус сорак шостага маршруту. Вадзіцель, малады русявы хлопец, узрадаваўся, калі дождж перастаў лупцаваць у лабавое шкло, выключыў дворнікі, падруліў да прыпынку «Няміга». Народу было поўна. Людзі, найбольш маладыя, дружна ціснуліся ва ўсе дзверы. Было без чвэрці дзевяць. Ён зразумеў, што на спатканне спозніцца, але нічога: Аленка будзе таньчыць і дачакаецца яго.

Наперадзе з уключанымі мігалкамі і сірэнамі імчалі тры машыны хуткай дапамогі і ўсе паказалі правы паварот на праспект Машэрава. У хлопца аж сэрца ёкнула: можа, бойка ўсчалася? Нешта там здарылася, бо не праста ж тры машыны хуткай дапамогі імчаць без дайпрычыны. Аб'явіў у мікрафон: «Асцярожна! Дзверы зачыняюцца». Але зачыніць дзверы было няпроста, бо на прыступках віселі людзі. Нарэшце ўсе ўціснуліся, дзверы зачыніліся...

Студэнтку Аленку і ейную сяброўку Светку натоўп нёс, як вясновая вада нясе трэскі. Яны трымаліся за рукі. Светка бегла бліжэй да краю, Аленка амаль у цэнтры. Светка ўжо задыхалася, цягнула сяброўку да сябе, каб вылузнуцца з імклівага натоўпу, але ззаду напіралі высокія, здаравенныя хлопцы. Аленка не ўтрымала, адпусціла Светкіну далонь. Пачаліся прыступкі, натоўп лавінай пакаціўся ўніз. Светку адштурхнулі да сцяны. Ззаду і збоку пачуліся адчайныя крыкі, плач. Вось і ўваход на станцыю. Светка азірнулася: Аленкі нідзе не было. Перад турнікетам, ля кабіны кантралёра, стаялі два міліцыянеры. Мабыць, схаваліся ад дажджу. Светка прапусціла два цягнікі: чакала Аленку, але сяброўка не з'явілася. Дзяўчына ўрэшце ўціснулася ў вагон.

Гадзіны праз дзве над шэрымі дамамі на беразе Свіслачы выкацілася вялізная мутна-барвовая поўня. У падземным пераходзе станцыі метро «Няміга» ўжо стаяла жудасная цішыня. Тэрміново выкліканы прыбіральшчыцы паскідвалі ў кучы абутак, адламаныя абцасы, вымылі швабрамі гранітныя прыступкі. У пераходзе трагедыя скончылася. Трагедыя ўдарыла ў бальніцах, кватэрах, службовых кабінетах. Усю ноч званілі тэлефоны, раўлі маторы машын. Вялікі мегаполіс, нібы патрывожаны мурашнік, не мог супакоіцца да самай раніцы.

Адно Свіслач ціха, спакойна несла сваю бруднаватую ваду ў далёкі спрадвечны акіян.

А пад Зямлёю, закаваная ў трубу, ціхутка, сарамліва струменіла яшчэ болей брудную плынь некалі паўнаводная і магутная Няміга.

У нядзелю 30 мая 1999 года па ўсіх календарах быў пазначаны сатанінскі, злы дзень. У рэках і азёрах Беларусі патанула 17 (сямнаццаць!) чалавек.

Крыважэрнае, бязлітаснае XX стагоддзе не стамлялася збіраць сваю жахлівую даніну...

**1 чэрвеня 2000 г. Чацвер.**

У першы дзень лета слаўнага прыехаў у горад. Спёкі няма — усяго плюс 21.

Прачытаў моцны артыкул Ніла Гілевіча. Вось што ён піша: «Ні ў якім разе нельга было праводзіць ні першы, ні другі рэферэндумы... Ні ў якім разе нельга было рабіць дзяржаўнай другую мову, мову хоць і крэўна блізкага нам, але іншага народа... Ні ў якім разе нельга было руйнаваць прынятую Вярхоўным Саветам Беларускую нацыянальную сімволіку».

Мае рацыю Ніл Сымонавіч. Адурманены народ зноў затаптаў свае гістарычныя карані. Крыўдна! Балюча. Сорамна перад нашымі продкамі: мужнымі ваярамі, вялікімі мыслярамі, нястомнымі ратаямі ды стараннымі сейбітамі... І гэты Вялікі народ абкрадзены, прыніжаны, нагадвае цяпер статак бязмоўных авечак.

**2 чэрвеня. Пятніца.**

У шапіку ля паліклінікі багата кніг, часопісаў — яркіх, крыклівa-пярэстых. І толькі адна кніжачка беларуская: Ніна Маеўская, «Андрэйкава казка». Сталага веку прадавачка сумна ўздыхнула: «Не любяць беларусы сваю мову. Сваіх пісьменнікаў, свае кніжкі». На жаль, гэта праўда.

**6 чэрвеня.**

Аўторак. Ноччу ўсяго плюс дзесяць. Удзень — 22. Як рана ўстае сонца! А пятай пайшоў касіць узмежак, бо сонца хутка вып'е расу. Сена мне не патрэбна, не люблю чарнобыль, які там буяе. Пакуль малады, скасіў, спаць на свежым духмяным сене добра.

Маскву і Кіеў наведаў Біл Клінтан. Мінск абмінуў. Наш хамуйла дамогся поўнай ізаляцыі Беларусі.

**9 чэрвеня.**

Ну і халадрыга! Ноччу ўсяго плюс пяць, удзень — 17. І гэта макаўка лета! Зрэшты — ёсць заканамернасць: пасля гарачыні наступае пахаладанне. А потым зноў прыпякае сонца. Няма чаму дзівіцца.

Пад вечар паедзем з Евай на лецішча — на жаль, у яе працоўная субота.

У вёсцы рэдка ўключаю тэлевізар, хіба што паглядзець навіны. А тут зацікавіў дакументальны фільм пра Аляксея Дударава, вядомага драматурга. Зроблены прафесійна. Усё прадумана. Не спадабалася, што з роднай сястрой, з аднавяскоўцамі Аляксей гаворыць па-руску. Нават калі б фільм здымаўся па заказе Масквы, дык і то дыялогі павінны быць на роднай мове. І надпіс на помніку бацьку таксама па-руску. Дарэчы, на любых могілках у нас надпісы па-руску або па-польску. Змаганне царквы і касцёла падсекла карані беларускай мовы. Асабліва пастараліся

праваслаўныя службы. У касцёле даволі часта можна пачуць нашу мову. У царкве — вельмі рэдка.

**19 чэрвеня. Панядзелак.**

Прырода здзекуецца з чалавека, асабліва — вясковага, ці помсціць «покорителям»?

За што на нас такое насланнё? Макаўка лета, а тут выскачыў мароз — мінус адзін. Грэчку, гарбузы, кабачкі памарозіў. Вось тут і працуй! І што гэта робіцца на свеце? Замаразкаў у другой палове чэрвеня, мусіць, не было ніколі. Адметнае лета на мяжы тысячагоддзяў...

Увечары «Нямецкая хваля» перадала, што нямецкая нацыя раскалолася на дзве часткі: адны лічаць, што ўсе немцы вінаватыя, іншыя вінавацяць толькі эсэсаўцаў і гестапаўцаў. Маўляў, салдаты вермахта выконвалі свой абавязак... Так, не ўсе вінаватыя. Вядома, што шэсць мільёнаў немцаў галасавалі за Эрнста Тэльмана, за камуністаў. Але большасць падтрымала Гітлера. Я лічу так: галасаваў за фюрэра — значыць, вінаваты. Калі б ён не прыйшоў да ўлады, не было б вайны. А мо знайшоўся б іншы фюрэр?

**30 чэрвеня 2000 года. Пятніца.**

Халодная макаўка лета. Толькі ў футбол гуляць. Чэмпіянат Еўропы ў разгары. Я ніколі не быў футбольным фанатам, але калі на дварэ дождж і халадэча, можна паглядзець тэлік...

Чаму наш футбол гэткі слабенькі? Успомніўся жарт: што гэта за дзіва? Нарадзілася ў Брытаніі, вырасла ў Бразіліі, памерла ў Беларусі. Гэтае дзіва — футбол.

**3 ліпеня. Панядзелак.**

Дождж, халадэча. Нярадаснае, непрыветнае, няўтульнае свята. Не магу прыняць аб'яднанне Дня незалежнасці з днём вызвалення Мінска ад нацыстаў, нават не ўсёй Беларусі. Гэта збядненне нашай гісторыі. Маўляў, незалежнасць нам прынесла Чырвоная Армія. А што было дагэтуль — не мае значэння, маўляў, дзяржаўнасці беларусы не мелі. А 27 ліпеня — дата здрадніцкая — у гэты дзень 42 ці то 43 года пад бел-чырвона-белым сцягам фашысты блаславілі ў Мінску калабарацыяністаў на барацьбу з бальшавікамі. Таму і сцяг нацыянальны, гістарычны «адмянілі» палітычныя прахіндзеі.

Веру: сыдзе ў нябыт гэта нялюдская ўлада і зноў вернецца Пагоня і наш трыкалор, як ён ёсць у Расіі, Украіне.

**10 ліпеня. Панядзелак.**

Учора пачуў па радыё: у Турцыі каля 30 чалавек загінулі ад спёкі. А ў нас амаль штодня дождж, вясною сушыла, зараз мочыць. Затое грыбы растуць, бульба набірае сілу. Каларадскі шкоднік адваліўся.

Паглядзеў рой-пяршак, парадаваўся. Адцягнулі рамкі вашчыны — набудавалі сотаў. Чарва ўжо запячатаная, па краях сотаў залацісты мядок. Дзён праз 8—10 народзяцца маладыя пчолкі, паласуюцца мёдам, пачнуць грэць расплод, праз некалькі дзён выляцяць, каб ачысціцца, агледзецца, стануць санітарамі, нянькамі, прыёмшчыцамі нектара, будуць вартаваць лётку.

А дзён праз колькі вылецяць яшчэ, каб агледзецца, будуць



кружляць высока, каб добра прыкмеціць свой домік, увесь пчальнік. І стануць яны рабочымі пчоламі, і пражывуць 35-40 дзён. Крылы іхнія зносяцца і ўпадуць на зямлю. А малодшыя сёстры, якія народзяцца ў жніўні-верасні, будуць зімаваць і пражывуць 8-9 месяцаў. Як няроўна дзеліць Бог! І як мудра ўладкавана жыццё пчалінай сям'і!

**11 ліпеня. Аўторак.**

Вязаў венікі. Самы час, бо заўтра ўжо Пятрок.

Вязаць венікі — любімая работа. Галінкі бярозы, дубу, а ў сярэдзіну — тры галінкі палыну. Які духмяны букет! Міжволі ўзгадаўся верш Алеся Пісьмянкова «Ода бярозаваму веніку»: «Бярозавы венік зноў лечыць ад суму. Які цябе геній калісьці прыдумаў? Ці сейбіт стараннны, ці воін харобры, быў лекар ён знаны: прыдумана добра...». Далей дакладна не памятаю. Здаецца, так: венік лечыць ад скрухі, ад млосці, ад стомы, ад злосці, каб грэшнае цела жыло і хацела...

**18 ліпеня. Аўторак.**

Прысніўся дурацкі сон. Нібыта трапіў я ў Мінскую партшколу, там я не вучыўся, быў на курсах павышэння кваліфікацыі. Затым апынуўся ў аўдыторыі сельгасакадэміі ў Горках — маёй альма-матар. Людзей поўна, ходзяць па калідорах, і ўсе незнаёмыя. Раптам бачу — на лесвіцы ляжыць мой стары шэры паліто. Апрануў яго, калі быў студэнтам, потым у вёсцы, дзе працаваў аграномам. А побач з паліто — латаная-пералатаная кухвайка. Усе абыходзяць, глядзяць, дзівуюцца. А мне зрабілася так сорамна: трэба прыбраць гэтае рыззё, але куды яго дзець?

Прачнуўся, ціха парадаваўся: я ў сваёй хаце і ніякія лахманы прыбіраць не трэба. Падумалася: нехта недзе ўзгадваў мяне. Можа, нават у калгасе, дзе працаваў, адкуль сігануў на тэлебачанне...

**21 ліпеня. Пятніца.**

Выступаў па тэліку журналіст з Амерыкі Алесь Росіч, бэсціў буржуяў, прадракаў абвал даляра, крызіс. Больш за тое, даводзіў, што ЗША ўжо разваліліся б, калі б не паставілі на калені Расію. Цікавы паварот сюжэта...

**22 ліпеня. Субота.**

Схадзіў у грыбы. Нарэзаў паўкаша лісічак, сыраежак. Баравіка знайшоў аднаго, затое які мацак і прыгажун. Народ галёкае ў лесе, машыны сігналяць. Птушкі заціхлі, а грыбавікі абудзіліся.

Хадзіў па лесе і думаў пра свае занатоўкі — працяг учарашніх думак. Зноў пераконваў сябе: нічога, што запісы кароткія, часам малазначныя, дробязныя, дык жа з дробязяў складаецца чалавечае жыццё. Пішу для сябе, пра што хачу і як хачу. Колькі творцаў, і не абы-якіх, а вялікіх, таленавітых, марылі пісаць пра тое, пра што хочацца і як хочацца. Здаецца, пра гэта я чытаў у Твардоўскага.

**24 ліпеня. Панядзелак.**

Які звон і гуд на грэчцы! Найлепшая музыка для пчаляра. Добра, што ўчора падставіў вашчыну — яшчэ могуць адцягнуць соты.

А цяпер пра незвычайную рамачку з надставкі-магазіна. Яна падзелена на чатыры пласцікавыя секцыі, у іх устаўляецца вашчына, пчолы робяць соты, заліваюць іх мёдам і запячатваюць воскам. Гэтую секцыю ўстаўляеш у адмысловы пласцікавы карабочак — ён прадаецца ў пчалярскай краме; атрымліваецца прэзент — грамаў трыста мёду ў сотах, які можна везці куды хочаш. Дык вось, такія падарункі атрымалі ўчора Ева і Косця. Адну секцыю, якая не запоўнена цалкам, смакавалі падчас абеда. Адзін карабочак застаўся мне — пачастую добрага чалавека.

Дарэчы, Косцю прэзент асабліва спадабаўся. «Абрадую сваю дзяўчыну. Абалдзее ад мядовага водару». Мы з Евай пераглянуліся, у еўным паглядзе я ўбачыў радасць і ўдзячнасць дзеду-пчаляру.

**26 ліпеня.**

Серада — самы грыбны дзень. Пасля нашэсця гарадчукоў у выхадныя дні лес зноў набірае сваю жыццядайную сілу: растуць грыбы, спеюць брусніцы, яшчэ можна і чарніц набраць. А суніцы цвітуць усё лета. Лес поіць і корміць беларуса спрадвеку, толькі не лянуйся, але будзь ашчадным, беражлівым. Сёлета на пачатку лета бушавалі лясныя пажары. А потым пайшлі дажджы. Нарасло ў лесе травы, пажар ужо не так страшны.

**Вядома, што шэсць мільёнаў немцаў галасавалі за камуністаў. Але большасць падтрымала Гітлера. Я лічу так: галасаваў за фюрэра — значыць, вінаваты. Калі б ён не прыйшоў да ўлады, не было б вайны. А мо знайшоўся б іншы фюрэр?**

Працяг учарашняга запісу пра Амерыку: гартаў таўшчэзную кнігу «Английский для маленьких», трэці ўрок. Словы: дог — сабака, піг — свіння, кап — кубак і ган — стрэльба. Побач усё гэта на малюнку. Вось табе і кніга для «маленькіх». Навошта ім стрэльба? Выдадзена ў Маскве яшчэ ў 1963 годзе. Факт, што ўзорам паслужыла нейкае амерыканскае выданне.

**27 ліпеня. Чацвер.**

«Маразм крепчает», — як гавораць расіяне: русафіл, камуняка-артадокс В. Ч. прызначаны шэфам Белтэлерадыё. Значыць, беларускамоўных перадач будзе яшчэ меней. Сумна.

Л. рыхтуецца да прэзідэнцкіх выбараў, таму і прызначыў артадокса Ч., які будзе служыць верай і праўдай. А «рэзонатор» З. стаў намеснікам, куратарам тэлебачання. Значыць, БТ стане яшчэ болей антыбеларускім. А калі я працаваў — у 80-я гады тэлебачанне шчыра вучылася загаварыць на роднай мове.

Нечаканы прыбытак у сям'і. Вяртаюся з лесу — пад лавай каля дзвярэй веранды скуголіць шчанюк, малы, з рукавіцу. Бухматы, з доўгай пыскай, шыркім хвосцікам. Глядзіць на мяне і пішчыць, быццам просіць, каб узяў яго, як дзіця, просіцца на рукі. Узяў, пагладзіў, ён прыцуцькаўся да грудзей. Нехта хацеў мне ўручыць, а калі дома няма, то й пакінуў ля дзвярэй. Вырашыў, што гэта «хлопчык», і даў імя — Джэк!

**28 ліпеня. Пятніца.**

Ноччу плюс 12, удзень — 24. Армянскі баланс. Для пчол вельмі спрыяльнае надвор'е. Зацвітае верас. Будзе мядок!

Яшчэ цвіце грэчка. От каб яе было гектараў сто! Колькі б мядку прынеслі мае пчолкі... А грэцкі мёд асабліва карысны, у ім багата жалеза, а колер цёмна-шакаладны. А верас дадасць цёмна-зялёнага адцення. Летні мёд у мяне бывае зусім цёмным. Найлепшы прадукт і лекі без рэцэпту.

Цалкам мядовая занатоўка! Хай будзе і такая.

**29 ліпеня.**

Учора прынёс поўны кош грыбоў. У большасці — лісічкі і махавікі. Прыгожыя грыбы! Маладзенькія махавічкі — быццам залатыя гузікі на зялёным махавым сурдуце леса. Праўда, яны цямнеюць у час варкі, радыяцыі бяруць болей за іншых Усё гэта адносна. Хіба што апенькі самыя чыстыя, бо растуць на пнях.

Сянні ранічкай таксама схадзіў, назбіраў меней, чым учора, хоць і апярэдзіў гарадчукоў, бо мне зусім блізка. Насмажыў на сале з цыбулькай. Смаката. Чакаю жонку... Джэк асвойтаўся, ужо асцярожна спрабуе гырчаць і гаўкаць. Грозны будзе вартаўнік.

**30 ліпеня. Нядзелька.**

Не праспалі мы з Евай ранак — папёрліся ў грыбы. Лес гудзеў, галёкаў. Але калі ёсць грыбы, дык кожны свайго знойдзе. І нам пашанцавала — па траве на ўскрайку леса нарэзалі казлячкоў-маслят, набралі чарніц. Па абедзе Ева паехала — парадкавала лясныя дарункі.

Дарэчы, Джэк ёй спадабаўся. Так яна яго лашчыла, як свайго дзіцёнка.

У мяне была радасць. Пад вечар сыпануў цёплы, ціхі дождж-грыбасей. Паліў агуркі, памідоры, капусту. Калі дождж ушчух, на небе ўспыхнула сямікалерная вясёлка-дуга, быццам арка ў нябеснае царства. Побач была прыкметна і другая вясёлка, слабейшая, але ўсе колеры можна было згледзець...

**31 ліпеня.**

Да чаго цікаўныя дзеці Матухны Прыроды! Часам цікаўнасць звязана з клопатам пра хлеб надзённы. Зімою і вясною сініцы стукаюць у лётку, каб выманіць пчалу. І тут жа хапаюць яе. Сусед Стась неяк дзівіўся: гуляюць куры па двары, месца многа, але як толькі не зачыніш веснічкі, у імгненне ўсе будуць на вуліцы.

А сянні здзівіў мяне малы Джэк. Я чытаў на лаве ля веранды газету. Раптам высыпалі на аблёт пчолы з лежака. Мне закарцела палюбавацца бліжэй — прафесійная цікаўнасць. Аблёт быў магутны. Спачатку пчолы кружылі над вулеем, потым падняліся вышэй. Увесь пчальнік, падворак напоўніліся звонам і гудам. Значыць, гэтыя маладыя пчолкі ўжо стануць рабочымі, паляцяць у лес, на верас. Світа аб'явіла поўную мабілізацыю.

Задаволены, вяртаюся на сваё месца. А дзе ж акуляры? Абмацаў кішэні, агледзеў лаву — няма! І раптам бачу — акуляры ў зубах Джэка. Гуляе з імі каля студні. Нават дужку трохі пагрыз. Во, разбойнік! Вось якая цікаўнасць, з ядой, харчам зусім не звязаная...

# Паэт не гаворыць лішняга



Вікторыя ДЗІКАБРАЗ

* * *

*Людзі глядзелі на мяне й палохаліся.*
*Глядзелі — й палохаліся,*
*наколькі ж у мяне шырока расплюшчаныя вочы.*

*Так, нібы праз іх праходзяць усе акіяны.*

*Шырока расплюшчаныя вочы —*
*як шырока распятыя рукі. На фоне класу*
*я заўжды вылучалася*

*нетыповымі сімпатыямі да літаратуры*
*і самааналізу.*

*Потым зразумела, што нас такіх — не адзінкі,*
*а зрэдчас і не нулі. Навошта гэта?*

*Мы кідаем выклік сістэме —*
*яна нам яго прыносіць, як палку.*

* * *

*Паміж намі розніца, як паміж вішнямі і чарэшнямі:*
*ты кажаш пра колішніх — я пра цяперашніх.*

*Ты мне вострыш нажы — і я рэжу яблык.*
*Гэты лістапад — люты са смакам патакі.*
*Ты гатовы прымаць смерць і мне ўсміхаешся.*

*Я кажу, Бог — жанчына, і Ён са мной пагаджаецца.*

*Хіба я дарэмна складаю з тваіх рухаў азбуку?*
*Ну, хадзі ж, хадзі да мяне, зямля хістаецца.*

* * *

*Час — паганая рэч:*
*ад яго знікаюць шнары і гузакі,*
*ды іншыя твае цыдулкі.*

*Іншая рэч — памяць:*

*я дагэтуль*
*б'юся дома ў люстэрка там,*
*дзе ў цябе*
*пачынаецца калідор.*

### Караткі верш пра будзённыя рэчы

*Смерць цягнецца па цябе,*
*нібы рука па*

*запальнічку.*

* * *

*Хтосьці кажа: зона камфорту —*
*я чую: зона.*

*Хто кажа: камеры сэрца —*
*я чую: камеры.*

*Яшчэ кажуць: камерная музыка —*
*чую… Вось бачыш?*

*Звыкаеш заўважаць*
*кепскія падтэксты —*
*і аніякай музыкі.*

* * *

*Гэта ж трэ'. І дарога з'яўляецца*
*пад нагамі таго, хто ідзе.*
*І прастора — перад вачыма*
*таго, хто глядзіць.*

*Адно ты гаворыш,*
*што часу няма.*
*Ці толькі ты яго*
*не маеш,*

*каб проста прыехаць.*

### Неабходнае падкрэсліць

*Давялося вывучаць гісторыю на жывых уроках.*
*Зрэшты,*
*калі ўсё паўтараецца,*
*ёсць шанс адгадаць паміж а, б, в.*
*Неабходнае падкрэсліць — кажуць зверху,*
*і я падкрэсліваю любоў.*

*Бо што ёсць а.т.о.? Гэта дзяўчыны,*
*якія адшываюць п'яных салдат у вагонах*
*так далікатна,*
*што тыя на імгненне адчуваюць сябе братамі —*
*і супакойваюцца.*

*Гэта жанчыны, якія знаходзяць у шафах*
*столькі цёплых рэчаў, хаця зрэшты, найцяплейшым становіцца*
*сам факт перадачы туды.*

*Гэта дзеці,*
*што на ўроках выяўл-м-ва выводзяць гербы,*
*крадком хаваючы ў шуфлядках танчыкі і качанят,*
*і свае незразумелыя сны,*
*сны ў чорным святле,*
*крыклівыя і няўпэўненыя,*
*аж аловак ламаецца тройчы,*
*пакуль яны намалююць.*
*Што ёсць а.т.о.?*

*Тонкія, як сценкі ў цягніках,*
*крыжыкі на запясцях,*
*крыжыкі ў бюлетэнях,*
*крыжыкі на абіўцы.*
*Ціхая, нібы вада, нянавісць да крыжыкаў*
*і бяссілля.*

*Тыя навінныя стужкі й рахункі, так многа рахункаў,*
*можа і груба,*
*але лепей бы замест іх былі хворыя дзеці,*
*і зусім трошкі —*
*зборы на рэабілітацыю.*

*Што ёсць а.т.о., я не хачу, каб унукі*
*распытвалі мяне за вячэраю,*
*хаця хай распытваюць —*
*што ім паведамяць падручнікі?*

*а.т.о. — гэта адвага біцца,*
*але не адзін раўнд, а па-сапраўднаму,*
*як у фільмах.*
*І ты гэтаксама ж можаш.*
*Біцца да скону ўласціва ўсім, у каго ёсць сэрца.*
*Бо каму, як не сэрцу, гэта ўласціва перадусім?*

*Аперацыя ад тэрарызму,*
*аперацыя ад чэрствасці,*
*іх звычайна робяць без анестэзіі,*
*дык чаму ж час ад часу ты нічога*
*не адчуваеш..*

*Гэта гады рэвалюцый, знявагі й расчаравання,*
*гады аднаўлення веры ў чалавека, страты*
*і новыя аднаўленні.*
*Гэта доўгая, быццам снег, барацьба за сэрцы.*
*Тыя самыя, што б'юцца да смерці.*

*Тыя самыя, што спяваюць і плачуць,*
*супакойваючы нас у дарозе,*
*закалыхваючы нас у дарозе,*
*забываючы нас,*

*згадваючы,*

*забываючы яшчэ раз —*

*на ўсялякі выпадак.*



* * *

*Я злосная.*
*Яна кіпела з мяне яшчэ з нараджэння.*
*Кажа, не будзе мне ні спакою, ні адраджэння —*
*будзе балота салодкае і развярзанне*
*неба пад мазалямі,*
*зямлі пад шыйнымі пазванкамі.*

*Я сляпая.*
*Я люблю яе кожны дзень.*
*Кажу, мая ма — найпрыгажэйшая ў свеце ма!*
*Вы чулі, як вецер узносіць яе імя?*
*Стаяць за яго можна толькі да канца,*
*і я стаю.*

*Я дачка.*
*Я адна з сарака чатырох.*
*Мільёны імёнаў называю братоў і сёстраў,*
*мой кодэкс такі крымінальны,*
*і па кодэксе гонару*
*мой голас застаецца тут.*
*Я спявацьму нам.*

*І ты давай.*
*Давай ёй усё, што маеш,*
*вучыся лічыць магчымыя страты.*
*Вучыся сшываць краі і мяняць памяць*
*задарма на чорным рынку:*
*шэраг «абяцанкі», стэлаж «ты згадзіўся»,*
*вывучы ўжо.*

*Такіх не выбіраюць.*
*Такіх падкідваюць з лёсам.*
*Шануй бацькаўшчыну і любі па шчырасці,*
*у цябе не будзе іншага нараджэння,*
*можаш знайсці агульную мову,*
*знайсці пра што гаварыць,*
*урэшце рэшт,*

*не маленькі ўжо.*

* * *

*Ёсць такія людзі. Што не ў стане*
*змяніць сябе — і ўрэшце мяняюць*
*горад.*

*Забіраюць нічога з таго,*
*што можна вынесці,*
*лічаць па радзімках*
*(збіваюцца, пералічваюць,*
*знаходзяць новыя), даўгі*
*ўкладаюць шчыльна*
*на дне валізы, якую ўласна,*
*потым спаляць з кватэраю.*

*Бо калі выязджаць на гару —*
*дык ужо ціхенька.*
*Як ламаць сабою граблі —*
*дык хіба якія новыя.*

*Урэшце, нічым не скутыя,*
*быццам уцекачы,*
*праводзяць апошняй згадкаю*
*уласнае папялішча,*
*праводзяць рукамі па спінах*
*— ці ўсё зраслося —*
*выходзяць з экс-дому на дом,*
*супраць сонца ідуць.*

* * *

*паэт не гаворыць лішняга я сказала*
*паэт не гаворыць лішняга я сказала*

*паэт не гаворыць. лішняга ж нагаварыла*
*табе таго верасня*
*калі зводзіла пальцы мастамі на грудзях*
*як грудзі зводзіла ад кашлю калі зводзіла зубы*

*лішняга ж напляла з твайго вэлюму-льну*
*ты не збіраўся — хаця я сабрала ўсе рэшткі*
*з аскепкаў кубак да кубка*
*пальцы парэзала лустамі*
*хоць намазаць вінам хочаш — дык душыся.*

*лішне цяпер бянтэжыцца стаяць на скразняках*
*ніякавата гаварыць суседзям «здрастуйте»*
*паэт не гаворыць лішняга — я ўжо сказала.*
*можа не трэ ізноў пачынацца з вяршыкаў.*

* * *

*Мы б мільгалі*
*па краіне так хутка,*
*каб не паспяваў гарызонт.*

*— Шкада, што гэта не Амерыка, —*
*выдыхаеш у плацкарце*
*ў малочнае шкло, марачы пра фургон.*
*А тым часам…*

*Кожная краіна прапарцыянальна*
*каштоўнасці паліва ў ёй.*

*З амерыканскімі трасамі,*
*колькасцю нафты*
*— (на бяздушнасць насельніцтва) —*
*і такімі ж цэнамі*
*на бензін і аўто*

*мы б вывучылі нашу! краіну*
*на раз-два-тры,*
*і згубіліся ў Еўропе.*

*— На шчасце, гэта не для нас.*

*І гэтая не-Амерыка,*
*у якой мы такія бесфургонныя,*
*але якую так прыемна*
*вывучаць пакрокава, —*

*заканчваеш ты. І мы выходзім*

*між вагонамі на прастору*
*з размовамі пра паліва,*
*пра Еўропу з яе аўтабанамі,*
*і зусім крыху —*
*пра Амерыку.*

**Пераклаў з украінскай**
**Алесь Емяльянаў-Шыловіч**

# Гісторыя Альмансора



Вільгельм ГАЎФ

— О гаспадару! Людзі да мяне расказвалі дзівосныя гісторыі, якія чулі ў чужых краінах, я ж мушу з сорамам прызнацца, што не ведаю нічога, вартага вашай увагі. Аднак калі гэта вас не знудзіць, я апавяду вам пра незвычайны лёс аднаго з маіх сяброў.

На караблі алжырскіх піратаў, з якога вы літасціва мяне вызвалілі, быў юнак майго ўзросту, які, як мне здавалася, нарадзіўся не дзеля нявольніцкай вопраткі. Астатнія няшчасныя на караблі былі людзьмі грубымі, жыць побач з імі было непрыемна, мовы іншых я не разумеў, таму кожную вольную хвіліну, калі яна надаралася, праводзіў з тым юнаком. Ён называў сябе Альмансорам, і вымаўленне выдавала ў ім егіпцяніна. Мы бавіліся прыемнымі размовамі і аднойчы вырашылі расказаць адзін аднаму свае гісторыі. Як высветлілася, гісторыя майго сябра яшчэ неверагоднейшая за маю.

Бацька Альмансора быў высакародным чалавекам і жыў у егіпецкім горадзе, якога мой спадарожнік не назваў. Дні дзяцінства Альмансор пражыў у радасці і шчасці, акружаны ўсім бляскам і ўсімі прыемнасцямі, што ёсць у свеце. Пестуном ён, аднак, не быў і адукацыю атрымаў рана: бацька, чалавек мудры, прывучаў сына да дабрадзейнасці і запрасіў яму ў настаўнікі знакамітага вучонага, які даў юнаку ўсё, што мусіць ведаць малады чалавек. Альмансору было каля дзесяці, калі ў краіну з-за мора прыйшлі франкі і пачалі супраць ягонага народа вайну.

Бацька хлопчыка, напэўна, чымсьці франкам не дагадзіў, бо аднаго дня, калі ён збіраўся на ранішнюю малітву, яны прыйшлі да яго і запатрабавалі ягоную жонку ў залог адданасці франкскаму народу, а калі той адмовіўся, гвалтам забралі да сябе ў лагер ягонага сына.

На гэтых словах шэйх раптам закрыў твар, і ў зале незадаволена загаманілі.

— Як, — крычалі сябры шэйха, — як насмеліўся гэты юнак так безразважна развярэджваць раны Алі-Бану замест таго, каб загойваць іх? Як можа ён распальваць ягоны боль замест таго, каб суцішваць?

Наглядчык за рабамі таксама разгневаўся на бессаромнага юнака і загадаў яму маўчаць.

Юны нявольнік вельмі здзівіўся і запытаўся ў шэйха, што ў ягоным аповедзе выклікала незадаволенасць гаспадара. Шэйх падняў галаву і прамовіў:

— Супакойцеся, сябры. Адкуль ён можа ведаць пра мой сумны лёс, не прабыўшы пад гэтым дахам і трох дзён? Няўжо сярод ліхадзейства, што чынілі тыя франкі, нехта не мог зазнаць такой жа долі, што і я? Магчыма, той Альмансор… але лепш, мой сябра, расказвай далей!

Малады нявольнік пакланіўся і працягнуў:

— Значыць, Альмансора адвялі ў лагер франкаў. Пачуваўся ён там збольшага добра. Адзін з военачальнікаў паклікаў хлопчыка ў намёт і забаўляўся яго адказамі, якія яму перакладаў тлумач. Военачальнік сачыў, каб Альмансору не бракавала ежы і вопраткі, але туга па бацьку і маці рабіла хлопчыка вельмі няшчасным. Ён праплакаў шмат дзён, аднак слёзы яго тых людзей не кранал. Калі лагер знялі, Альмансор думаў, што яму дазволяць вярнуцца дадому, але марна: войска перамяшчалася, ваявала з мамелюкамі, і юны Альмансор быў вымушаны ўвесь час цягацца з франкамі. Калі ж ён маліў палкаводцаў і военачальнікаў адпусціць яго дадому, тыя адмаўляліся і казалі, што ён павінен заставацца закладам вернасці свайго бацькі. Так ён правёў у паходзе нямала дзён.

Аднойчы хлопчык заўважыў, што ў войску пачаліся хваляванні: казалі пра зборы, адступленне, пагрузку на караблі. Альмансор бязмерна радаваўся, што цяпер, калі франкі выпраўяцца да сябе, яго вызваляць. Войска разам з коньмі і фурманкамі пацягнулася назад да мора, і нарэшце паказаліся караблі, што стаялі на якары. Салдаты пачалі грузіцца, але настала ноч, і на караблі паспела трапіць толькі невялікая частка. Альмансор кожную хвіліну чакаў, што яго вызваляць, і не хацеў засынаць, аднак урэшце глыбокі сон адолеў яго. Ён думаў, што франкі падмяшалі яму нешта ў ваду. Прачнуўшыся, ён убачыў, што ў яго маленькі пакойчык зазірае светлы дзень — але ж засынаў ён у іншым месцы. Хлопчык саскочыў з ложка, але ўпаў, бо падлога гайдалася: здавалася, усё рухаецца і танчыць вакол яго. Ён засяродзіўся і, трымаючыся за сцены, выбраўся з пакоя.

На яго абрынуўся незвычайны гул і свіст: ён ніколі не бачыў і не чуў нічога падобнага, а таму не разумеў, спіць ён ці не. Нарэшце знайшоў невялікую лесвіцу, з цяжкасцю працісннуўся наверх — і які ж яго ахапіў жах! Вакол не было нічога, акрамя неба і мора: ён быў на караблі! Хлопчык пачаў енчыць, ён хацеў, каб яго вярнулі назад, ледзь не скочыў у мора, каб плысці на радзіму. Аднак франкі яго ўтрымалі, а адзін камандзір паклікаў да сябе, паабяцаў, што калі Альмансор будзе паслухмяным, то хутка вернецца на радзіму, і растлумачыў, што завезці яго дадому было нельга і пакінуць — таксама, бо тады б ён мог памерці.

Аднак слова свайго франкі не стрымалі: карабель плыў шмат дзён, і калі нарэшце прыстаў да берага, то гэта быў не Егіпет, а Франкістан! Падчас доўгага плавання і яшчэ ў лагеры Альмансор трошкі навучыўся разумець мову франкаў і размаўляць на ёй, і гэта вельмі спатрэбілася яму ў краіне, дзе ягонай мовы ніхто не ведаў. Яго доўга везлі ўглыб краіны, і паўсюль народ збягаўся паглядзець, бо салдаты казалі, што гэта сын егіпецкага караля, якога той адправіў у Франкістан вучыцца.

Але казалі гэта салдаты толькі дзеля таго, каб народ паверыў, што яны перамаглі Егіпет і заключылі з ім надзейны мір. Пасля шматдзённага падарожжа па краіне перад імі быў вялікі горад, іх мэта. Там юнака перадалі доктару, які ўзяў яго да сябе і пачаў вучыць усім традыцыям і звычаям Франкістана.

Перадусім Альмансор мусіў нацягнуць франкскую вопратку, вельмі вузкую, нязручную і зусім не такую прыгожую, як ягоная егіпецкая. Потым яму забаранілі рабіць паклоны, скрыжаваўшы рукі, а калі ён хацеў выказаць камусьці павагу, трэба было адной рукой зняць пачварны чорны фетравы капялюш, які насілі ўсе мужчыны і які надзелі і на яго, а другую адвесці ўбок і шоргнуць правай нагой. Акрамя таго, яму забаранілі сядзець, скрыжаваўшы ногі згодна з прыемным усходнім звычаем, і ён быў вымушаны сядаць на высокія крэслы ды звешваць ногі ўніз. Ежа таксама прынесла яму нямала цяжкасцяў: усё, што ён хацеў данесці да рота, цяпер даводзілася спачатку праколваць жалезным відэльцам.

Доктар быў чалавекам лютым і суровым і ўвесь час хлопчыка мучыў. Калі той, напрыклад, забываўся і казаў наведніку «Салам алейкум», доктар біў хлопца палкай, бо казаць трэба было «Votre serviteur!» [1]. Яму таксама не дазвалялася думаць, размаўляць ці пісаць на сваёй мове, заставалася на ёй хіба што марыць. Магчыма, Альмансор зусім бы яе забыў, калі б у горадзе не жыў чалавек, які яму дапамог.

Гэты быў стары, але вельмі вучоны чалавек, які разумеў шмат усходніх моваў: арабскую, персідскую, копцкую, нават кітайскую — усяго патрошку. Ён лічыўся ў той краіне цудам вучонасці, і яму плацілі вялікія грошы, каб ён вучыў мовам іншых. Гэты чалавек некалькі разоў на тыдзень клікаў да сябе маладога Альмансора, частаваў рэдкай садавінай ды іншымі прысмакамі, і юнаку здавалася, што ён дома. Стары быў вельмі незвычайным. Ён замовіў для Альмансора вопратку, якую ў Егіпце носяць высакародныя людзі, і захоўваў яе ў сябе дома ў асобным пакоі. Калі Альмансор прыходзіў, стары пасылаў аднаго з прыслужнікаў па ўбранне і загадваў юнаку апранацца згодна з традыцыямі сваёй краіны. Пасля яны пераходзілі ў «маленькую Аравію», як называлася адна з залаў у доме вучонага.

Зала была ўпрыгожаная штучна выгадаванымі пальмамі, бамбукамі, маладымі кедрамі ды кветкамі, што сустракаюцца толькі на Усходзе. Персідскія дываны высцілалі падлогу, ля сценаў ляжалі падушкі, і нідзе не было ніводнага франкскага крэсла ці стала. На адной з падушак сядзеў стары вучоны, але выглядаў ён зусім не так, як звычайна: на галаве — турбан з тонкага турэцкага шаліка, сівая прычэпленая барада звісала да пояса і выглядала як годная натуральная барада паважнага чалавека. Апроч таго, на ім была мантыя, пашытая з парчовага хатняга халата, шырокія турэцкія шаравары, жоўтыя пантофлі, і, хаця звычайна ён падаваўся чалавекам міралюбным, у такія дні ён вешаў на сябе турэцкую шаблю, а за пояс засоўваў кінжал са штучнымі каштоўнымі камянямі. Яшчэ ён курыў люльку ў два локці даўжынёй, і яму прыслужвалі апранутыя ва ўсё персідскае людзі, твары і рукі ў паловы з якіх былі пафарбаваныя ў чорнае.

Спачатку ўсё гэта падавалася юнаму Альмансору вельмі дзіўным, але хутка ён заўважыў, што гадзіны, у якія даводзілася падладжвацца пад прыдумкі настаўніка, былі карыснымі для яго самога. Калі ў доктара нельга было вымавіць і аднаго егіпецкага слова, тут строга забаранялася мова франкская. Пры ўваходзе Альмансор мусіў павітацца, стары «перс» яму вельмі ўрачыста адказваў, потым падаваў знак сесці побач і пачынаў размову на сумесі персідскай, арабскай, копцкай і ўсіх астатніх моваў. Гэта называлася вучонай усходняй гутаркай. Побач з ім стаяў прыслужнік, ці «раб», як ён называўся ў такія дні, і трымаў вялікую кнігу. Кніга тая была слоўнікам, і калі старому не хапала слоў, ён ківаў рабу, імгненна знаходзіў у слоўніку тое, што трэба, і вяртаўся да размовы.

Рабы прыносілі ў турэцкім посудзе шарбет ды іншыя ласункі, і калі Альмансор хацеў зрабіць старому прыемнасць, дастаткова было сказаць, што ў таго ўсё ўладкавана як на Усходзе. Альмансор вельмі добра чытаў па-персідску, і для старога гэта было галоўнай насалодай. Ён меў шмат персідскіх рукапісаў, якія даваў чытаць юнаку, уважліва паўтараў за ім услед і такім чынам вучыўся правільнаму вымаўленню.

Для няшчаснага Альмансора гэта былі радасныя дні: стары настаўнік ніколі не адпускаў яго без падарунка, звычайна вельмі каштоўнага, і хлопец ішоў дадому з грашыма, ільняной тканінай ці іншымі неабходнымі рэчамі, якіх доктар не хацеў яму даваць.

Так хлопец пражыў у краіне франкаў некалькі гадоў, але ягоная туга па радзіме ніколі не сціхвалася. Калі яму споўнілася пятнаццаць, здарылася тое, што моцна паўплывала на ягоны лёс.

Сваім каралём і ўладаром франкі выбралі галоўнага вайскаводца, таго самага, што шмат разоў размаўляў з Альмансорам у Егіпце. Юнак пра гэта не ведаў, але па ўрачыстасцях, што шырока ладзіліся ў вялікім горадзе, здагадаўся, што адбываецца нешта важнае. Аднак ён і ўявіць не мог, што кароль — гэта той самы вайскаводца, якога ён бачыў у Егіпце, бо той быў яшчэ зусім малады. Аднойчы Альмансор ішоў па адным з мастоў цераз шырокую раку, што цякла праз горад, і заўважыў чалавека ў простай салдацкай вопратцы, які нахіліўся над парэнчамі іназіраў за хвалямі. Аблічча чалавека падалося яму знаёмым. Альмансор хутка прабегся па пакоях сваіх успамінаў, і як толькі ён адчыніў браму ў егіпецкую палату, раптам успомніў, што гэта той самы палкаводзец, з якім ён часта размаўляў у лагеры і які заўсёды добразычліва аб ім клапаціўся. Сапраўднага імя палкаводца ён не ведаў, а таму набраўся смеласці, падышоў да яго і назваў так, як таго называлі паміж сабой салдаты. Скрыжаваўшы рукі на грудзях згодна са звычаямі сваёй краіны, ён прамовіў:

— Салам алейкум, Petit Caporal! [2]

Вайскаводца здзіўлена зірнуў на юнака, падумаў і адказаў:

— Святыя нябёсы, ці магчыма гэта? Ты тут, Альмансор? Як пачуваецца твой бацька? Як справы ў Егіпце? Што прывяло цябе сюды?

Не вытрымаўшы, Альмансор горка заплакаў і прамовіў:

— Дык ты не ведаеш, што зрабілі са мной гэтыя сабакі, твае суайчыннікі, Petit Caporal? Ты не ведаеш, што я ўжо шмат гадоў не бачыў краіны сваіх продкаў?

— Не магу паверыць, — сказаў той, і ягоны твар спахмурнеў. — Не магу паверыць, што яны пацягнулі цябе з сабой.

— Ах, дзіва што, — адказаў Альмансор. — У той дзень, калі вашыя салдаты грузіліся на караблі, я бачыў Айчыну апошні раз.



Працяг на стар. 16 (10) »

# Гісторыя Альмансора

**« Працяг. Пачатак на стар. 15 (9)**

Яны забралі мяне з сабой, і капітан, якога расчуліла мая бяда, плоціць за мой пражытак ненавіснаму доктару, які б'е мяне і морыць голадам. Але слухай, Petit Caporal, — даверліва працягваў ён, — гэта добра, што я цябе сустрэў, бо ты можаш мне дапамагчы.

Чалавек, да якога ён звяртаўся, усміхнуўся і спытаў, як жа ён можа дапамагчы.

— Ведаеш, — сказаў Альмансор, — было б несумленна нешта ў цябе прасіць — раней ты ставіўся да мяне вельмі добразычліва, але я ведаю, што ты — чалавек бедны, бо нават калі ты быў вайскаводцам, то ніколі не апранаўся так прыгожа, як іншыя. Цяпер у цябе, калі меркаваць з мундзіра і капелюша, таксама не найлепшыя часы. Але нядаўна франкі выбралі сабе султана, і ты, без сумневаў, ведаеш наблізжаных да яго людзей, можа, якога янычара-агу, ці рэйс-эфендзі, ці капудан-пашу, праўда ж?

— Так, — адказаў яго суразмоўца. — І што далей?

— Ты мог бы закінуць у маю карысць слоўца, Petit Caporal, каб яны папрасілі султана франкаў мяне вызваліць. Тады мне спатрэбіцца толькі трошкі грошай на падарожжа праз мора. Але ты мусіш мне паабяцаць не казаць нічога ні доктару, ні арабскаму прафесару.

— А што за арабскі прафесар? — спытаў той.

— Ах, гэта незвычайны чалавек, пра яго я раскажу табе іншым разам. Калі яны нешта пачуюць, я з Франкістана не з'еду. Дык ты згодны закінуць у маю карысць слоўца агу? Скажы шчыра!

— Хадзем са мной, — сказаў чалавек, — магчыма, я змагу табе дапамагчы ўжо цяпер.

— Цяпер? — выгукнуў у страху юнак. — Нізашто, інакш доктар мяне паб'е! Трэба спяшацца дадому.

— Што ў тваім кошыку? — спытаў вайскаводца, затрымліваючы яго.

Альмансор пачырванеў і спачатку не хацеў паказваць, але ўрэшце сказаў:

— Бачыш, Petit Caporal, тут я павінен рабіць працу, якую робіць апошні раб майго бацькі. Доктар — сквапны чалавек, кожны дзень ён пасылае мяне на рынак па агародніну і рыбу, і я павінен купляць гэта ў брудных рынкавых жанчын, бо там на некалькі медзякоў танней, чым у нашай частцы горада. Зірні, я кожны дзень павінен ісці дзве гадзіны па гэты кепскі селядзец, па гэты вехаць салаты, па гэты кавалачак масла. Ах, ведаў бы пра гэта мой бацька!

Суразмоўцу бяда хлопчыка ўсхвалявала, і ён адказаў:

— Хадзем са мной — і суцешся! Доктар не зробіць табе шкоды, нават калі не з'есць селядца ды салаты! Супакойся і пайшлі!

Сказаўшы гэта, ён узяў Альмансора за руку і павёў за сабой. І столькі ў яго паводзінах было ўпэўненасці, што хлопец падпарадкаваўся, хаця ад думкі пра доктара ў яго калацілася сэрца. Так ён і ішоў з салдатам шматлікімі вуліцамі, трымаючы ў руцэ кошык, і дзівіўся, што ўсе людзі здымалі перад імі капелюшы, спыняліся і глядзелі ім услед. Ён расказаў пра сваё здзіўленне спадарожніку, аднак той засмяяўся і нічога не патлумачыў.

Нарэшце яны дайшлі да шыкоўнага палаца, да якога і скіраваўся вайскаводца.

— Ты жывеш тут, Petit Caporal? — спытаў Альмансор.

— Так, — адказаў той, — і я хачу правесці цябе да сваё жонкі.

— Ах, ты хораша жывеш! — зазначыў Альмансор. — Напэўна, султан даў табе тут бясплатныя пакоі?

— Маеш рацыю, гэтае жытло ў мяне ад імператара, — адказаў спадарожнік і павёў яго ў палац.

Яны падняліся па шырокай лесвіцы. У прыгожай зале военачальнік загадаў Альмансору пакінуць кошык, і яны ўвайшлі ў шыкоўны пакой, дзе сядзела на канапе жанчына. Чалавек загаварыў з ёй на нейкай замежнай мове, пасля чаго яны разам доўга смяяліся, і жанчына задала Альмансору шмат пытанняў пра Егіпет па-франкску. Нарэшце Petit Caporal сказаў юнаку:

— Ведаеш, што мы зробім? Я хачу зараз жа адвесці цябе да імператара і пагаварыць з ім пра цябе.

Альмансор вельмі спалохаўся, але падумаў пра свой гаротны стан і пра сваю радзіму.

— Няшчасным, — сказаў ён, — Алах дае вялікую мужнасць у гадзіну бяды, і ён не пакіне мяне, беднага хлопчыка. Так, я хачу пайсці да імператара. Але скажы, Caporal, ці павінен я ўпасці перад ім ніц? Ці павінен я крануцца ілбом зямлі? Што мне рабіць?

Абое зноў засмяяліся і запэўнілі, што гэтага рабіць не трэба.

— Ён жахлівы і велічны? — спытаў юнак. — У яго доўгая барада? Агністы позірк? Скажы, які ён выглядае.

Ягоны праваднік зноўку засмяяўся і адказаў:

— Лепш я ўвогуле не буду яго апісваць, Альмансор, каб ты сам яго пазнаў. Падкажу табе толькі адну прыкмету: калі ён з'явіцца ў імператарскай зале, усе паважліва здымуць капелюшы. Той, хто ў капелюшы застанецца, і ёсць імператар.

Пасля ён узяў хлопчыка за руку і рушыў з ім да імператарскай залы. Чым далей Альмансор ішоў, тым гучней калацілася яго сэрца, а калі яны наблізіліся да дзвярэй, у хлопца затрымцелі калені. Слуга адчыніў дзверы, за якімі стаялі паўколам каля трыццаці мужчынаў, усе багата апранутыя, з золатам і зоркамі — так у краіне франкаў звычайна апраналіся самыя знатныя агі і пашы пры каралях, і Альмансор падумаў, што яго несамавіта апрануты праваднік – мабыць, самы нязначны сярод іх. Усе агалілі галовы, і Альмансор пачаў шукаць таго, хто не зняў капелюша. Але дарэмна. Усе трымалі капелюшы ў руках, значыць, імператара сярод іх не было. Тады позірк юнака выпадкова ўпаў на правадніка — у таго капялюш быў на галаве!

Юнак быў вельмі ўражаны і збянтэжаны. Ён доўга ўзіраўся ў свайго суразмоўцу і, здымаючы капялюш, сказаў:

— Салам алейкум, Petit Caporal! Наколькі я ведаю, я не султан франкаў, а значыць, мне мецъ на галаве капялюш не належыць. Але ў капелюшы застаўся толькі ты, Petit Caporal. Дык няўжо ты імператар?!

— Ты адгадаў, — прамовіў той, — і, акрамя таго, я твой сябар. Сваё няшчасце прыпісвай не мне, а няўдаламу збегу абставінаў, і будзь упэўнены, што з першым жа караблём ты паплывеш на радзіму. Зараз жа вяртайся да маёй жонкі, раскажы ёй пра арабскага прафесара і пра ўсё, што ты ведаеш. Селядцы і салату я адпраўлю доктару, а ты да ад'езду застанешся ў маім палацы.

Так сказаў чалавек, які быў імператарам. Альмансор упаў перад ім ніц, пацалаваў ягоную руку і папрасіў прабачэння, што не пазнаў яго, бо той імператарам дакладна не выглядаў.

— Маеш рацыю, — адказаў той з усмешкай і даў знак ісці, — калі ты ўсяго некалькі дзён імператар, на ілбе гэта не напісана.

З таго дня Альмансор жыў радасна і шчасліва.

Ён яшчэ некалькі разоў наведаў арабскага прафесара, пра якога расказваў імператару, але доктара ўжо больш не бачыў. Праз некалькі тыдняў імператар паклікаў хлопца да сябе і паведаміў, што карабель, на якім ён хоча адправіць яго ў Егіпет, гатовы зняцца з якара. Альмансор быў агаломшаны ад радасці. Яму хапіла некалькі дзён, каб падрыхтавацца да падарожжа, і з сэрцам, поўным удзячнасці, багата нагружаны скарбамі і падарункамі, юнак выправіўся да мора і сеў на карабель.

Аднак Алах пажадаў працягнуць выпрабаванне, загартаваўшы ягоную мужнасць няшчасцем, і не дазволіў хлопцу ўбачыць родны бераг. Іншы франкскі народ — ангельцы — вёў у той час вайну на моры супраць імператара. Яны захоплівалі ўсе караблі, якія маглі перамагчы, і здарылася так, што на шосты дзень плавання карабель, на якім знаходзіўся Альмансор, быў акружаны і абстраляны ангельскімі суднамі. Давялося здацца, і каманду перасадзілі на маленькі карабель, што паплыў разам з іншымі далей. Але на моры гэтак жа неспакойна, як у пустэльні, дзе разбойнікі нападаюць на караваны, рабуюць і забіваюць. Туніскі капер напаў на маленькае судна, калі падчас шторму тое адстала ад вялікіх караблёў, захапіў яго і адправіў усю каманду на рынак рабоў у Алжыры.

Альмансор трапіў не ў такое жорсткае рабства, як хрысціяне, бо быў прававерным мусульманінам, але любая надзея пабачыць радзіму і бацьку цяпер знікла. Пяць гадоў ён пражыў у нейкага багацея, мусіў палівацъ кветкі і даглядаць сад. Калі багацей памёр, не пакінуўшы спадчыннікаў, ягоную маёмасць разрабавалі, слугаў падзялілі, і Альмансор трапіў у рукі гандляра рабамі. Гандляр акурат тады рыхтаваў карабель, каб у іншым месцы прадаць тавар даражэй. Лёс пажадаў, каб я сам быў рабом у гэтага гандляра і трапіў на той жа карабель, што і Альмансор. Там мы пазнаёміліся, і ён распавёў мне сваю дзівосную гісторыю. Аднак калі мы прычалілі, я стаў сведкам здзяйснення волі Алаха: мы высадзіліся на беразе ягонай Айчыны, і рынак, дзе нас публічна выставілі на продаж, быў рынкам у яго родным горадзе! О, гаспадару, скажу пра гэта каротка: яго набыў ягоны шаноўны бацька!

Шэйх Алі-Бану задумаўся над гісторыяй, якая яго міжволі захапіла: ягоныя грудзі ўздымаліся, вочы іскрыліся. Часам ён ледзь не перапыняў юнага нявольніка, але канец аповеду яго, падалося, не задаволіў.

— Цяпер яму, кажаш, быў бы дваццаць адзін год? — пачаў ён распытваць апавядальніка.

— Ён майго ўзросту, гаспадару, дваццаць адзін ці дваццаць два.

— І які горад ён назваў месцам свайго нараджэння? Ты пра гэта нічога не казаў.

— Калі я не памыляюся, — быў адказ, — гэта Александрыя.

— Александрыя! — выгукнуў шэйх. — Гэта мой сын! Дзе ён?! Ты хіба не казаў, што яго клічуць Кайрам? У яго карыя вочы і цёмныя валасы?

— Так і ёсць! У моманты шчырасці ён называў сябе не Альмансорам, а Кайрамам!

— Але скажы мне нарэшце дзеля Алаха… ягоны бацька купіў яго на тваіх вачах, так, як ты расказаў? Ён назваў пакупніка бацькам? Значыць, гэта ўсё ж не мой сын!

— Ён сказаў мне: «Няхай будзе благаслаўлёны Алах пасля такіх доўгіх няшчасцяў — гэта рынкавая плошча майго роднага горада». Праз пэўны час з-за рогу з'явіўся знатны чалавек, і тады Альмансор крыкнуў: «О, які каштоўны падарунак нябёсаў — вочы! Я яшчэ раз убачыў майго шаноўнага бацьку!» Чалавек той падышоў да нас, агледзеў усіх і ўрэшце купіў героя маёй гісторыі. Тады той звярнуўся да Алаха з малітвай падзякі і прашаптаў мне: «Цяпер я вяртаюся ў палаты шчасця, бо мяне купіў мой уласны бацька».

— Значыць, гэта не мой сын, не мой Кайрам! — з болем прамовіў шэйх.

Тут юнак не вытрымаў — з ягоных вачэй паліліся слёзы радасці, ён упаў ніц перад шэйхам і выгукнуў:

— І ўсё ж гэта ваш сын, Кайрам, Альмансор, бо яго купілі менавіта вы!

— Алах, Алах! Цуд, які вялікі цуд! — крычалі прысутныя і праціскаліся бліжэй.

Шэйх жа знямела глядзеў на юнака, які падняў да яго прыгожы твар.

— Мой сябар Мустафа! — звярнуўся шэйх да старога дэрвіша. — Мае вочы захінулі слёзы, і я не бачу, ці захаваліся на гэтым твары рысы маці, да якое падобны мой Кайрам. Падыдзі бліжэй і паглядзі на яго!

Стары падышоў, доўга глядзеў на юнака, потым паклаў руку яму на лоб і сказаў:

— Кайрам! Як гучала выслоўе, якое ты атрымаў ад мяне і забраў з сабой у лагер франкаў у той нешчаслівы дзень?

— Мой дарагі настаўнік! — адказаў юнак, кранаючыся вуснамі рукі старога. — Яно гучала так: «Хто любіць Алаха і мае чыстае сумленне, той і ў пустэльні няшчасця не самотны, бо мае двух спадарожнікаў, якія яго суцешаць і падтрымаюць».

Стары ўздзячна падняў вочы да неба, прыцісную юнака да грудзей, перадаў яго шэйху і сказаў:

— Вазьмі яго! Як дакладна вядома, што ты дзесяць гадоў па ім смуткаваў, так дакладна і тое, што гэта твой сын Кайрам.

Ад радасці і шчасця шэйх быў агаломшаны. Ён беспераппынна ўзіраўся ў юнака, у якім, без сумневаў, пазнаваў вобраз страчанага сына. Усе прысутныя падзялялі ягоную радасць, бо любілі шэйха, і кожны пачуваўся так, нібыта сёння яму самому быў падораны сын.

Спевы і вясёласць напоўнілі залу, як у дні радасці і шчасця. Юнак мусіў яшчэ раз, больш падрабязна, расказаць сваю гісторыю, і ўсе ўзнеслі хвалу арабскаму прафесару і імператару, як і ўсім астатнім, хто клапаціўся пра Кайрама. Госці пачалі разыходзіцца толькі ноччу, і кожнага шэйх шчодра адарыў на памяць пра гэты радасны дзень.

Шэйх даў свайму сыну чатырох маладых людзей і запрасіў іх часта яго наведваць. Было вырашана, што з пісарам юнак будзе чытаць, з мастаком — выбірацца ў невялікія падарожжы, з купцом — спяваць і танчыць, а чацвёрты будзе ладзіць пры двары забавы. Іх таксама шчодра адарылі, і яны, шчаслівыя, пакінулі дом шэйха.

— Каму мы павінныя за ўсё гэта дзякаваць? — гаварылі яны між сабой. — Каму яшчэ, як не старому? Хто мог такое ўявіць, калі мы стаялі перад гэтым домам і гаварылі пра шэйха?

— А мы ж маглі не прыслухацца да павучанняў старога, — сказаў другі, — ці наогул пасмяяцца з яго. На ім была ірваная бедная вопратка — хто б мог падумаць, што гэта мудры Мустафа?

— Дык цудоўна! Хіба не тут мы гучна абмяркоўвалі свае жаданні? — прамовіў пісар. — Адзін з нас хацеў вандраваць, другі — спяваць і танчыць, трэці — бавіць час у добрай кампаніі, а я — чытаць і слухаць гісторыі. Хіба не ўсе нашыя мары здзейсніліся? Я магу чытаць усе кнігі шэйха і набываць любыя, якія захачу.

— А мне дазволена ўпрыгожваць ягоны стол, ладзіць ягоныя найлепшыя забавы і самому ў іх удзельнічаць, — сказаў другі.

— А я ў любы момант, як з'явіцца ў мяне такое жаданне, магу слухаць спевы ды ігру на струнных альбо пагледзець на танец, пайсці да шэйха і папрасіць у яго рабоў.

— А я? — мовіў мастак. — Да гэтага дня я быў бедны і не мог нават выйсці з горада, а цяпер змагу падарожнічаць — куды захачу.

— Так, — прамовілі яны разам, — добра, што мы паслухалі старога, а інакш хто ведае, што з намі сталася б!

І, сказаўшы так, яны, шчаслівыя, пайшлі дадому.

**З нямецкай мовы пераклаў**
**Ігар Крэбс**

[1] Votre serviteur — Да вашых паслугаў (франц.).
[2] Petit Caporal — Маленькі Капрал (франц.). Мянушка Напалеона І.

# У кожнай жанчыне — свая варона

Валеры ГАПЕЕЎ

**Наўрад ці мае думкі можна лічыць водгукам ці, крый Божа, рэцэнзіяй на прачытаны твор. Хутчэй гэта будзе спроба папярэдзіць будучых чытачоў-мужчын. Бо адну «рэцэнзію» на кнігу Людмілы Шчэрба «Урб@н.М» давялося пачытаць у сеціве. Яе кароткі змест: «Бабы пісаць не ўмеюць». І хоць «бабы» там не было, але ж яна прачытвалася без цяжкасцяў...**




Такое са мной ужо было: калі пасля прачытання некалькіх першых старонак узнікала дзіўнае спалучэнне пачуццяў: прыкрасці, раздражнення, нават злосці і адначасова — захаплення, цікавасці, жадання зразумець. Першы раз — калі разгарнуў раман Алены Брава «Менада і яе сатыры». Прафесійная, вышэйшага ўзроўню мова твора — адсюль павага і захапленне. Раздражненне і злосць — ад існуючага ўнутры цябе мужчынскага лагічнага лякала, якое рабілася абсалютна непатрэбным, замінала ўспрыманню, а таму мусіў адпрэчваць яго, а разам з ім — сваё, мужчынскае светаўспрыманне свету. «Мілыя жанчынкі, а проста (ну, значыць — класічна!) напісаць вы не спрабавалі?» — крычала ўва мне гэтае мужчынскае.

Яшчэ толькі разгарнуў кнігу Людмілы Шчэрба, не, нават яшчэ толькі пабачыў вокладку, а ўжо закешкалася, падвываючы, тое самае пачуццё прыкрасці... Пачытаў колькі старонак.

Зноў той самы прафесіяналізм пісьма, густоўная мова, вобразнасць і метафарычнасць, глыбіня сэнсу і гульня ў сэнсы. Карацей, у наяўнасці ўсё, што магло б зрабіць для мяне, мужчыны, час чытання заняткам прыемным і камфортным, парадавацца з'яўленню на беларускім літаратурным полі новага яскравага гульца.

І зноў жаданне на першых старонках шпурнуць кнігу далёка-далёка. Бо на гэты раз поўны разрыў шаблону. Пачынаючы з назвы, якая магла б быць эпатажнай і правакаваць цікавасць, каб не ўсё далейшае ў «знешнасці» кнігі.

Вось мы, мужчыны, апранаючыся, зазвычай клапоцімся пра дапасаванасць на сабе хіба што гальштука і кашулі. А як гальштука няма, дык і праблемы ўвогуле знікаюць у пытанні: «Што апрануць?» Ды проста чыстае! Для жанчыны апрананне — гэта комплекс неабходных мер у стварэнні вобразу. Дзе ніводная дэталь не мае права быць выпадковай.

Такім чынам, раблю вывад: нормы кнігадрукавання прыдумалі мужчыны. Тыя самыя нормы, дзе цела тэксту — два шрыфты.

Вонкавасць кнігі павінна адпавядаць яе зместу — так вырашыла аўтар «Урб@н.М», мабыць, яшчэ і папярэджваючы чытачоў-мужчын аб няпростасці свайго тэксту.

І таму... маем абсалютна не класічную форму. Фарматаванне асноўнага тэксту з выключкай леваруч, без абзацных водступаў, без пераносаў. Больш за шэсць (!) розных ужытых шрыфтоў. У кніжніка-перфекцыяніста гэтая кніга здольная выклікаць суіцыдальныя думкі.

Карацей, кніга Людмілы Шчэрба — кніга нонканфармістка. Болей за тое — нонканфармістка-жанчыны.

...Чытаць гэты раман — прыблізна тое ж самае, што спрабаваць разабрацца ў паводзінах і жаданнях дагэтуль закаханай у цябе жанчыны, калі ты сам жанаты, яна замужняя, у вас дзеці, кар'ера і малако з кефірам у тваім пластыкавым пакеце, тварог і яблык — у яе сумачцы, і ваша маладосць (у якой вы маладзенькімі і дурнымі закаханымі дайшлі да сарамлівага інтыму, але так і не ўвайшлі ў яго) даўно спрахла. Мужчына з вопытам сямейных гадоў вынясе свой вердыкт у такой сітуацыі: «Бессэнсоўна і марна».

Пачынаў чытаць раман Людмілы Шчэрба гэтак жа, як і любую іншую кнігу: з адсочваннем сюжэта, храналогіі дзей, спробамі ўявіць сітуацыю і звязаць (як без гэтага?) тэкст з яго загалоўкам, эпіграфам, адшукаць таемныя (але ж існуючыя!) сувязі тэкста з наяўнымі «артаб'ектамі»... І пакрысе вар'яцеў ад сваёй няздольнасці гэта зрабіць. Рэчаіснасць у рамане вывальвалася жменямі пазлаў, спроба скласці з іх цэльны малюнак зводзілася на нішто чарговай порцыяй рознакаляровых штуковінкаў ад аўтаркі. Узнікла думка пра паралельныя з чытаннем запісы на асобным аркушы з выбудоўваннем храналагічнай і сюжэтнай ліній падалася мне зусім не вар'яцкай. Хіба што лянота перашкодзіла перамяшчэнню з мяккай канапы за стол...

А потым я вырашыў «забіць» на ўсё. Проста чытаць. Успрымаць тэкст, не задумваючыся над пазначаным часам, не вышукваючы сувязі, не аналізуючы логіку пабудовы.

І тады тэкст імкліва зацягнуў. Бы ў прорву.

У той прорве нечакана мне адкрыўся новы сусвет. Сусвет жанчыны.

Мабыць, трэба б было напісаць тут пра жаночую душу, якую па-мастацку і прафесійна аўтар паказвае сваім чытачам, але «душу» заездзілі так, што яе ўпамінанне ў кантэксце гэтай кнігі будзе амаль што пошлым. Няма там душы. Там — жанчына. Яе думкі. Пачуцці. Там яе раскрытая, расшыфраваная для нас, мужчын, у першую чаргу, свядомасць.

Недзе на сярэдзіне кнігі пачынаеш разумець галоўную ісціну: кнігу нельга было напісаць інакш. Калі пісаць пра тое, як ДУМАЕ жанчына, нельга інакш.

Пра «жаночую логіку» складзена нямала анекдотаў. Аб тым, што мужчына і жанчына думаюць па-рознаму, існуе цвёрдае перакананне. Але для мужчын заўсёды было таямніцай: як жа думае жанчына? Чаму іншым разам нельга нічым з мужчынскага арсеналу прычын патлумачыць тое ці іншае сказанае слова ці зроблены «выбрык»?..

Нядаўна ў сеціве пасціці такі малюнак: «Жанчына перад сном». І там — віхур думак пра рэчы, якія ну аніякім чынам між сабой не звязаныя. Дык вось, тое — не жарт.

Гэта мужчына, задумваючыся над нечым на дадзены момант важным, адгароджваецца ад іншага простым: «Астатняе — потым». Жанчына ж трымае ў сваёй свядомасці адначасова ўвесь сусвет, які існуе вакол яе. У любым выпадку трымае. Больш за тое, гэты існуючы сусвет дынамічны, у ім адбываюцца змены, і — тут увага для мужчын — ніводная дэталь не можа быць выпадковай, нязначнай, незаўважанай.

Гэты сусвет падаецца немагчымым для ўспрымання мозгам «мужчынскага тыпу». Мы шукаем прычынныя сувязі, вышукваем логіку падзей, мацаем падмуркі. А тут сусвет стаіць, жыве і развіваецца без усяго гэтага. Дзясяткі і сотні з'яў, учынкаў, акалічнасцяў, абставінаў існуюць у свеце жанчыны-гераіні без усялякага ўнутранага цэментавання, але арганічна ўплятаюцца ў яе пачуцці і адчуванні, цалкам гарманіруюць ці дысануюць з яе ўнутраным станам. Немагчыма пабачыць пры чытанні той пераход, за якім — змена настрою ці рашэння, дзе закончыцца шчасце, дзе раптоўна абрывецца страшэнная праўда пра адно з самых вялікіх няшчасцяў гераіні...

Асобнае месца ў рамане — маркеры. Іх роля не да рэшты зразумелая, але яны, бачыцца, маюць сваю ролю ў жаночым сусвеце. У нашым выпадку гэтыя маркеры тычацца знешнасці герояў, але не іх прыродных дадзеных, а маркі цыгарэт, адзення, гатунку напояў. І тут наўрад ці трэба ўпікаць аўтара ў прыхільнасці да «залатой моладзі», хутчэй гэта наша рэальнасць, дзе дастаткова шырокая магчымасць мець патрэбнае ў пэўнай меры вызначае густы, схільнасці, характары...

Раман Людмілы Шчэрба выключны для беларускай літаратуры яшчэ і тым, што аўтар выкрэсліла з жыцця герояў усё, што магла выкрасліць, апроч іх асабістага свету. Ажно да такой ступені, што ў кватэры галоўнага героя адсутнічае такая суперзвыклая і суперняабходная рэч, як лядоўня. Газавай ці электрычнай пліты там гэтаксама няма, але з тым яшчэ можна змірыцца (у Германіі, напрыклад, у многіх ужо адзінае «гарачае» месца — мікрахвалёўка). Адначасова гэта павінна падкрэсліць дзіявацтва галоўнага героя, а з другога боку ёсць мінімізацыяй побытавага асяроддзя. У дадатак, вядома, адсутнічае цалкам «вытворчы працэс», то бок — праца (адна рэальная згадка — выпадковая калега), сямейныя траблы. Такім чынам, уся жыццёвая прастора — толькі дзеля ўнутранага стану герояў, іх пошукаў адно аднаго і сябе. Пачуццё — і больш нічога. Мужчына — і больш нічога.

Так бывае? Вы не пытайцеся, вы пачытайце. Так не бывае — так ёсць.

Для жанчыны перастае існаваць усё, апроч яе самой, яе пачуцця, яе мужчыны — да той пары, пакуль у яе застаюцца пытанні: што з гэтым пачуццём, з гэтым мужчынам зрабіць цяпер і што рабіць пасля, як зробіцца. І гэта не я сказаў — так мне распавяла жанчына.

Дарэчы, два словы пра мужчыну. Зноў жа, жанчына бачыць яго, ён існуе для яе ў гэты час закаханасці толькі як мужчына. Хоць ён нейкі там бізнесовец, нечы сын, брат-сват, сябар, калега, але пра тое адным радком ці слоўцам. І вось у чым мушу прызнацца: мне вельмі не спадабаўся гэты вобраз. Мужчына вачыма жанчыны — нічога прывабнага для самога мужчыны, далібог. Цынічны, хамаваты, недзе блюзнер, недзе — мяккацелы, нават мімішны (там нешта пра коцікаў). І зноў жа — цалкам адсутнічае тое, што мы сустракаем у класічных кнігах: абагульненне. Жанчына нават не спрабуе задумацца над тым ці іншай рысай характару. Яе могуць усхваляваць словы, закрануць позірк ці жэст, пакрыўдзіць учынак, але яна не імкнецца сабраць усё разам і адказаць сабе на пытанне: што ён за чалавек увогуле. Герой існуе для гераіні гэтак жа, як і сусвет вакол: літаральна раздроблены на кавалкі фразаў, учынкаў і дзей, звычак і жаданняў, дзе кожны аскалёпак трымаецца ў памяці, не знікае, грае сваю ролю, але не бяжыць кропелькай ртуці да іншых кропелек, каб зліцца з імі.

Мазаічнае ўспрыманне сусвету без памкненняў хоць неяк скласці карцінку — то жаночае.

Яшчэ адна асаблівасць рамана — раман у рамане. Пры гэтым (каб не ствараць тут замест водгуку спойлер) скажу адно: розніца між раманамі заўважаецца хіба што ў тым, што ў адным гераіня мае імя, а ў другім аповед вядзецца ад першай асобы. Зноў жа гэтая заблытанасць здольная выклікаць раздражненне і няўцямнасць, але асабіста я бачу тут асаблівую задуму аўтаркі: як яшчэ можна паказаць разам з дзеючым вулканам думак і пачуццяў тое, што ў любы момант свайго жыцця жанчына заўсёды не адна, а носіць яшчэ сябе-тую-якой-хочацца-быць? Такім чынам, дзве гераіні ў адной кнізе — гэта дзве іпастасі аднаго цела, якія не супадаюць і не супадуць, таму што ім ад пачатку наканавана жыць паасобку.

Зрэшты, іх не дзве. Іх — тры.

Трэцяя — варона.

Яна сядзіць недзе заўсёды над галавой, бачыць, чуе, аналізуе і можа каркнуць. Іншым разам — уголас, ротам жанчыны-1 ці -2. Але часцей абедзьве замотваюць вароне дзюбу скотчам, і тая каркае толькі ў іх галовах.

Яе карканне — тое, што мы, мужчыны, называем здаровым розумам, лагічным вывадам ці нават трошкі пафасна — праўдай жыцця.

Скажу па сакрэце: гэта адзіны ў кнізе персанаж, які я зразумеў ад пачатку і да рэшты, і таму ён мне сімпатычны. Ён бачыць здзек і хоча зрэагаваць на яго. Ён бачыць фальш і раскрывае дзюбу. Карацей, варона — наш чалавек. Але варта помніць, што, акрамя праўды, тут бескампраміснасць і жорсткасць. І чым больш я думаю пра яе, тым больш перакананы, што варона — пачатак той жанчыны, якаяператварылася ў адмыслова настроены бязлітасны механізм дасягнення пэўных мэтаў. Лагічны механізм, звернем увагу, з нашым, мужчынскім пачаткам, які і абуджаны да дзеяння намі ж, мужчынамі.

...Мне не хочацца тут абмяркоўваць гіпатэтычную магчымасць кахання з першага позірку, паводзіны і ўчынкі герояў. Гэты раман — зусім не банальная гісторыя жанчыны, якая, апантаная сваім пачуццём, прагне самца ў ложак і здаровага аргазму. І хоць у аснове кнігі менавіта каханне і сэкс (пасцельныя сцэны выпісаны вельмі яскрава і досыць натуралістычна), гэта аснова нават не фундамент, а форма для ўтрымання ідэі.

У чым ідэя?

Ідэя — сусвет жанчыны.

Сусвет, у якім нашае лагічнае, мужчынскае (тут мы, мужчыны, маем на ўвазе — разумнае) прысутнічае адно ў вобразе вароны. Яна, трэба разумець, ёсць ва ўсіх жанчын. Іншая рэч — як часта яна ажывае, як яе жанчыны слухаюць. І яшчэ вельмі няпростае для нас, мужчын, пытанне: ці трэба нам карміць тую варону?..

Шчыра дзякую за кнігу. Гэта без жартаў. Здаецца, я хоць крышачку наблізіўся да таго, каб разумець жанчын. Ці хоць адну жанчыну.

Для мяне асабіста гэты раман стаў выключнай кнігай, якой дагэтуль не было ў беларускай літаратуры. І гэта не «жаночая проза». Гэта проза пра жанчыну.



## Храм з кніг у Нямеччыне

**У нямецкім горадзе Касэлі праходзіць міжнародная выстава сучаснага мастацтва — «Documenta». Быў збудаваны старажытнагрэцкі храм Парфенон — з каля 100 тысячаў цэнзураваных кніг.**

Аўтар арт-аб'екта — аргентынка Марта Мінухін. «Цаглінамі» храма сталі кнігі, забароненыя цэнзурай розных краін у розныя часы, у тым ліку «Доктар Жывага» Барыса Пастэрнака, «Дон Кіхот» Мігеля дэ Сервантэса, «На Заходнім фронце без пераменаў» Эрыха Марыі Рэмарка, «Ператварэнне» Франца Кафкі. Іх дасылалі выдавецтвы і пісьменнікі з усяго свету.

Храм знаходзіцца на месцы, дзе ў 1933 годзе нацысты спальвалі кнігі.

**Паводле zaxid.net.**

# «Жывое чытанне» Оруэла

**У Лондане адбыліся публічныя чытанні рамана «1984» Джорджа Оруэла, у якіх прынялі ўдзел больш за 50 культурных дзеячаў Вялікабрытаніі.**




Прамую трансляцыю вялі не толькі на сайце фонду Оруэла, але і ў многіх бібліятэках і тэатрах Лондана і ўсёй краіны. Чытанні доўжыліся з 9-ці раніцы да 10-ці гадзін вечара. Месцам правядзення акцыі невыпадкова быў абраны будынак «Сенат-хаўс» — першы хмарачос Лондана, які натхніў аўтара і стаў прататыпам для Міністэрства Праўды з кнігі Оруэла.

Акцёры, пісьменнікі, палітыкі, журналісты, навукоўцы і прадстаўнікі грамадскасці чыталі кнігу без перапынку на працягу цэлага дня, за два дні да ўсеагульных выбараў у Вялікабрытаніі і 68-й гадавіны публікацыі «1984» у чэрвені 1949 года. Само па сабе жывое чытанне прапаноўвалася як акт «падрыўной дзейнасці». Выкарыстоўваючы праекцыі і акцёраў з UCL, гледачы маглі нацешыцца інтрыгай і адчуць жахі кашмарнага таталітарнага грамадства «1984».

У спісе чытальнікаў рамана былі Рычард Блэр (сын Оруэла), дэпутат Алан Джонсан, пісьменнік Амінат Форэн, журналіст Пітэр Хітчэнс, турэцкі пісьменнік Эс Тэмелкеран, спявачка і музыкант Білі Брэг, баранэса Пацiенс Ўіткрофт, гісторык Дэвід Олусога, пісьменнік, журналіст і актывіст Джэк Манро, прафесар Каралеўскага каледжа Джон Б'ю, Лорд Кен Макдональд, аглядальнік «Financial Times» Гідэон Рахман, былы міністр унутраных спраў Алан Джонсан, пісьменнік Нікс Джэрард, рэдактар «BBC Radio» Х'ю Левінсона, рэдактар часопіса «Nature» Хелен Пірсан, канадская актрыса і рэжысёр Саманта Мішэль, белетрыст і гісторык Рут Дадлі Эдвардс, амерыкана-брытанскі драматург, празаік, крытык і тэлевядучы Боні Грыр і шмат-шмат іншых.

Нагадаем, што ў студзені гэтага года раман «1984» стаў бэстсэлерам у ЗША. Гэта здарылася пасля таго, як дарадца Дональда Трампа Келіэн Конуэй прамовіла Оруэлаўскія словы «альтэрнатыўныя факты». У прамым эфіры «NBC News» вядучы спытаў у дарадцы Трампа, чаму ў першы дзень працы прэс-сакратар прэзідэнта падаў ілжывыя дадзеныя, а Конуэй патлумачыла, што Спайсер не хлусіў, а прыводзіў "альтэрнатыўныя факты» . Вядучы адзначыў, што "альтэрнатыўныя факты» — гэта хлусня, у адказ на гэта Конуэй пачала пералічваць памылкі адміністрацыі Абамы, а потым заявіла, што ніякіх спосабаў усталяваць дакладную колькасць людзей, якія прыйшлі на інаўгурацыю, не існуе.

Пасля заявы Конуэй слоўнік «Merriam Webster» апублікаваў твіт з яе згадваннем і вызначэннем слова «факт», а раман Джорджа Оруэла «1984» падняўся адразу на шосты радок у рэйтынгу бэстсэлераў «Amazon».

# «Ясенін-цэнтр»

**У Маскве з'явіцца новая культурная пляцоўка — «Ясенін-цэнтр». Паэтычны цэнтр будзе адкрыты ў будынку па завулку Чарнышэўскага, які належыць Маскоўскаму дзяржаўнаму музею імя Сяргея Ясеніна, 3 кастрычніка — да дня нараджэння паэта.**

На дадзены момант канцэпцыю цэнтра дапрацоўваюць. А пакуль мастацкі кіраўнік праекта Улад Маленка распавёў аб планах: «Мы хочам даць людзям разуменне развіцця паэзіі ў нашай краіне: залаты век, сярэбраны век, ваенная літаратура,«адліга» і сучасная паэзія. Хочам даць разуменне, што паэты ўсе адзін з адным звязаныя, і яны адчуваюць час. Мы хочам, каб з'явілася галоўная паэтычная кропка краіны, каб гэта было зонай, куды людзі змогуць прыходзіць, мець зносіны, знаёміцца з паэтамі, дзе будуць праходзіць выставы, перформансы, спектаклі, паэтычныя акцыі».

А яшчэ падчас паэтычнай акцыі па сталіцы Расіі будзе ездзіць жоўты «паэтамабіль». «Дадзім у рукі сучасным паэтам гучнагаварыцелі, за руль пасадзім каго-небудзь цвярозага і паедзем з вершамі па Маскве», — адзначыў У. Маленка.Таксама плануецца, што восенню «Ясенін-цэнтр» запросіць аматараў паэзіі на спектакль «Плошча рэвалюцыі», які будзе пастаўлены заснаваным Маскоўскім тэатрам паэтаў. Маладыя творцы адновяць падзеі стогадовай даўніны праз праекцыю свайго ўспрымання.

**Паводле ТАСС**



Л.Н. Талстой расказвае ўнукам казку. 1909 год

# Тэатральны фестываль у Яснай Паляне

**У чэрвені ў сядзібе Ясная Паляна на чатырох сцэнах пад адкрытым небам адбыўся тэатральны фестываль «Талстой Weekend».**

На ім былі паказаны інтэрпрэтацыі твораў класіка, а таксама пастаноўкі па тэкстах іншых аўтараў, сугучных творчасці пісьменніка. Усяго ў межах фестывалю прайшло каля 20 мерапрыемстваў: спектакляў і публічных дыскусій.

Сярод самых цікавых падзей фестывалю «Талстой Weekend» можна назваць адмысловую версію оперы «Вайна і мір» Маскоўскага акадэмічнага музычнага тэатра імя К. Станіслаўскага і У. Неміровіча-Данчанкі. Спектакль «Вайна і мір», створаны Феліксам Корабавым, Аляксандрам Цiцелем і Уладзімірам Арэф'евым, лічыцца адным з самых яркіх у рэпертуары тэатра.

Сярод іншых мерапрыемстваў запомніўся і спектакль-падарожжа «Зялёная палачка» Творчага аб'яднання «GRUPPO BASTON VERDE» (Масква).

«Зялёная палачка» — спектакль, сцэнай для якога стаў ужо ўвесь двор Яснай Паляны, дэкарацыямі — яе пейзажы, а сярод акцёраў былі і самі гледачы. Аснову пастаноўкі склалі дзіцячыя ўспаміны Льва Талстога і аповед яго старэйшага брата Міколенькі пра згубленую сакрэт усеагульнага шчасця, напісаны на зялёнай палачцы...

**Паводле lenta.ru**

# Канфіскацыя расійскіх кніг ва Украіне

**На тэрыторыі Украіны ўступіў у сілу парадак канфіскацыі кніг, выпушчаных у Расіі і ўвезеных у рэспубліку без дазволу. Пра гэта паведаміў партал «Українські Новини».**

Дзеянне механізму тычыцца індывідуальных прадпрымальнікаў і арганізацый, якія прывозяць і распаўсюджваюць выраблену ў Расіі кнігапрадукцыю. Парушальнікам пагражаюць адміністрацыйна-гаспадарчыя штрафы. Адзначаецца, што забарона не распаўсюджваецца на кнігі, якія грамадзяне правозяць у ручной паклажы або багажы, аднак іх колькасць не павінна перавышаць дзесяць асобнікаў.

Канфіскацыяй кніг зоймецца Дзяржкамітэт па пытаннях тэлебачання і радыёвяшчання (Дзяржкамтэлерадыё) Украіны. Пасля гэтага выданні будуць захоўвацца ў ведамстве.

У лютым паведамлялася, што выдавецтвы краіны раскрытыкавалі ініцыятыву Кіева. Як заявіў кіраўнік Украінскай асацыяцыі выдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў Аляксандр Афонін, забарона прывядзе да дэфіцыту прадукцыі ды ўзнікнення нелегальных каналаў яе рэалізацыі.

У снежні 2016 года Вярхоўная Рада Украіны прагаласавала за рашэнне аб абмежаванні ўвозу з Расіі ў краіну друкаванай прадукцыі «антыўкраінскага зместу».

# Расійскі «Нацбэст-2017»

**На Новай сцэне Александрыйскага тэатра ў Санкт-Пецярбургу прайшла цырымонія фіналу расійскай літаратурнай прэміі «Нацыянальны бэстсэлер-2017» (хоць, заўважым, літаратурны 2017-ы год — не закончыўся...).**

Прамую трансляцыю мерапрыемства вялі на YouTube-канале «НацБэста» Арцёмій Троіцкі і Паліна Талстун. Падчас цырымоніі малое журы прэміі прамым і адкрытым галасаваннем абрала пераможцу з шорт-ліста.

Пераможцай гэтага сезону стала Ганна Казлова і яе раман «F20». Таксама ў кароткі спіс увайшлі кнігі «Жыцця забітых мастакоў»Аляксандра Брэнера, «Апалонікі і святыя» Андрэя Філімонава, «Патрыёт» Андрэя Рубанава, «Радзіма» Алены Даўгапят і «Цень Мазепы» Сяргея Белякова.

У гэтым годзе малое журы прэміі склалі леташні пераможца Леанід Юзэфовіч, кампазітар Настасся Хрушчова, актрыса Ганна Кавальчук, рэжысёр Барыс Хлебнікаў, архітэктар Сяргей Чабан і рэпер Баста. Ганаровым старшынёй журы стаў генеральны дырэктар Першага канала Канстанцін Эрнст.

Расійскую прэмію «Нацыянальны бэстсэлер» заснавалі ў 2001 годзе выдавец Канстанцін Тублін і крытык Віктар Тапароў.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

Алег НОВІКАЎ

# На шляху да Назарабаеў-Сіці

**Казахскі афіцыёз прыдумляе самыя неверагодныя тэорыі, каб апраўдаць перайменаванне сталічнага аэрапорта ў гонар цяперашняга кіраўніка дзяржавы. Але на новай назве аэравакзалу праслаўленне Назарбаева ў тапаніміцы наўрад ці закончыцца.**










«Вітаем вас у аэрапорце імя Нурсултана Назарбаева!» — такім паведамленнем цяпер сустракаюць усіх пасажыраў, якія прылятаюць у Астану. Мясцовы аэрапорт рашэннем урада займеў адпаведную назву. З улікам таго, што ў Казахстане няма дэфіцыту ў аб'ектах, якія носяць імя кіраўніка дзяржавы, інфармацыя пра аэрапорт імя Назарбаева, падавалася б, не заслугоўвае вялікай увагі.

Між тым, існуюць як мінімум два моманты, якія выклікаюць, як модна зараз казаць, кагнітыўны дысананс. Па-першае, сам Елбасы раней рашуча выступаў супраць ідэі «аэрапорта імя Назарбаева». Яшчэ ў 2008-м, калі новую назву прапанаваў адзін з сенатараў, казахскі лідар палічыў гэта перагінам. «Я заўсёды быў супраць усялякіх такіх перайменаванняў, і тым больш, калі называюць маю персону. Я яшчэ нікуды не збіраюся сыходзіць, я збіраюся працаваць так доўга, наколькі народ мне будзе давяраць і наколькі будуць дазваляць мае магчымасці і здароўе», — сказаў тады кіраўнік дзяржавы.

Па-другое, новую назву аэрапорт у Астане атрымаў падчас правядзення ў Казахстане сусветнай выставы ЭКСПА, што адчынілася 10 чэрвеня, — мерапрыемства, якое так ці інакш вымушаныя маніторыць сусветныя медыя. Наўрад ці Назарбаеву трэба, каб нехта падазраваў яго ў культе асобы.

Нармальнага адказу на пытанне, што за муха ўкусіла Назарбаева (без яго подпісу змена назвы аэрапорта была б немагчымай), няма. Таму даводзіцца задавальвацца экстравагантнымі версіямі ад атачэння Назарбаева і СМІ.

Перш за ўсё, у афіцыйных медыя зноў узгадалі, што ў свеце мноства прыкладаў, калі аэрапорты носяць імёны кіраўнікоў краіны. Напрыклад, аэрапорты імя Індзіры Гандзі, Джорджа Буша, Вацлава Гавела, Шарля дэ Голя. Не так даўно (а дакладней, 4 мая 2017 года) Міжнародны аэрапорт Ташкента атрымаў імя першага прэзідэнта краіны Іслама Карымава. Праблема, аднак, у тым, што ўсе згаданыя асобы на той момант, як сталі «чалавекам-аэрапортам», былі нябожчыкамі. Назарбаеў жа паміраць, падаецца, не збіраецца.

**Самае цікавае, што некаторыя чыноўнікі з лагеру Назарбаева рашуча пратэстуюць супраць новай назвай сталічнага аэрапорта, паколькі, на іх думку, Нурсултан Назарбаеў, маўляў, варты большага. Як тут ні прыгадаць, што ў Казахстане агучваецца ідэя перайменавання Астаны ў гонар кіраўніка краіны**

Не пасуе і тэзіс пра тое, што аэрапорты абавязкова павінны насіць імя вялікіх палітыкаў. Напрыклад, нямецкая грамадскасць вельмі крытычна рэагуе на прапанову назваць Франкфурцкі аэрапорт у гонар экс-канцлера Гельмута Коля. Хаця гістарычны маштаб яго фігуры непараўнальна большы за Елбасы.

Гэта не ўсе аргументы на карысць перайменавання паветранага порту. Прапануюцца іншыя, якія таксама часта пераходзяць мяжу здаровага сэнсу. Гучыць тэма, што перайменаванне будзе спрыяць высокай якасці функцыянавання аб'екта, паколькі курыраваць яго будзе вымушаны сам гарант. Вось што піша адзін з дэпутатаў: «Нурсултан Назарбаеў, як вы памятаеце, пагадзіўся надаць навучальнай установе сваё імя, тым самым узяўшы на сябе поўную адказнасць за гэты аб'ект. І тут жа новы, ці, хутчэй, мадэрнізаваны аэрапорт Астаны таксама называюць імем Нурсултана Назарбаева, і гэта правільна».

Іншы чыноўнік тлумачыць неабходнасць перайменавання патрэбай развіваць мясцовы турыстычны сектар. На яго думку, турысты будуць прылятаць у Казахстан на імя Назарбаева, якi, як яны лічаць, вельмі папулярны сярод замежнікаў.

Аднак усіх яўна пераплюнула дэпутат Ірына Унжакава. Калі верыць ёй, аэрапорт «Нурсултан Назарбаеў» — гэта «вербальная гарантыя міралюбнасці казахскага народа». Праўда, што гэта значыць дакладна, аўтарка цытаты не патлумачыла.

Самае цікавае тое, што некаторыя парламентарыі і чыноўнікі з лагеру Назарбаева рашуча пратэстуюць супраць новай назвай сталічнага аэрапорта, паколькі, на іх думку, Нурсултан Назарбаеў, маўляў, варты большага. Як тут ні прыгадаць, што ў Казахстане прыкладна з вясны агучваецца ідэя перайменавання Астаны ў гонар кіраўніка краіны. У сеціве ўжо хапае прагнозаў пра хуткую новую назву сталіцы. Самыя папулярныя версіі — Назарбаеў-Сіці, або проста Нурсултан.

Дарэчы, сам Назарбаеў рашуча адхіліў гэтую ініцыятыву. Але ж вы памятаеце, што ён казаў наконт аэрапорта?

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПАЎНОЧНАЯ КАРЭЯ. Алімпіяда з Кім Чэн Ынам

Паўночная Карэя можа прыняць Алімпіяду. Праўда, не адна, а разам з Паўднёвай Карэяй, дзе і паўстала падобная ідэя. Нарадзілася яна ў апараце новага прэзідэнта Мун Чжэ Іна, які спадзяецца аднавіць нармальныя адносіны з Пхеньянам за кошт сумеснай зімовай Алімпіяды ў 2018 годзе. Як вядома, у наступным годзе Алімпійскія зімовыя гульні з 9 па 25 лютага адбудуцца ў Паўднёвай Карэі. Ёсць ідэя, каб некаторыя спартовыя мерапрыемствы праходзілі на паўночнай частцы Карэйскага паўвострава. Прычым, калі верыць чыноўнікам у Сеуле, паўночныя карэйцы пагадзіліся разглядзець прапанову Поўдня. Праўда, ідэя выклікала і крытычныя водгукі. Некаторыя непакояцца, што Алімпіяда ў КНДР, дзе за кепскія вынікі мясцовых спартоўцаў могуць расстраляць ці кінуць у турму, здольная дыскрэдытаваць алімпійскі рух. У сувязі з гэтым больш рэалістычным выглядае праект Чэмпіянату свету па футболе ў абодвух Карэях у 2030-м (яго ўжо таксама агучваюць). Ёсць надзея, што да 2030-га рэжым Кімаў будзе не такім брутальным.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### СЛАВАКІЯ. Працэс стагоддзя

У Славакіі чакаецца беспрэцэдэнтны працэс. Судовыя ўлады намагаюцца забараніць «Народную Партыю — Наша Славакія» (ĽSNS). У прынцыпе, падобнае часам адбываецца ў краінах ЕС, асабліва з улікам таго, што ĽSNS — партыя правaрадыкальнага кірунку. Фішка ў тым, што, у адрозненне ад іншых партый краін ЕС, якім пагражала або пагражае забарона, ĽSNS — партыя з салідным парламенцкім прадстаўніцтвам. Атрымаўшы на апошніх выбарах каля 8 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў, яна стварыла групу з 18 дэпутатаў. Аднак дэпутацкае прадстаўніцтва не дае права экстрэмістам ігнараваць закон. Генпракуратура Славакіі патрабавала забараніць структуру за парушэнне прынцыпаў грамадзянскай роўнасці. Прычым, найбольш выявілі сябе на гэтай глебе не шараговыя актывісты ĽSNS, а кіраўніцтва. Некаторыя дэпутаты-праварадыкалы збівалі іншаземцаў, іншыя прынеслі ў парламент зброю, а нехта збіў псіхолага, які паставіў яму кепскі дыягназ. Журналісты пішуць, што пытанне забароны ĽSNS для лёсу краіны фатальнае. Будучы партыяй, якая мае дэпутацкую групу, праварадыкалы маюць права на 5 мільёнаў бюджэтных еўра, якія, відавочна, пойдуць на прапаганду ксенафобіі. Застаецца дадаць, што кіраўнікі ĽSNS ужо падрыхтаваліся да забароны і стварылі паралельную структуру пад назвай «Народная партыя».

**Паводле польскай прэсы**

### АЗЕРБАЙДЖАН. Нацыянальна-вызвольныя шахматы

Настаўнік фізікі з азербайджанскай вёскі Мустафаагалы Гарыб Гусейнаў вынайшаў новую гульню на аснове шахмат. Асноўная мэта гульні — перамагчы «чорных». Яны сімвалізуюць армян, якія захапілі Карабах. Асаблівасць новых шахмат палягае ў тым, што чорнымі фігурамі нельга выйграць, як бы ты ні хадзіў. Гэта зроблена для таго, каб усе ведалі, што напрыканцы акупаваныя землі Азербайджана так ці інакш будуць вызваленыя. Парадаксальна, аднак новыя шахматы выклікалі адмоўную рэакцыю сярод патрыётаў. Справа ў тым, што на стварэнне гульні ў Гусейнава пайшло аж 9 гадоў. Патрыёты лічаць, што за гэты час вынаходнік мог прынесці больш карысці для радзімы, калі б пайшоў на фронт, чым сядзеў за шахматнай дошкай.

**Паводле азербайджанскай прэсы**

### РАСІЯ. Права на лаянку

Адпаведны камітэт расійскай Дзярждумы 22 чэрвеня рэкамендаваў калегам прыняць законапраект, які ўзмацняе адміністрацыйную адказнасць за дробнае хуліганства — у прыватнасці, за нецэнзурную лаянку. Пры гэтым дэпутаты прапануюць пашырыць дзеянне гэтага артыкула, ахапіўшы не толькі грамадскія месцы, але і ўсе іншыя. То бок, калі хтосьці, праходзячы міма вашай кватэры, пачуе з-за дзвярэй моцнае слоўца і паскардзіцца ў паліцыю, гэта можа стаць падставай завесці справу. У адказ сярод філолагаў паўстаў рух у абарону лаянкі. На іх думку, словы на літары «б» і «х» — важны стылістычны пласт, які павінен застацца ў мове. Проста ёсць сітуацыі, у якіх лаянка дарэчы, а ёсць тыя, у якіх яна недарэчная. Напрыклад, калі вы трапляеце сабе малатком па руцэ – дарэчы: мат у гэтым выпадку дазваляе вызваліцца ад пэўнай негатыўнай энергіі. Таму, як лічаць філолагі, валоданне рускай мовай прадугледжвае і абавязковае валоданне гэтымі выразамі. Застаецца пачакаць, ці гарантуюць парламентарыі грамадзянам Расіі права на лаянку.

**Паводле расійскай прэсы**




Фота www.s2.dmcdn.net

# Гельмут Коль і выбары

Алег НОВІКАЎ

**Германія развіталася з былым канцлерам краіны Гельмутам Колем, які пайшоў з жыцця 16 чэрвеня, на 78-м годзе жыцця. Пра тое, як нямецкая грамадскасць успрыняла сумную навіну, і ці паўплывае гэта на выбарчую кампанію ў Бундэстаг, «Новаму Часу» распавядае нямецкі журналіст Пітэр Бурк.**

***— Якая агульная рэакцыя нямецкай грамадскасці на сыход з жыцця Гельмута Коля?***

— Вельмі розная. Нягледзячы на шмат публікацый і напышлівых словаў на адрас нябожчыка, самы буйны рэзананс з нагоды смерці выклікаў правакацыйны загаловак левай газеты «Tageszeitung»: «Квітнеючыя краявіды» і выявы кветак на магілках. Справа ў тым, што ў «квітнеючыя краявіды» Коль у свой час абяцаў ператварыць ГДР. Таму загаловак у «Tageszeitung» успрымаўся як добрая іронія. Аднак сваякі былога канцлера пабачылі ў жарце здзек з нябожчыка. Выбухнуў вялікі скандал, які скончыўся пакаяннем журналістаў — яны былі вымушаныя прасіць прабачэння за сваю выхадку.

***— Якім Гельмута Коля памятаюць простыя немцы?***

— У чымсьці Гельмуту Колю пашанцавала, бо яго кадэнцыя скончылася ў час, калі сацыяльная праблематыка была не настолькі вострай, як зараз. Еўрасаюз трыумфальна рушыў на Усход, людзі не ведалі, што такое ісламскі тэрарызм і крызіс. Увогуле, існуе думка, што Коль прайграў выбары выключна праз слабы выступ нямецкай футбольнай зборнай на Чэмпіянаце свету 1998-га ў Францыі. Канцлер так ганарыўся сваім сяброўствам з тагачасным трэнерам Берці Фогтсам, што правал зборнай каштаваў яму галасоў на выбарах. Таму для большасці немцаў Гельмут Коль застаўся сімвалам аб'яднання і добрых, адносна тлустых часоў. Гэты вобраз не здолелі зруйнаваць і апошняя скандалы вакол яго асобы: гісторыкі высветлілі, што канцлер крытычна ставіўся да ўвядзення еўра і марыў пра дэпартацыю туркаў-імігрантаў.

Праўда, гэта не тычыцца інтэлігенцыі і прагрэсіўных колаў: яны не прабачылі яму інтрыгі, праз якую быў зрынуты ўрад сацыял-дэмакратаў у 1982-м. Лічыцца, што Гельмут Коль эксплуатаваў мадэль сацыяльнай дзяржавы, якую пабудавалі эсдэкі. Магчыма таму ў Франкфурце-на-Майне аказалася так шмат праціўнікаў ініцыятывы надаць мясцоваму аэрапорту імя Гельмута Коля.

***— Вядома, што Ангела Меркель на старце сваёй кар'еры была пратэжэ Гельмуа Коля, аднак пасля здрадзіла шэфу і патрабавала яго адстаўкі пасля няўдачы на выбарах увосень 1998-га. Як паводзіць сябе Меркель зараз?***

**У чымсьці Гельмуту Колю пашанцавала, бо яго кадэнцыя скончылася ў час, калі сацыяльная праблематыка была не настолькі вострай. Еўрасаюз рушыў на Усход, людзі не ведалі, што такое тэрарызм і крызіс**

— Меркель намагаецца паводзіць сябе гэтак, як і павінен дасведчаны палітык: яна спрабуе вельмі мудрагеліста каментаваць гісторыю сваіх адносінаў з Колем. Аднак без скандалу ўсё роўна не абышлося, дзякуючы ўдаве экс-канцлера і яго сынам. Яны ахвотна нагадваюць Меркель пра тую здраду. Калі верыць выданню «Der Spiegel», адзін з сыноў нават патрабаваў забараніць выступ Меркель падчас пахавання. Паводле ўсё таго ж «Der Spiegel», адзін з сыноў нябожчыка даслаў запрашэнне на пахаванне венгерскаму прэм'еру Віктару Орбану, які лічыцца персанальным ворагам Меркель. Затое Меркель, у сваю чаргу, заклікала да стварэння новага фонду, які будзе насіць імя Гельмута Коля. У сувязі з гэтым прэса піша пра пачатак бітвы за спадчыну былога канцлера.

***— Ці адбілася смерць Гельмута Коля на выбарчай кампаніі ў Бундэстаг?***

— Гледзячы па выніках апошніх сацыялагічных апытанняў, нічога асабліва не змянілася. Хрысціянскія дэмакраты застаюцца лідарамі выбарчай гонкі, і няма падстаў думаць, што нехта можа перахапіць ініцыятыву. Аднак, чым бліжэй дзяжурная перамога Меркель, тым больш грамадства крытыкуе ідэю новай вялікай кааліцыі (фармат ураду, калі Меркель кіравала разам з эсдэкамі ў ролі малодшых партнёраў). Вельмі шмат людзей жадаюць бачыць, каб у складзе ўраду з'явіліся новыя твары, прадстаўнікі новых партый. Таму не выключана, што Меркель застанецца пры ўладзе, аднак яе партнёрамі будуць лібералы або «Зялёныя». Магчыма, таму вельмі шмат кажуць пра новы ўрад у зямлі Шлезвіг-Гальштэйн, дзе партфелі з кансерватарамі цяпер дзеляць лібералы і «Зялёныя».

***— Сацыял-дэмакраты канчаткова змірыліся з будучым фіяска на выбарах?***

— Марцін Шульц — кандыдат сацыял-дэмакратаў — намагаецца ўсімі сіламі пераламіць ход выбараў і вярнуць давер электарату, які ён страціў. На апошнім з'ездзе сацыял-дэмакратычнай партыі ён дамогся радыкалізацыі партыйнай выбарчай праграмы ў галіне падаткаў для заможных. Трэба сказаць, што намаганні Шульца не застаюцца без вынікаў. Паводле апытанняў, большасць немцаў пазітыўна ставяцца да яго персанальна. Іншымі словамі, барацьба для Шульца яшчэ не прайграная. Вельмі шмат спадзяванняў эсдэкі ўскладаюць на грамадскія пратэсты супраць саміту «вялікай дваццаткі» ў Гамбургу, якія пачнуцца на наступным тыдні. Эсдэкі відавочна будуць спрабаваць стварыць сабе вобраз канструктыўнай сацыяльнай апазіцыі.

# Футболу не будзе?

Алег НОВІКАЎ

**Дасюль цалкам не зразумела, ці адбудзецца Чэмпіянат свету ў Расіі ў наступным годзе? Пад пытаннем ужо і чарговы Мундыяль 2022 года ў Катары, што моцна пасварыўся з арабскім светам.**

Адразу пасля таго, як Катар у 2010-м быў абвешчаны гаспадаром Кубка свету–2022, стала відавочна, што катарскі турнір трапіць у аналы гісторыі. Справа ў тым, што чэмпіянат запланаваны на лістапад-снежань (улетку, калі традыцыйна праходзяць падобныя спаборніцтвы, гуляць у Катары праз спёку ў 40 градусаў немагчыма).

Тое, што FIFA пайшло на падобны спрэчны эксперымент, адразу выклікала падазрэнне. Як і тое, што адпаведнай інфраструктуры на той час у Катары не было, а сама працэдура галасавання па краіне-гаспадыні Мундыялю–2022 выглядала вельмі дзіўна. Толькі ў чацвёртым туры дзяржава Персідскага заліву выйграла ў ЗША. Каб стаць пераможцам, трэба было набраць неабходную квоту ў 13 галасоў, а Катар атрымаў іх толькі падчас пятага галасавання.

Грамадскасць адразу заявіла: без хабараў тут не абышлося. У прыватнасці, пісалі, што кіраўнік рэгіянальнай федэрацыі падмазаў каго трэба на суму ў 5 мільёнаў долараў. Хаця Катар, у сваю чаргу, усе абвінавачванні катэгарычна адхіляў, у 2012-м пры Федэрацыі была створаная следчая камісія, якая павінна была высвеціць, ці сапраўды Масква і Доха давалі хабары.

Вынікі працы камісіі сталі вядомыя загадзя. 26 чэрвеня нямецкі таблоід «Bild» зліў змест даклад кіраўніка камісіі Майкла Гарсія. На радасць гаспадарам турніраў 2018-га і 2022-га, падазрэнні з іх былі, збольшага, знятыя.

Па іроніі лёсу, галоўнымі ахвярамі працы камісіі сталі не катарцы і рускія, а брытанскі істэблішмент, які гучней за ўсіх дамагаўся следства. Як вядома, менавіта Англія бачыла сябе гаспадыняй чэмпіянату 2018-га, які дастаўся Расіі. Калі верыць «Bild», брытанскі прэм'ер, які асабіста лабіяваў правы Англіі прыймаць чэмпіянат, вёў брудную гульню. Тагачасны прэм'ер Дэвід Кэмеран кулуарна прапанаваў іншым федэрацыям галасаваць па прынцыпе «ты галасуеш за мяне падчас выбараў краіны-гаспадыні 2018-га, а я за цябе, калі будуць абіраць краіну-гаспадыню турніру 2022-га».

Аднак, падаецца цяпер футбольнай грамадскасці плёткі наконт таго, хто і каму даваў хабары, не вельмі цікавыя. Катар моцна пасварыўся з арабскімі суседзямі, якія абвінавацілі яго ў фінансаванні і падтрымцы ісламскай радыкальнай апазіцыі. Прычым, справа не абмяжавалася дыпламатычнымі нотамі. Суседзі Катара выставілі ўраду краіны беспрэцэдэнтны для міжнароднага права ўльтыматум, у якім пагражаюць краіне эканамічнымі санкцыямі, палітычнай ізаляцыяй і гэтак далей.

Не дзіўна, што катарцы адразу кінуліся атакаваць крамы, не чакаючы дэфіцыту прадуктаў. Адначасова саюзнікі і праціўнікі Катару паабяцалі нарасціць вайсковую прысутнасць у Персідскім заліве, што яшчэ больш абвастрыла сітуацыю.

Цяжка ўявіць свята футболу ў такіх умовах. Як следства, усе патэнцыйныя спонсары і нават арганізатары чэмпіянату не знаходзяць сабе месца. Са спасылкай на свае крыніцы, брытанская газета «Guardian» піша пра паніку ў камітэце, які адказвае за будаўніцтва спартыўных аб'ектаў да катарскага чэмпіянату. Там прызнаюць, што сур'ёзнасць сітуацыі значна большая, чым любая з праблем, з якімі сутыкаўся Катар пасля атрымання права на правядзенне турніру ў 2010 годзе.

Паўстала і пытанне, ці павінны каманды з краін Захаду гуляць у краіне, якую падазраюць у фінансаванні тэрарызму? Прэзідэнт нямецкай футбольнай асацыяцыі ўжо адзначыў, што будзе абмяркоўваць «палітычнае вырашэнне гэтай праблемы» з урадам Германіі і УЕФА. «Футбольная грамадскасць ва ўсім свеце павінна пагадзіцца, што буйныя турніры не павінны праводзіцца ў краінах, якія актыўна падтрымліваюць тэрор», — кажа футбольны функцыянер.

Кіраўніцтва FIFA дасюль не можа пракаментаваць тое, што адбываецца, і адсутнасць каментараў працуе на аўтараў інсінуацый. На цяперашні момант у Федэрацыі кажуць толькі, што яе супрацоўнікі знаходзіцца ў «пастаянным кантакце» з Катарам.

Якой будзе развязка вакол Кубку свету–2022, ніхто не можа прагназаваць. Адзінае, што супакойвае, — да 2022 года яшчэ шмат часу, і, магчыма, Катар неяк стабілізуе свае адносіны з суседзямі. У гэтым плане значна больш пытанняў з чэмпіянатам у Расіі. На днях расійскіх футбалістаў абвінавацілі ва ўжыванні допінгу, што можа мець хуткія і негатыўныя наступствы для гаспадароў турніру.

Што тычыцца перспектыў чэмпіянату ў Катары, дык ёсць сэнс дажыць да панядзелка. Менавіта на пачатку тыдня мінае 10 дзён, якія далі Катару арабскія суседзі на выкананне сфармуляваных ва ўльтыматуме патрабаванняў. Між тым, стала вядома, што некаторыя федэрацыі ўжо зандуюць глебу, каб прыняць Кубак свету–2022 замест Катара. Калі верыць плёткам у прэсе, на гэтую ролю, быццам бы, прэтэндуе Кітай.

**Кіраўніцтва FIFA дасюль не можа пракаментаваць тое, што адбываецца, і адсутнасць каментараў працуе на аўтараў інсінуацый. Цяпер у Федэрацыі кажуць толькі, што яе супрацоўнікі знаходзіцца ў «пастаянным кантакце» з кіраўніцтвам краіны**




## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Томі Шэпард



Адзін з лідараў Шатландскай нацыяналістычнай партыі (SNP), як піша прэса, вырашыў адкрыта падседзець лідара Ніколу Стэрджэн.

Ніхто раней не аспрэчваў статус Ніколы Стэрджэн, пад кіраўніцтвам якой партыя бліскуча выйграла дзве кампаніі. Аднак правал нацыяналістаў на чэрвеньскіх выбарах у брытанскі парламент (SNP страціла амаль 20 мандатаў) даў магчымасць адкрыта казаць пра неабходнасць змены кіраўніцтва, што і робіць Шэпард. Палітык публікуе артыкулы і дае інтэрв'ю, у якіх распавядае, што шатландскі выбаршчык стаміўся ад Стэрджэн, якая павінна як мага хутчэй падаць у адстаўку. Што тычыцца канкрэтных супярэчнасцяў, то Шэпард і яго прыхільнікі прапануюць адмовіцца на нейкі час ад ідэі незалежнасці.

Як вядома, Стэрджэн абяцала ў хуткім часе правесці новы плебісцыт наконт суверэнітэту краю. У выніку, на думку крытыкаў, выбары ў Шатландыі разглядаюцца як папярэдняе галасаванне за і супраць незалежнасці, а такая кардынальная пастаноўка пытання палохае электарат.

Падаецца, што Нікола Стэрджэн вымушаная прыслухацца да голасу ўнутранай партыйнай апазіцыі. 28 чэрвеня яна абвясціла, што пераглядае планы датычна новага рэферэндуму аб незалежнасці рэгіёна, не будзе дамагацца неадкладнага прыняцця адпаведнага законапраекта, і вернецца да гэтага пытання, «калі будзе яснасць па Brexit».

### Траян Бэсеску



Былы прэзідэнт Румыніі 25 чэрвеня быў абраны лідарам Малдоўскай партыі нацыянальнага адзінства, якая змагаецца за ўваходжанне Малдовы ў склад Румыніі.

У прынцыпе, у Малдове хапае падобных так званых юніяністцкіх партый, аднак большасць з іх цяпер знаходзіцца ў крызісе. Як следства, менавіта арганізацыя Бэсеску, які, дарэчы атрымаў малдаўскі пашпарт, становіцца лідарам тэндэнцыі.

Міма прызначэння Бэсеску не прайшоў цяперашні прамаскоўскі прэзідэнт Ігар Дадон, які паабяцаў, што лідар юніяністаў правядзе аб'яднанне Малдовы і Румыніі, аднак у турме. На думку Дадона, сваімі ўчынкамі Бэсеску падрывае планы вяртання Прыднястроўя ў склад Малдовы, што з'яўляецца дзяржаўнай здрадай. Дадон таксама згадаў, што былы румынскі кіраўнік мае праблемы з правасуддзем на радзіме, дзе на яго заведзеная крымінальная справа па абвінавачванні ў карупцыі і злоўжыванні ўладай. Як следства, прэзідэнт Малдовы заклікаў румынскае правасуддзе дапамагчы затрымаць Бэсеску.

У сваю чаргу, Бэсеску назваў Дадона «пудзелем Пуціна».

### Эдзі Рама



Партыя лідара албанскіх сацыялістаў перамагла парламенцкіх выбарах 25 чэрвеня і, як следства, застанецца пры ўладзе. Аднак перамога Рамы цікавая ў іншым ракурсе. Як піша прэса, цяпер няма ніякіх перашкодаў для запуску працэсу інтэграцыі краіны ў склад сяброў Еўрасаюза.

Яшчэ ў 2014 годзе Тырана падала заяўку на сяброўства ў ЕС, аднак у Брусэлі не спяшаліся даваць албанцам зялёнае святло. Еўрачыноўнікаў палохала не толькі моцная маргіналізацыя албанскай супольнасці, калі кожны трэці юнак не мае працы, а штомесячны заробак не цягне нават на 300 еўра. У Брусэлі не разумелі, як Албанія збіраецца змагацца з эканамічнымі праблемамі, а таксама з праблемамі карупцыі і наркакрыміналам.

Перамога Эдзі Рамы, які гэтым разам можа сфармаваць аднапартыйны кабінет, дазваляе спадзявацца на кардынальныя рэформы ў праблемных сферах. Таксама еўрапейскія лідары спадзяюцца, што поспех албанскіх сацыялістаў астудзіць ваяўнічыя настроі так званай «партыі пісталета» — палітычнага кола Арміі вызвалення Косава, якая перамагла на выбарах у парламент суседняга краю. На выбары партыя камбатантаў ішла з радыкальнай ваяўнічай праграмай: напрыклад, абяцала пераглядзець цяперашнюю мяжу з Чарнагорыяй, што пагражае новай вайной на Балканах.

# Загадка Давіда Кеймаха

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Заканчэнне. Пачатак у №24**

Гісторыя забойства гаўляйтара Вільгельма фон Кубэ дастаткова асветленая ў айчыннай гістарыяграфіі. Але па некаторых эпізодах дасюль няма пэўнасці. Гэтае забойства, па словах пісьменніка Анатоля Валахановіча, парасло «рознымі міфамі, легендамі, паданнямі, былямі, былічкамі».

### Пасля забойства

Далейшае падрабязна апісана ў многіх творах і ў фільме «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Не ўсім вядома, дарэчы, што асновай для стужкі паслужыў спектакль «Гэта было ў Мінску» на Купалаўскай сцэне. Расказваюць, што Уладзімір Уладамірскі, будучы народны артыст СССР, так пераканаўча іграў стаўленіка Гітлера, што публіка сцішалася ад жаху.

Міна ірванула ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 года.

Пасля таго, як «спыніўся гадзіннік», мы яшчэ раз выходзім на лагойскі след: першую ноч пасля ўдалай спецаперацыі Алена Мазанік правяла ў Янушкавічах. Я даведалася пра гэта, працуючы над дакументальнай кніжкай, ад Ларысы Бутманавай (Марцынкевіч), ураджэнкі сяла. Мазанік прывезлі на ноч да іх бабулі Мальвіны Лукінічны Прахаровіч. На пограбе для аховы паставілі кулямёт. Што за жанчына і чаму яна тут начуе, ніхто не казаў. Сама госця перш калацілася ад страху, а пасля скакала і радавалася: «Папкі няма! Папкі няма!» Бабуля не магла даўмецца, што гэта за «папка» і чаму тут радавацца. Тым не менш, з гэтай нагоды выпілі па чарачцы.

### А што ж Кеймах?

Незадоўга да падрыхтаванага замаху, у ноч з 13 на 14 верасня, Давід Кеймах таемна пакінуў атрад. Ён не паехаў на далёкі аэрадром — па яго спусцілася «стрaказа» і забрала на борт. Самалёт тройчы прызямляўся на лясных аэрадромах, забіраў параненых, вёз важныя разведвесткі і «наградныя лісты», аднак да Масквы не даляцеў. Мяркуецца, што ён быў збіты ў раёне Вялікіх Лукаў.

Чацвёра партызанскіх камандзіраў выправіліся на сустрэчу са Сталіным. Кеймах, да таго ж, меў намер правесці кансультацыі з кіраўніцтвам Генеральнага штаба. Разам з ім вярталіся дамоў яго жонка і дачка. «Навошта ён іх з сабою браў?» — пытаецца бабро́ўская бабуля. А я дзівуюся, як яны рызыкнулі ляцець на занятую ворагам тэрыторыю. Варанянскі вёз здабытыя лагойскімі партызанамі каштоўныя звесткі і спісы на ўзнагароды. Імёны двух іншых увогуле не паведамляюцца. Дзіўная гісторыя з гэтай мяркуемай сустрэчай... Спланаваць яе маглі або два Лаўрэнцыі (Берыя і Цанава), або Панцеляймон Панамарэнка. І тут мы пераходзім да тэмы, хто і як дзяліў славу пасля выканання загаду Вярхоўнага камандуючага.



Сямейныя магілы блакаднікаў у вёсцы Янушкавічы

Цанава першы паспеў адрапартаваць, што расправу над «катам беларускага народа» здзейснілі яго людзі — разведчыкі 4-га Упраўлення НКУС: «Група ГРУ пад кіраўніцтвам Фёдарава ніякіх прамых адносінаў да забойства Кубэ не мела». Надзея Траян, якая таксама атрымала зорку Героя, адзначана не за вынік, а за ўдзел: яна падстрахоўвала Мазанік, везучы на дамскім ровары ў сталіцу другую, ужо непатрэбную міну. Панцеляймон Панамарэнка, са свайго боку, ні з кім не збіраўся дзяліцца славай. У адным з данясенняў ён напісаў, што прадстаўнікі 4-га разведупраўлення «здольныя толькі прысвойваць баявыя справы партызан».

З Руднянскага бору данясення ў Цэнтр не паступіла. Чаму выканаўцы тэрмінова не паведамілі пра ўдалы выбух у атрад? І хто павінен быў паведамляць? Сувязныя? Пры адсутнасці камандзіра (пра яго гібель маўчалі яшчэ паўгода) гэты момант, магчыма, не быў агавораны. (Не спадзяваліся на ўдачу?) Кеймах быў тым галоўным звяном, без якога рассыпалася схема.

На патрабаванне з Цэнтра ўнесці яснасць у заблытанае пытанне, памочнік Кеймаха Мікалай Фёдараў у якасці арганізатара аперацыі сціпла назваў... сябе. Ну так, фактычна на той час ён ужо выконваў абавязкі камандзіра ці нават быў афіцыйна зацверджаны на пасадзе. Між тым, пра пышнае пахаванне Кубэ Фёдараў даведаўся толькі 26 верасня з нямецкай газеты!

Славу падзялілі, зоркі раздалі траім «дзяўчатам». Валянціна Шчуцкая і Мікалай Фёдараў атрымалі па ордэну Леніна. У апошнюю хвіліну ўспомнілі пра пакаранага на той час фашыстамі мінскага падпольшчыка Мікалая Драздова, які сыграў важную ролю ў перадачы міны. Начыста «забыліся» толькі на Давіда Кеймаха, які быў рухавіком і распрацоўшчыкам плана «Кабан».

### Незаўважаны герой

Напрошваецца пытанне, чаму Фёдараў (вышэйшы, дарэчы, па званні, за свайго начальніка) перавёў стрэлкі на сябе. Што калі Вярхоўнаму галоўнакамандуючаму, разважаю я, не давялі пра збіты пры пералёце экіпаж? Або давялі нашмат пазней? Памочніка маглі папярэдзіць, каб маўчаў пра камандзіра, інакш інфармацыя дойдзе да Сталіна. А той пацікавіцца: хто такі? А дзе ён? Ах, збілі! А хто не забяспечыў бяспеку палёту? Падаць мне яго сюды!.. Такім чынам, падобна, закрывалі тэму збітага борта. Добра Варанянскаму: ён Кубэ не забіваў і таму мае вуліцу ў сталіцы.

Адносна таго, як дастаўлялі ў Маскву Чорную, Галю з сястрой і Фёдарава (псеўданім «Колокол»), няма недагаворак. Мы ведаем лётчыкаў: гэта Пакроўскі і штурман Баравы, ведаем марку самалёта: СІ-47, бартавы нумар 822. Але чаму грамадскасць дасюль не ведае ні імёнаў пасажыраў, ні экіпажу збітага борта, на якім ляцелі Варанянскі з Кеймахам? Пытанне без адказу. Невядомасць і завеса сакрэтнасці даюць падставу для розных здагадак і домыслаў.

Справа, канешне, не толькі — і не столькі — ва ўзнагародах, колькі ў арэоле далейшай сакрэтнасці вакол Кеймаха. Ён не быў пад падазрэннем, ні ў чым не правініўся перад Савецкай уладай. Яго не дапытвалі на Лубянцы, як генерала Нічыпаровіча. У чым жа справа?

Так, віна Кеймаха не мае тэрміну даўнасці... «Дзіма» належаў да армейскай разведкі, якую Берыя не прызнаваў, і ён жа пасмеў абскакаць «Самога»! Няйначай капітан стаў ахвярай міжведамаснай канкурэнцыі. Аўтарам (і цэнзарам) першага даведніка, прысвечанага партызанскай барацьбе, быў шэф дзяржбяспекі БССР Цанава. Імя непасрэднага кіраўніка аперацыі па ліквідацыі Кубэ было папросту праігнаравана. Пазней, у іншых выданнях прыбралі ўсялякія спасылкі на атрад «Дзімы» і на дыслакацыю атрада, гэта значыць — на Лагойскі раён. Няма сумневаў: існавала (і не адменена!) негалосная забарона на імя.

Аднак імя гэтае праўдамі і няпраўдамі ўсё ж прасочвалася на старонкі айчынных выданняў. На старонцы 340 2-га тома «Всенародной борьбы...» цэлы абзац прысвечаны атраду «Дзімы». Гаворка ідзе пра звычайныя дыверсіі і сувязь з гарадскім падполлем, пра групу Осіпавай (не было ў яе ніякай «сваёй» групы!). Пры гэтым аўтары ідавочна «цямняць»: гавoрыцца пра дыверсіі і разведку, але без сувязі з аперацыяй «Кабан».

І тут я здагадалася праверыць імянны ўказальнік. Аказалася, што Фёдараў у ім прысутнічае, а Кеймах выпаў. Як быццам не праходзіў у змесце! Вось і думай што хочаш. Не то вучоныя мужы прыдумалі, як абвесці вакол пальца цэнзара, не то змушаны былі «пачысціць» імянны спіс ад канкрэтнага непажаданага прозвішча.

### Рэабілітаваць Кеймаха

Здавалася б, гістарычную несправядлівасць маглі выправіць сучасныя аўтары. Згаданы Л.Зубараў («Расплата», 2008) мадэлюе дыялогі Кеймаха з таварышамі, аздабляе аповед мастацкімі эпізодамі. Пры гэтым пазбягае ўсялякай геаграфічнай прывязкі: не называе дакладных месцаў дыслакацыі атрада — ні вёсак, ні сельсавета, ні раёна. Як, напрыклад, зразумець сказ: «Дзіма» з атрадам падаўся ў дальнія мясціны». Або: «Атрад перабазіраваўся бліжэй да сталіцы Беларусі». Як быццам аўтар баіцца парушыць даўно ўстаноўленыя рамкі адносна таго, што можна гаварыць, а што — нельга.

Анатоль Валахановіч, з якім мне пашчасціла стэлефанавацца незадоўга да яго смерці, расставіў кропкі над «і», падрабязна апісаўшы этапы падрыхтоўкі ліквідацыі гаўляйтара і ўдзел усіх ключавых фігур у гэтай нашумелай палітычнай дзеі. У кнізе прайшла недакладнасць: атрад «Дзімы» не далучыўся да Чырвонай Арміі пры наступленні. Яго, па сутнасці, расфарміравалі. Новапрызначанага Фёдарава перавялі ва Украіну, ён загінуў у Польшчы і пасмяротна атрымаў званне Героя Савецкага Саюза. Загінуў начальнік штаба Дзмітрый Чупрыс, пераведзены ў брыгаду «Штурмавая». Без вестак знік камандзір атраднай разведкі Якаў Свентаржыцкі. Атрад «імя Дзімы» не згадваецца сярод тых, што знаходзіліся ў аблозе на возеры Палік. Значыць, ён перастаў існаваць як воінская адзінка.

Да сённяшняга дня гісторыкі прытрымліваюцца старых правілаў гульні. Возьмем адносна свежую публікацыю («Звязда» 04.07.2016). Яўген Бараноўскі піша аб прадстаўніках розных нацыянальнасцяў у партызанскім і падпольным руху Беларусі. Сярод камандзірскага складу называюцца рускія, украінцы, грузіны, армяне, латышы і літоўцы... З прыкладамі, з канкрэтнымі прозвішчамі. Няма толькі аднаго прадстаўніка — яўрэя Давіда Кеймаха. Не думаю, каб кандыдат гістарычных навук скардзіўся на памяць. Піша ж ён пра гібель Варанянскага, пра тое, што ў біяграфіі не ўказваюцца прычыны і дата смерці. Але ж гэтыя відныя ўдзельнікі партызанскага руху ляцелі на адной «стракaзе»!

Прымушае задумацца такая загадкавая фраза: «Па афіцыйнай версіі, самалёт быў збіты. Але парэшткі яго і іншыя сведчанні трагедыі ніхто не бачыў». Не бачыў, бо не шукаў! Па ідэі, пасля вызвалення тэрыторы дзяржаўная камісія мусіла правесці расследаванне. Не над тайгой упаў савецкі самалёт — на заселенай тэрыторыі.

7 верасня 1943 года Кеймах яшчэ прысутнічаў на сходзе камандзіраў. Праз тыдзень яго не стала сярод жывых. Далей савецкія ідэолагі, як згаварыўшыся, паводзілі сябе так, быццам яго не існавала ўвогуле.

«Зямля бацькоў, Лагойшчына мая... Край неўміручай партызанскай славы», — пісаў народны паэт Беларусі, ураджэнец і пясняр гэтага краю Ніл Гілевіч. Выснова гэтая, на жаль, афіцыйнай гістарыяграфіяй не пацвярджаецца. На прыкладзе аднаго лёсу мы маем яскравы прыклад фальсіфікацыі значных падзей крывавай і пераможнай вайны 1941–1945 гадоў.



На мінскай шашы. Малюнак капітана Германа, выданы друкарняй аднаго з падраздзяленняў вермахта

# Шэдэўр беларускай архітэктуры на мяжы знікнення

Аляксей ХАДЫКА



Смаленскі касцёл Беззаганнага Зачацця Маці Божай

**У дзень апосталаў Пятра і Паўла, 29 чэрвеня 1897 года, у Смаленску вікарыем Магілёўскім Францыскам Альбінам Сымонам быў урачыста асвечаны новы велічны, самы прыгожы ў горадзе, каталіцкі храм — Беззаганнага зачацця Маці Божай. Для беларусаў касцёл каштоўны яшчэ і тым, што ён — першы рэалізаваны праект самага знанага беларускага архітэктара першай паловы XX стагоддзя Лявона Вітан-Дубейкаўскага.**

Лёс аўтахтонаў-іншаверцаў пад маскоўскім панаваннем (з 1654 года) быў няпросты. Калі да таго часу ў Смаленску дзейнічалі тры катэдры — праваслаўная, каталіцкая і ўніяцкая, — то пасля праца дзвюх апошніх была спыненая. Рэлігійнае жыццё неправаслаўных то абмяжоўвалася, то амаль цалкам забаранялася. Магчымыя былі толькі хатнія маленні, забаронена запрашэнне святароў ці выезд па рэлігійных патрэбах за мяжу. Пад страхам крымінальнай кары — «спакушэнне» на свой бок праваслаўных. І гэта насуперак таму, што адукацыйны ўзровень смалян рэальна падвышаўся (амаль да ўзроўню астатніх земляў ВКЛ) толькі ў час дзейнасці тут ордэнаў: езуітаў (4-класны калегіум на 30 студэнтаў у першай палове XVII стагоддзя), дамініканцаў, францысканцаў, базыльян.

Выключэнне зрабілі з ініцыятывы смаленскай шляхцянкі Агаф'і Грушэцкай, жонкі маладога цара Фёдара Аляксеевіча ў 1680 годзе — адбудавалі драўляны касцёл, а пры ім адчынілі вучэльню. Пэўная палёгка настала пасля выхаду Указу 1735 года пра дазвол набажэнстваў усім хрысціянскім канфесіям Расіі (хаця каб «в оные не привлекались русские подданные, какой бы веры они не были, под опасением суда и наказаний»).

## Пачатак будаўніцтва

Папярэднік касцёла — драўляны храм 1680 года — згарэў і быў адноўлены ў 1813 годзе. На мяжы 1812–1813 гадоў каля яго ўзніклі вялікія брацкія магілкі французскіх жаўнераў. У 1839 годзе выбудавалі невялікую неакласічную каменную царкву Прачыстай Дзевы Марыі.

Пад канец XIX стагоддзя колькасць каталікоў у Смаленску вагалася ўжо каля 5000, і памеры царквы не задавальнялі патрэбаў рэлігійнага жыцця: было вырашана ўзводзіць новы храм. Сярод прыхаджан варта прыгадаць шляхту і святароў, што бралі ўдзел у паўстанні 1863 года, і пасля сібірскай ссылкі ў сярэдзіне 1870-х вярталіся бліжэй да радзімы з дазволам жыць у Смаленску. Грошы на будоўлю збіралі вернікі, багатая беларуская шляхта (Гедройцы, Сіняўскія, Камароўскія), святары Магілёўскай рыма-каталіцкай архіепархіі, купец з Італіі Дамінік Нульчыні. Кіраваў працэсам галава Будаўнічага камітэту пробашч Стэфан Дзенісевіч.

І хаця сабраных сродкаў не хапіла на запланаваныя скульптуры на фасадзе, неагатычны праект атрымалася ўвасобіць амаль у поўнай дасканаласці. Аўтарам праекту выступіў губернскі архітэктар Міхаіл Мейшар, а непасрэдна работамі з самага пачатку 1894 года кіраваў «інжынер» Лявон Вітан-Дубейкаўскі, які выйграў адпаведны конкурс на падрад. Роля апошняга толькі ўзрасла пасля смерці Мейшара ў пачатку 1895 года.

## Архітэктар, асветнік, палітык

Лявон Вітан-Дубейкаўскі, інжынер-архітэктар, таленавіты тэарэтык беларускага дойлідства і актыўны ўдзельнік адраджэнскага руху, прыйшоў у гэты свет у старадаўняй, але збяднелай шляхецкай сям'і ў Дубейкаве Мсціслаўскага павету. Да беларускага эпасу і меласу яго з маленства прызвычаіла маці, Агапа з Дзержынскіх, выдатная спявачка і спагадлівая да людзей жанчына.

Бацька, чалавек старых традыцый і строгі выхавацель, адправіў сына па адукацыю ў Мсціслаўскае гарадское вучылішча, а працягам для яго бачыў кар'еру пісара. Але ў Лявона, які пры магчымасці ўжо з юнацтва дапамагаў будаўнікам і цеслярам на рэстаўрацыях старых навакольных храмаў, склаліся іншыя планы. У выніку ў 17 гадоў ён паступіў у Варшаўскую будаўнічую школу, якую скончыў праз два гады з прафесійным дыпломам. І сам пачаў кіраваць адбудовамі касцёлаў на Магілёўшчыне, падчас чаго пазнаёміўся з маладым мясцовым святаром, ад якога атрымаў для азнаямлення «Дудку беларускую» Францішка Багушэвіча.

Заказ на кіраўніцтва будаўнікамі Смаленскага касцёла Вітан-Дубейкаўскі атрымаў ужо прафесійным дойлідам і свядомым беларусам. Але не толькі. Сёння мы б назвалі Лявона яшчэ і добрым менеджарам. Працуючы і жывучы ў Смаленску, у 1897 годзе ён заснаваў прыватнае інжынернае «Таварыства Л. Дубейкаўскі і Ко», а праз год — завод жалеза-бетонных вырабаў. Паралельна з касцёлам Дубейкаўскі ўзводзіў на Смаленшчыне прыватныя дамы, дзве праваслаўныя царквы.

Праз нейкі час Вітан-Дубейкаўскі выехаў на вучобу ў Пецярбург, дзе за год экстэрнам здаў іспыты на званне інжынера-архітэктара пры Інстытуце цывільных інжынераў. А ў 1905–1906 гадах ён накіраваўся ў Парыж, у архітэктурную школу (Ecole Special d'Architekture), спасцігаў сакрэты лепшых архітэктараў, заканадаўцаў еўрапейскага дойлідства. І працягваў ствараць архітэктурныя праекты цывільных будынкаў, зробленыя пад уплывам французскага мадэрну, а таксама праекты касцёлаў, выкананыя ў неараманскім і неагатычным стылях. Так архітэктар упэўнена крочыў да здзяйснення мэты жыцця: выпрацоўкі нацыянальнага стылю царкоўнага беларускага дойлідства.

Яе пачаткам была замова на праект касцёла (у Янатрудзе Полацкага павета, не ажыццёўлены) ад ксяндза Францішака Будзькі, аднаго з пачынальнікаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі. А перад тым адбыліся знаёмствы з лідарамі нацыянальнага руху: братамі Луцкевічамі, Вацлавам Іваноўскім, Уладзімірам Сталыгвам, супрацоўніцтва і ліставанне з «Нашай нівай», каталіцкім штотыднёвікам «Biełarus», падтрымка грашыма выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша ваконца».

У практыцы вяршыняй архітэктурнай творчасці зрабіўся цудоўны драўляны касцёл Святых Пятра і Паўла ў мястэчку Дрысвяты на Браслаўшчыне (1929). У тэорыі — манаграфія «Эвалюцыя і рэформа дзераўлянага будаўніцтва» (1940, рукапіс), дзе аўтар абгрунтаваў важнасць захавання нацыянальнай традыцыі ў архітэктуры. У педагогіцы — створаная ім у 1925 годзе ў Вільні Мулярская школа-вучэльня (з 1927-га — Школа будаўнічых рамёстваў) з бурсамі для студэнтаў, пачатак прафесійна-тэхнічнай адукацыі ў Беларусі.

Не будзем засяроджвацца на палітычнай дзейнасці Вітан-Дубейкаўскага, яго спробы ўладкаваць беларуска-польскія стасункі пасля рэвалюцыі 1917 года ў складзе створанага восенню 1919 года Польска-беларускага таварыства, у якое разам з ім увайшлі княгіня Магдалена Радзівіл, граф Чапскі, Эдуард Вайніловіч ды іншыя вядомыя асобы. Ён ачольваў Варшаўскі Беларускі нацыянальны камітэт (кастрычнік 1919 г.) і быў галоўным урадавым архітэктарам БНР і паўнамоцным прадстаўніком БНР у Варшаве.

Паводле перапісу насельніцтва 1859 года, у Смаленску і Смаленскім павеце жылі 82 636 беларусаў, 7 611 рускіх і 1 077 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Таму ў XIX стагоддзі І. І. Арлоўскі пісаў пра смаленскія кірмашы: «Чуецца сакавітая беларуская гаворка, чуваць гукі дудак, скрыпак і свісцёлак, ідзе жвавы гандаль дзеравяным таварам». Статыстыка не змяняецца і ў перапісе 1897 года (ёсць толькі ўдакладненне па канфесійным стане: каталікоў — 5,7%). Нарэшце, 16 студзеня 1919 года, нягледзячы на перавагу этнічна беларускага насельніцтва (75–80%), бальшавікі далучылі Смаленшчыну да складу РСФСР. Як, зрэшты, і Віцебшчыну з Магілёўшчынай, якія, аднак, вярнулі Беларусі ў 1924 годзе. А на Смаленшчыну — «забыліся».

## Ад 1897-га да сёння

Да асвячэння ў чэрвені 1897 года сцены неагатычнага храма былі размаляваныя, а вокны ўпрыгожаны вітражамі работы варшаўскіх майстроў. Вялікі арган з 28 асноўнымі і 5 дадатковымі рэгістрамі перанеслі з касцёла святой Кацярыны ў Пецярбурзе. Асноўны дубовы алтар упрыгожыла разьба смаленскіх скульптараў — бацькі і сына Сіняўскіх — і абраз Беззаганнага зачацця. Побач з касцёлам узвялі багадзельню.

Адразу пасля рэвалюцыі ўся пералічаная прыгажосць пачала гінуць. Царкоўныя каштоўнасці рэквізавалі. У 1918-м у багадзельні адчынілі вытворчасць шчотак, а 1926 годзе касцёл перадалі музею. У 1939-м распусцілі нават абшчыну, якая яшчэ існавала.

Ужо па Другой сусветнай вайне з касцёла на сметнік выкінулі арган, а ў інтэр'еры спачатку размясцілі зернясховішча, з 1970-х — архіў.

У 1991-м абшчына аднавілася, прывяла да ладу магілкі і атрымала дзеля набажэнстваў могільнікавую капліцу Камароўскіх (асвечаную мітрапалітам Тадэвушам Кандрусевічам). Але спробы вярнуць храм з 1992 года (70 зваротаў у розныя інстанцыі, аж да кіраўнікоў Расіі) застаюцца бясплёнымі. Нават насуперак дадзенаму губернатарам Сяргеем Алтуф'евым у кастрычніку 2010 года слову аддаць вернікам будынак. Пры гэтым, толькі за апошнія гады праваслаўным Смаленска перададзеныя ўсе старыя цэрквы і прапанаваныя 10 участкаў у самых выгодных месцах пад будаўніцтва новых.

З 2010-х касцёл пустуе. Знішчаны фрэскі, вітражы, алтары, разбураецца дах, і нават — ад вільгаці — сцены. Ці ацалее першы твор Вітан-Дубейкаўскага, фактычна — пярліна беларускай культурнай спадчыны — застаецца пытаннем.

# Не цар з'яўляецца законам...



**Па гарызанталі:** 1. Хто ў радасці жыве, таго і ... не бярэ (прыказка). 5. Аматар чаго-небудзь. 10. «...сапраўды падобны на малпу: чым вышэй залезе, тым прыкметней голы зад». Ф.Бэкан. 12. Слаісты мяккі мінерал. 14. Не цар з'яўляецца законам, а ... царом (прыказка). 15. «Ідуць ..., звіняць іх косы,\\ Вітаюць іх буйныя росы». З паэмы Я.Коласа «Новая зямля» («Летнім часам»). 16. Мяшок грошай пераважыць ... мяшкі ісціны (прыказка). 17. «Ёсць ... віды ап'янення: алкаголем, наркотыкамі і ўладай. Апошняе — невылечна». М.Мамчыц. 18. Двухпавярховы свіран. 20. «Разбэшчвае не ..., а страх згубіць уладу». Д.Стэйнбек. 24. Майстэрня з горнам. 25. «Чыноўнік, як у Хрыста за пазухай, калі ... прэзідэнта вісіць за яго спінай». Я.Ханін. 27. Абскарджанне рашэння суда ў больш высокую судовую інстанцыю. 28. Дзе царства паперы, там валакіта ... (прыказка).

**Па вертыкалі:** 1. Лепш за статкам хадзіць, чым ... вадзіць (прыказка). 3. «Другі баран — ні «бэ», ні «...»,\\ А любіць гучнае імя». З байкі К.Крапівы «Дыпламаваны баран». 4. ... — першы шчаслівчык, таму што не меў цёшчы (яўрэйская прыказка). 6. Царскі ... еш, а праўду рэж (прыказка). 7. Пятая ступень гамы. 8. Як з мужыка зробіцца ..., то колам галавы не дастаць (прыказка). 9. Від эластычнай пластмасы. 11. Напрамак у навуковых і вучэбных занятках, якія вызначаюцца адарванасцю іх ад патрабаванняў жыцця. 13. Калі б не ..., засохла б рака (казахская прыказка). 14. Невялікая вузкая вуліца. 17. Частка тэлефоннага апарата. 19. Якія тут ..., калі лупяць падаткі (прыказка). 21. «У ... ўсеагульнай брахні гаварыць праўду — экстрэмізм». Дж.Оруэл. 22. Дзе адзін танцуе, там ... гаруе (прыказка). 23. Асноўны змест разважання. 26. Асадак рэчываў на дне вадаёма.

**Склаў Лявон Целеш,**
**г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Дык шануй, беларус, сваю мову» (НЧ, №18 ад 12 мая):**

**Па гарызанталі:** 3. Кніжыца. 8. Свет. 9. Чало. 10. Грудзень. 13. Талер. 14. Слова. 15. Нізка. 16. Лес. 17. Маці. 18. Твор. 19. Моц. 22. Народ. 23. Зарев. 25. Біцюг. 29. Лістапад. 31. Наём. 32. Пляц. 33. Беларус.

**Па вертыкалі:** 1. «Псалтыр». 2. Век. 3. Курс. 4. Жазло. 5. Альт. 6. Дар. 7. Доктар. 11. Березозол. 12. Філасофія. 20. Багацце. 21. Антэна. 24. Рэтра. 26. Клуб. 27. Шанс. 28. Мёд. 30. Юла.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова № 608

Падпісана да друку 29.06.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.